ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

30 ЧЭРВЕНЯ 1995 г. № 25-26 (3797-3798) Кошт 400 руб.

# ЗАХАВАЕМ МОВУ — ЗАХАВАЕМ НАЦЫЮ

***У Доме літаратара прайшло пасяджэнне "круглага стала" Камітэта абароны беларускай мовы. (Вось так: у суверэннай Беларусі ёсць неабходнасць у такім камітэце). У гэтае грамадскае аб'яднанне, як вядома, уваходзяць Саюз пісьменнікаў Беларусі, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Бацькоўскі камітэт беларускіх класаў і школ г.Мінска, іншыя арганізацыі, аб'яднанні, суполкі, якія разумеюць, што ад захавання мовы залежыць захаванне нацыі. Сумесныя намаганні асабліва неабходны сёння, калі перад беларускай мовай узнікла чарговая пагроза ў выніку правядзення рэферэндуму, згодна з якім статус дзяржаўнай нададзены і рускай мове. Знойдуцца ахвотнікі зноў вярнуцца да паўсядзённага карыстання толькі рускай мовай. Але, як адзначалася на "круглым стале", ніхто не пазбаўляў (і не можа пазбавіць) дзяржаўнасці беларускую мову. Значыць, двухмоўені ў якім разе не павінна змяншаць правы беларускай мовы. Працэс беларусізацыі павінен працягвацца. Між іншым, ніхто не адмяняў і Закон аб мовах.***

***Удзельнікі пасяджэння прынялі заяву "Лёс роднай мовы і задачы грамадскіх арганізацый".***

## "ЛЁС РОДНАЙ МОВЫ І ЗАДАЧЫ ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ"

### ЗАЯВА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ "КРУГЛАГА СТАЛА"

***1. Антыбеларускія сілы, паслядоўна імкнучыся да знішчэння нашае дзяржавы, навязалі краіне незаконны рэферэндум, які паставіў пад пагрозу будучыню беларускае мовы і нацыянальнае культуры.***

***У бліжэйшы час нельга разлічваць на спрыянне цяперашніх уладаў беларускаму нацыянальна-культурнаму і моўнаму адраджэнню. Асноўным гарантам перспектывы беларускае мовы зноў становіцца грамадскі рух.***

***2. У новай сітуацыі вызначаецца прыярытэт наступных стратэгічных задач:***

***- скансалідаваць усе сілы, якія выступаюць за выкананне Закона аб мовах;***

***- дамагацца безумоўнага выканання палажэнняў Закона аб мовах і Канстытуцыі ад усіх дзяржаўных органаў і ўстаноў;***

***- захаваць кадравы патэнцыял і стварaць метадычную базу беларускамоўнага выкладання на ўсіх узроўнях адукацыі;***

***- ствараць незалежную беларускамоўную інфармацыйную прастору;***

***- зарыентаваць на моладзь папулярызацыю гістарычных і нацыянальна-культурных ведаў і беларускамоўную масавую культуру.***

***Для выканання пастаўленых задач неабходна супрацоўнічаць з магчымымі спонсарамі нацыянальна-культурных праграм.***

***3. Дзеля каардынацыі працы ў названых кірунках стварыць пры Каардынацыйным камітэце абароны беларускай мовы адпаведныя структуры з удзелам прадстаўнікоў грамадскіх, культурных і палітычных арганізацый.***

***4. Прыняць неадкладныя захады дзеля захавання і абароны наяўных беларускамоўных навучальных і дашкольных устаноў, класаў, груп, а таксама стварэння новых, у тым ліку недзяржаўных, беларускамоўных навучальных устаноў з высокім узроўнем выкладання. Аднавіць працу Таварыства беларускай школы.***

***5. Правесці агульнанацыянальную канферэнцыю з мэтай выпрацоўкі стратэгіі і тактыкі супольных дзеянняў дзеля абароны роднай мовы.***

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

**Паважаныя прыхільнікі "ЛіМа". Вынікі падпіскі сведчаць пра тое, што не ўсе з вас прадоўжылі сяброўства з нашым штотыднёвікам з трэці квартал. І мы разумеем вас: афармляць падпіску на выданне, якое не выходзіць, не выпадала. Сёння сітуацыя палепшала, мы зноў выходзім. Таму раім вам, сябры, зазірнуць на пошту і выпісаць "ЛіМ" на жнівень і верасень. Гэта зрабіць яшчэ не позна. Кошт падпіскі на два месяцы — *10 тысяч рублёў* у Мінску і *8 тысяч* — па-за сталіцай.**

**Наш індэкс ранейшы — *63856*.**



# "АД КАЗАК ВЕЧАРОЎ..."

Міжволі ўспомніш крылатыя паэтычныя радкі, пабываўшы на канцэрце Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча... Мілагучныя песні, жанравыя музычна-сцэнічныя замалёўкі, яскравыя танцы, — усё ў самабытным мастацтве знанага калектыву і сапраўды — "ад роднае крыніц, ад гоману бароў". Пры канцы вясны Акадэмічны народны хор Беларусі, якім кіруе таленавіты пераемнік і вучань Генадзя Іванавіча Цітовіча — народны артыст рэспублікі прафесар Міхась Дрынеўскі, выступіў з вялікай праграмай у Канцэртнай зале філармоніі. Сталічныя аматары харавых спеваў, вядома ж, заўважылі, наколькі разнастайны сёння рэпертуар у папулярнага калектыву: тут і вакальна-харэаграфічныя кампазіцыі, і аркестравыя найгрышы (музычны кіраўнік — Мікалай Сірата), і песні розных народаў. Але найперш — песні беларускія. Тыя, што "ад роднае крыніц"... Здаецца, проста немагчыма перадаць абаяльнасць музычна-сцэнічнага мастацтва праз рэпартажны газетны фотаздымак. І ўсё ж — пагадзіцеся, нельга не ўсміхнуцца разам з такімі шчырымі артыстамі!

**С. Б.**

*Фота А. МАЦЮША*

# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***Лета коціцца да свайго зеніту — заўтра ўжо ліпень. Час водпускаў і адпачынкаў, сезон курортнага і дачнага зацішша. Ды гэта там, на сытым, самазадаволеным, упарадкавана мерным Захадзе. А ў нас? Лета, вядома, ёсць лета. Яно нас і не абыходзіць. Нешматлікія "новыя" накіроўваюцца на Канары, Кіпр ці, ў горшым выпадку, Балгарыю, а рэшта старанна гарбее на сваіх чатырох ці шасці сотках, на прысядзібных участках — дбае аб запасах на непрадказальную зіму. А што ж у грамадска-палітычным жыцці краіны? Тут зацішку і спакою няма...***

## *РАШЭННЕ ТЫДНЯ*

Прафкам Мінскага трактарнага завода прыняў рашэнне ўзяць удзел у маючых адбыцца акцыях пратэсту. Што маецца на ўвазе? Лідэры двух буйнейшых прафсаюзаў — аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання і электроннай прамысловасці — тыдзень назад заявілі аб намеры пачаць арганізацыю масавых акцый пратэсту ў адказ на невыкананне ўрадам Генеральнага пагаднення на 1995 год і адміністрацыяй прадпрыемстваў калектыўных дагавораў з прафсаюзамі. На пасяджэнні прафкама МТЗ адзначалася, што сацыяльна-эканамічная палітыка Кабінета Міністраў вядзе краіну да немінучай гібелі. Аднак пакуль што асноўным патрабаваннем рабочых будзе патрабаванне надаць заработнай плаце статус пазачарговага першараднага плацяжу. Як кажуць, першы званок?

## *ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ*

***"Премьер Ли в гостях у президента Лу..." (Газета "Имя", 26 чэрвеня г.г.)***

## *АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ*

Заўтра ў сталіцы рэспублікі — свята. Традыцыйнае ўжо, звязанае з днём вызвалення Мінска і Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. А напярэдадні, гэта значыць сёння, метрабудаўнікі зрабілі гораду падарунак: прынялі першых пасажыраў дзве новыя станцыі метро — "Пушкінская" і "Маладзёжная". Натуральна, падзея не прайшла непрыкметна: адбылося ўрачыстае адкрыццё станцый. Што ж, паболей бы такіх і падобных да гэтага адкрыццяў!

## *РАСПАРАДЖЭННЕ ТЫДНЯ*

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь абавязаў Кабінет Міністраў арганізаваць распрацоўку ўзораў знака асобай адзнакі — медаля Героя Беларусі, ордэнаў, медалёў, нагрудных знакаў да ганаровых званняў і ў двухмесячны тэрмін прадставіць на зацвярджэнне іх эскізы і апісанне. Гэтым жа распараджэннем Адміністрацыя прэзідэнта павінна распрацаваць узор пасведчання да дзяржаўных узнагарод, а Кіраўніцтва справамі прэзідэнта — арганізаваць выраб неабходнай колькасці ордэнаў, медалёў і нагрудных знакаў. Як кажуць, даўно пара. Адно бянтэжыць: ці не будзе ўсё гэта мець бээсэсэраўскае адценне?

## *УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ*

28 чэрвеня споўнілася 53 гады з дня трагічнай смерці Янкі Купалы. З гэтай нагоды на Вайсковых могілках у Мінску ля помніка песняру адбылася памінальная цырымонія. Прагучала малітва за ягоную душу і нашу краіну. Не трэба тлумачыць, з якімі пачуццямі і настроем стаялі людзі каля магілы слаўнага сына Беларусі. "Нам сёння цяжка, — сказаў Ніл Гілевіч, — але будзем памятаць, што Янку Купалу было яшчэ цяжэй".

## *ПАЦВЯРДЖЭННЕ ТЫДНЯ*

Адбыўся другі тур выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў. Яны аказаліся амаль паўсюль больш выніковымі, чым у часе першага тура. А вось адну заканамернасць яны яшчэ раз пацвердзілі красамоўна. Сярод дэпутатаў мясцовых органаў улады, асабліва на раённым узроўні, — большасць тых, што былі ў гэтых органах і раней. Гэта пераважна кіраўнікі, найбольш старшыні калгасаў і дырэктары саўгасаў, якія, як і калісь, выбіраліся безальтэрнатыўна ў далечыні ад райцэнтраў. Ну, а як жа інакш? Не любяць гэтыя таварышы, калі іх называюць "чырвонымі памешчыкамі", ды ў назве такой ёсць вялікая доля ісціны...

## *ТЛУМАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

Пракуратура рэспублікі завяршыла праверку варункаў "зняцця" 16 траўня з будынка рэзідэнцыі прэзідэнта Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь. Як вядома, т.Ціцянкова абвінавачвалі ў абразе дзяржаўнага сімвала Беларусі. Пракуратура прыйшла да высновы, што ў ягоных дзеяннях складу злачынства не было. Проста "сняли с флагштока пришедшее в негодное состояние для дальнейшего использования в качестве флага полотнище; оно было утилизировано на крыше здания путем разрыва на лоскуты на основании действующего положения по бухгалтерскому учету малоценных и быстроизнашивающихся предметов". Цікава, што аналагічныя дзеянні мінскіх студэнтаў у адносінах да сярпаста-малаткастага сцяга БССР пракуратура трактавала як злоснае хуліганства ў спалучэнні з асаблівым цынізмам.

## *ЗАЯВА ТЫДНЯ*

39 дэпутатаў "старога" Вярхоўнага Савета падпісалі заяву для друку адносна "насаджаемага шэрагам адказных пасадавых асоб міфа аб нелегітымнасці Вярхоўнага Савета 12-га склікання". Дэпутаты заяўляюць, што адзіны шлях "уступлення ў свае паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета 13-га склікання — гэта правядзенне паўторных выбараў"; што "да таго часу, пакуль Вярхоўны Савет 13-га склікання не ўступіць у свае законныя правы", яны будуць ажыццяўляць "дэпутацкія паўнамоцтвы для выканання свайго канстытуцыйнага абавязку"; што "любыя спробы... абмежаваць паўнамоцтвы адзінага заканадаўчага і вышэйшага прадстаўнічага органа ўлады краіны... з'яўляюцца супрацьзаконнымі..." Значыць, памінкі па "старым" парламенце не адбыліся? Супрацьстаянне працягваецца?

## *РЭКАМЕНДАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні культурнай спадчыны прыняла пастанову, у якой у адпаведнасці з вынікамі рэферэндуму рэкамендуе міністэрствам і ведамствам здзейсніць мерапрыемствы, накіраваныя на рэальнае авалоданне супрацоўнікамі дзяржаўнага апарату дзвюма мовамі. Прычым акцэнт у гэтай справе робіць на той мове, якую ведаюць горш. Рэкамендуецца, каб абітурыенты здавалі два экзамены: па беларускай мове і па рускай. Хутчэй за ўсё, дзяржапарат гэтыя рэкамендацыі праігнаруе. Не для таго яны змагаліся з нашай мовай, каб цяпер яе вучыць.

---

1945-1995

# ДВА ПАРАДЫ

Фотаздымкі і кадры кінахронікі, прысвечаныя параду Перамогі, што адбыўся ў Маскве 24 чэрвеня 1945 года, безадносна да юбілейнай паўвекавой даты, што адзначалася гэтымі днямі, успрымаюцца і сёння з хваляваннем і, як бы банальна гэта ні гучала, "са слязьмі на вачах".

Падобныя пачуцці выклікае і зафіксаваны ў шматлікіх кіна- і фотадакументах яшчэ адзін парад, які стаў старонкай гісторыі непасрэдна нашай краіны — Беларусі. Гэта парад партызан у ліпені 1944 года ў толькі што вызваленым ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Мінску.

І той, у Маскве, які адбудзецца амаль праз год, і гэты, у Мінску, пры ўсім іх вонкавым непадабенстве, у памяці нашчадкаў засталіся яшчэ адной ілюстрацыяй непахіснай волі народа да перамогі над ненавісным ворагам.

Цяжка ўтрымацца ад таго, каб не правесці яшчэ адну паралель паміж двума парадамі. Перад тымі, хто прайшоў урачыстым маршам па Чырвонай плошчы ў Маскве, наперадзе былі мірныя дні; тых жа, хто прайшоў пад гукі аркестраў вуліцамі разбуранага ўшчэнт Мінска, чакалі яшчэ доўгія месяцы вайны, да пераможнага канца якой выпала дажыць не ўсім — хто падлічыць, колькі былых партызан склалі свае галовы ўжо ў баявых парадках рэгулярных войскаў у час наступу ў Польшчы і Венгрыі, Чэхаславакіі і Германіі...

Два здымкі з таго векапомнага ліпеня сорак чацвёртага. Адзін з іх занатаваў калоны партызан, што падрыхтаваліся да ўрачыстага маршу. Другі, заўважым, малавядомы — групу нямецкіх салдат, узятых у палон партызанамі.

*(Здымкі з фондаў Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны).*





---

З нагоды

# А КАЛІ ЯНЫ СТАНУЦЬ ГАСПАДАРАМІ...

Беларусь краіна не надта багатая, народ — як той казаў, "нішчый", але, тым не менш, схільны да раскошы. Мы — адзіная краіна ў свеце, якая мае аж два парламенты, а ў дадатак да традыцыйных структур мясцовай улады — яшчэ і наватвор, паралельную ім па функцыі "вертыкаль".

Наогул, наша рэчаіснасць дае падставы для падобных разваг пра багацце і беднасць. Вось, скажам, змена дзяржаўнай сімволікі. Кажуць, што абыдзецца яна падаткаплацельшчыкам як мінімум у 1,5 трыльёна "зайчыкаў". Але, пэўна, варта лічыць ці не ўдвая больш, таму што доўга сённяшняя сімволіка наўрад ці пратрымаецца, а вяртанне нацыянальнах святынь у ранг дзяржаўных сімвалаў таксама будзе каштаваць дорага. А інакш нельга: не век жа нам быць "северо-западам", а з бальшавіцкай геральдыкай Беларусь у Еўропу не пусцяць.

Пасля таго як над беларускім пасольствам у Лондане павесілі нова-БССРаўскі сцяг, гаспадар будынка (сам з беларускіх эмігрантаў), які дагэтуль, зважаючы на эканамічныя цяжкасці нашай краіны і шануючы памяць аб Радзіме, нават не браў з "кватарантаў" арэндныя платы, прапанаваў паслу з усім персаналам пашукаць іншае памяшканне.

Беларуская дыяспара, якая пасля абвяшчэння незалежнасці і надання статуса дзяржаўных сімвалаў Пагоні і бел-чырвона-беламу сцягу скарыстоўвала свой уплыў дзеля таго, каб стварыць у свеце прывабны вобраз Рэспублікі Беларусь, зараз спыняе кантакты з дзяржаўнымі структурамі РБ. А страчаны імідж — гэта страчаныя грошы.

Не так даўно мне давялося браць удзел у эканамічным семінары для журналістаў, наладжаным Інстытутам прыватызацыі і менеджменту. Нечаканай для мяне была інфармацыя, што вынікі нашага "рэферэндуму", які павінен быў прадэманстраваць усяму свету і найперш Расіі гатоўнасць Беларусі адмовіцца ад сімвалаў незалежнасці і самога суверэнітэту на карысць усходняга суседа, вельмі адмоўна былі ўспрыняты аўтарытэтамі фінансавага свету Расіі. Шэраг сур'ёзных расійскіх банкаў, якія раней збіраліся браць удзел у працэсе прыватызацыі на Беларусі, інвеставаць нашы прадпрыемствы, пасля "рэферэндуму" ад свайго намеру адмовіліся. Новыя-старыя сімвалы над Домам урада не прываблівающь людзей з грашыма, у роўнай ступені палохаюць не схільных да авантур, паважаючых сябе бізнесменаў і з Усходу і з Захаду.

Калі Бог хоча давесці, што нейкая падзея альбо з'ява непазбежныя, ён выбірае выканаўцамі тых, хто найменш дзеля гэтай справы падыходзіць. Возьмем прыклады з найноўшай гісторыі. Пачатак так званай дэмакратызацыі ў СССР прыпадае на час, калі на чале дзяржавы быў кадэбэшнік Андропаў. Ці можна ўявіць такое: выхаванец і колішні кіраўнік КДБ дае "добро" непрадказальнаму, але відавочна згубнаму для імперыі СССР дэмакратычнаму працэсу?

Генсек з дыктатарскімі схільнасцямі Гарбачоў, упэўнены, што без КПСС няма дзяржавы, уласнаручным подпісам скасоўвае ўласную партыю.

Сёння на Беларусі рынкавая эканоміка, як гэта ні парадаксальна, хутчэй за ўсё зацвердзіцца ў выніку барацьбы... прэзідэнта-антырынačніка з камуністычным Вярхоўным Саветам. Што гэта будзе за рынак, справа іншая. Адзін журналіст на прыгаданым вышэй семінары казаў: "Мне даводзілася размаўляць і з міністрамі, і з людзьмі прэзідэнта. Магу сцвярджаць: дурняў сярод іх няма. Таму я не схільны верыць іх антырынкавым заявам, іх настальгіі па СССР. Усё гэта толькі дзеля таго, каб не далусціць да карыта іншых. А калі яны скончаць "прыхватызацыю", стануць гаспадарамі — вось тады і будуць прыняты законы, якія абараняюць прыватную ўласнасць. Іхнюю ўласнасць".

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

---

# ДЫЗАЙН, ЯКІ ВЫХОДЗІЦЬ У ЖЫЦЦЁ

У Рэспубліканскім выставачным цэнтры Міністэрства эканамічных сувязяў Беларусі (будынак былога ВДНГ) працягваецца (па 1 ліпеня) першая рэспубліканская выстава "Дызайн і быт-95". Гэта першая спроба давесці да прамыслоўцаў мастацкія распрацоўкі ў галіне дызайну і такім чынам распачаць, нарэшце, стабільнае павышэнне мастацкага ўзроўню прадукцыі беларускіх вытворцаў. Таму адным з арганізатараў выставы выступіла Міністэрства культуры і друку, а асноўнымі ўдзельнікамі сталі Беларуская акадэмія мастацтваў і Беларускі інстытут дызайну. Яны прадставілі свае дызайнерскія распрацоўкі, якія ў асноўным з-за нецікаўнасці да іх прамысловасці так і не знайшлі масавага скарыстання. Тым больш не сакрэт, што нашы спецыялісты па ўзроўні сваёй прафесійнай падрыхтоўкі не саступаюць заходнім калегам, хаця прадукцыя на паліцах магазінаў гаворыць пра адваротнае.

Падчас работы выставы праходзяць паказы мадэляў адзення, канферэнцыя па праблемах дызайну ў айчыннай прамысловасці.

**Н. К.**

# БЕЛАРУСКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ — 20

Споўнілася дваццаць гадоў з дня выхаду апошняга тома дванаццацітомнай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі — першай нацыянальнай энцыклапедыі ў гісторыі Беларусі. Тым самым быў пакладзены пачатак мэтанакіраванаму выпуску розных даведачных і слоўнікавых выданняў. З 1967 года, а гэта, як вядома, час утварэння Галоўнай рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (цяперашняе выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі), выйшла каля 500 розных кніг. На падыходзе ж новыя, бо, як ні цяжка даводзіцца, выдавецтва працягвае працаваць. Рыхтуюцца такія энцыклапедычныя даведнікі, як "Беларускае замежжа", "Тэатральная энцыклапедыя", "Чарнобыль", "Мысліцелі і асветнікі Беларусі" — усяго ў рабоце знаходзіцца недзе каля ста выданняў. І, безумоўна, сярод іх асаблівае месца займае 18-томная Беларуская Энцыклапедыя. Першы яе том плануецца выпусціць ужо сёлета, апошні — да 2000 года.

Безумоўна, у параўнанні з энцыклапедыяй-першынцам яна будзе значна выйграваць. Што ж, мяжы дасканаласці ніколі няма...

# "НІКОЛІ Я НЕ ПАМІРАЎ"

*Янку КУПАЛУ*

***Гэтыя словы "Ніколі я не паміраў" паэт напісаў, калі быў уратаваны пасля спробы самагубства ў 1930 годзе.***

**"Ніколі я не памірраў".**
**Я захлынаўся чыстым болем**
**у чорных здрадніцкіх вірах,**
**у хіжай бездані бяздолля.**
**Ды я не паміраў. Ніколі.**
**"Ніколі я не паміраў".**
**Хоць серпавалі, секлі сэрца**
**ў чужых бязлітасных мурах,**
**у непрагляднай паняверцы...**
**Ці мог, ці права меў памерці?**
**"Ніколі я не паміраў".**
**Малаткавалі чуйны розум,**
**падманна зваблівай міраж**
**у царства розгаў і пагрозаў.**
**Не паміраў я па дарозе.**
**"Ніколі я не паміраў".**
**Адчай вулканілі сасуды.**
**Драпежна зеўрала дзіра**
**і жыцці ўсмоктвала бяссудна.**
**Не паміраў я перад Юдай.**
**... Не паміраў**
**прад светлым людам.**
**"Ніколі я не паміраў".**
**Не прадаваў ніводнай хвіляй**
**збалелы, змучаны мой Край,**
**дзядоў і праўнукаў магілы.**
**Не паміраў. Душа не стыла.**
**... Не нада мною крыж пахілы.**
**Не паміраў ніколі я.**
**Не адступаўся перад смерцю.**
**Айчына гордая мая,**
**у пельцы дай цябе сагрэці.**
**Не, нам з табою не памерці.**
**Паэты вечныя на свеце...**

**Антаніна ХАТЭНКА**

# РАЗВІТАННЕ З ПАГОНЯЙ

**Бывай жа, Рыцар наш!**
**Ды — не навекі!**
**Цябе, дайшоўшага да нас**
**цераз вякі,**
**Разбілі ў пыл**
**духоўныя калекі:**
**Бязбожнікі,**
**душы гвалтаўнікі.**

**Хацеў данесці**
**Ты Свайму народу**
**Святло, Надзею,**
**Веру і Любоў.**
**І з Крыжам Еўфрасіннеўскім**
**— Свабоду,**
**Каб нам не быць**
**халопамі ізноў.**

**Сціскае сэрца боль:**
**не ўратавалі**
**Таго, Хто нас прыйшоў**
**абараняць.**
**Разбілі, і спынілі,**
**і стрымалі,**
**Каб родны край**
**на вечны глум аддаць.**

**Бывай, Ваяру!**
**Не крыўдуй на люд свой!**
**Даруй, як ворагам сваім**
**Ты дараваў.**
**Спіць наш народ. Дай Бог,**
**каб ён прачнуўся,**
**Народ-манкурт**
**каб Беларусам стаў...**

**Антон АЛЯШКЕВІЧ**

*г.Асіповічы*

# ПАДЗЕЯ З НАГОДЫ АДНАГО КУПАЛЛЯ

Згадзіцеся, міжнародная навуковая канферэнцыя для Мінска — ужо не навіна. Падзея гэтая апошнім часам не выклікае ўжо залішніх эмоцый, хаця кожная з іх і мае значэнне для пэўнай галіны культуры.

На апошняй з іх — "Музеяфікацыя гістарычных тэрыторый" — былі пастаўлены пытанні аб адраджэнні і ахове ландшафтных помнікаў, паркаў, унікальных гістарычных мясцін, якіх на Беларусі — вялікае мноства і якія ў асноўным знаходзяцца ў стане запусцення і разбурэння. Удзел у канферэнцыі бралі, побач з нашымі навукоўцамі, расійскія, літоўскія, латышскія, польскія.



Адметнасцю канферэнцыі сталася тое, што яна была прадоўжана ўжо не ў зале, а на прыродзе, так бы мовіць. Удзельнікі і госці былі запрошаны за сорак кіламетраў ад сталіцы ў Музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі" (гаспадар — фірма "Паліфакт"), што на жывапіснай рацэ Пціч. Там адбылося свята, умоўна названае Купаллем.



Увогуле, Дудуткі — месца вядомае. Яно згадвалася ў "Слове пра паход Ігаравы", з ім звязаны імёны родаў Заранкі-Габроўскага, Прозараў, Ельскіх. Менавіта Караль Ельскі зрабіў Дудуткі "сялібай муз". Ягоны сын Міхал як кампазітар і скрыпач пакарыў Беларусь, Літву, Украіну, Польшчу, Германію, а брат Аляксандр праславіўся як пісьменнік, гісторык, краязнаўца, сябра і біёграф Дуніна-Марцінкевіча, але найбольш — як стваральнік музыкі.

Ад сялібы цяпер застаўся адно падмурак, часткова захаваўся і старажытны парк — рэшткі альтанак ды масткоў сярод зарослых бур'янам дрэў.

Усё гэта можна аднавіць. Сёння, калі не стае сродкаў нават на кансервацыю помнікаў, гаварыць пра аднаўленне, здавалася б, смешна. Ды, як ні дзіўна, сялібу ўсё ж мяркуецца аднавіць. Існуе план, распрацаваны канцэпцыі, нават распачаты работы. На ўсё гэта патрэбны вялікія выдаткі і мужнасць патраціць іх менавіта на культуру, якая часцей за ўсё прыбыткаў не прыносіць. Зразумела, можна згадаць некалькі выдатных дзяржаўных музейна-ландшафтных комплексаў — тое ж Заслаўе, Полацк. Але пры цяперашніх умовах культуры не абысціся без зацікаўленых прамыслоўцаў, прыватных арганізацый, якія будуць такім чынам працаваць на карысць яе і свайго іміджу, як гэта робіцца ва ўсім свеце. І адзін з прыкладаў — кнігавыдавецкая фірма "Паліфакт" у асобе яе старшыні і заснавальніка Яўгена Будзінаса. Ён мяркуе стварыць у Дудутках цэльны комплекс — з рэстаўраваным паркам, з працуючым ужо млынам, з Музеем тэхналогій, знешне падобным на мураваны панскі маёнтак, а на самай справе — гэта дабротныя сялянскія майстэрні з кузняй, маслабойкай і вырабам хатніх кілбас, ганчарным колам, з печчу для хлеба, з прыладамі для рэстаўрацыі старых аўтамабіляў. Карацей, маленькая працуючая гаспадарка, з напаўсувенірнай, напаўмузейнай прадукцыяй.

І яшчэ такі факт. Фірма літаральна за некалькі дзён выдала падрыхтаваны музыказнаўцамі альбом музыкі Ельскіх, з анатацыяй, малюнкамі, нотамі. Выдала на выдатнай паперы, з паліграфічным густам і з неймаверна маленькім коштам.



Увечары для гасцей "Купалля" прагучаў канцэрт Беларускай капэлы, на якім выконвалася музыка Ельскіх, а таксама С.Манюшкі, М.Агінскага, П.Чайкоўскага, Ф.Шапэна. А пасля ўсю ноч ладзіліся купальскія гулянні з вогнішчам, забавамі, тэатралізаваным прадстаўленнем, крупнікам, блінамі. Ну, а хто хацеў, той і купаўся-плаваў у Пцічы...

**Н. Ш.**

*На здымках Г.ЖЫНКОВА: Музей тэхналогій; на свята — конікам; у купальскую ноч.*

Пошта

# НЕ ПАВЕЛ, А САУЛ...

## АДКРЫТЫ ЛІСТ АДНАМУ З ДВАЦЦАЦІ ПЯЦІ

***Шаноўная рэдакцыя!***

***У штотыднёвіку "Сталіца" за 13 мая быў надрукаваны спіс членаў "агітацыйнай каманды", утворанай з мэтай заахвоціць грамадзян станоўча адказаць на ўсе пытанні рэферэндуму. У гэтым спісе я сустрэла і прозвішча чалавека, якога некалі паважала. Не буду называць яго імя — ён сам сябе пазнае, калі Вы змесціце ў сваёй газеце мой адкрыты ліст да яго.***

Віншую Вас, мой былы сябар, — вось Вы і трапілі "ў абойму". У спіс самых актыўных, самых адданых прыхільнікаў ідэі пра ўзнаўленне ў складзе Расіі колішняга паўночна-заходняга краю.

Калісьці Вы ганарыліся тым, што мелі рэпутацыю "дысідэнта" і "нацыяналіста". Калісьці Вы пісалі пранікнёныя вершы ў абарону беларускай мовы. Цяпер ужыванне гэтай мовы зрабіла Вас вельмі карысным членам "групы падтрымкі" рэферэндуму: калі чалавек па-беларуску гаворыць пра неабходнасць дзяржаўнасці рускай мовы, гэта ўражвае больш, чым падобныя разважанні з вуснаў кагосьці іншага...

Колькі я Вас памятаю, Вы заўсёды з некім і нечым змагаліся. Вас захаплялі пошукі "ворагаў" — ці то "казнакрадаў", ці то "сіяністаў". А потым Вы канчаткова знайшлі сябе ў барацьбе, якую, я ведаю, шчыра лічыце справядлівай.

Так, у адрозненне ад многіх, Вы не імкняцеся да грошай і ўлады, а дзейнічаеце "ад усяго сэрца". Тым горш. Прыстасаванцаў-кар'ерыстаў яшчэ неяк па-чалавечы можна зразумець...

Ці помніце Вы свае колішнія вершы? Ці помніце той папрок да рускамоўных "сябрукоў-аднагодкаў", калі Вы пыталіся ў іх: "На мове якой вам сны ў маленстве сніліся?". І далей: "Скажыце, якой сякерай вам памяць па самыя плечы адсекла?". Вось і я цяпер хачу спытацца — у Вас: а якой сякерай Вам адсекла тую памяць?

У тым спісе, куды Вам выпаў гонар трапіць, я ўбачыла многія знаёмыя (сумна знаёмыя) прозвішчы, але асабіста ведаю толькі Вас і яшчэ аднаго чалавека, сустрэча з якім, помніцца, мяне моцна ўразіла. Было гэта летась у пачатку навучальнага года, калі ў класе, дзе вучыцца мая дачка, праходзіў бацькоўскі сход. На тым сходзе адзін малады і прыгожы тата выступіў з палымянай прамовай супраць настаўніка фізікі, які "пасмеў" выкладаць свой прадмет па-беларуску. Я ведала сітуацыю ў класе, ведала, што дзеці (ды і не такія ўжо дзеці — 15-16 гадоў) не маюць нічога супраць такога выкладання, бо настаўнік — цудоўны, разумны, вельмі адукаваны чалавек, але той бацька літаральна заткнуў мне рот. І хуценька арганізаваў збор подпісаў пад патрабаваннем "спыніць моўны гвалт". Астатнія бацькі самі да такога, канечне ж, не дадумаліся б, таму што дзеці ім ніколі не скардзіліся (выкладанне па-беларуску ішло не першы год, гэта хіба што дачка таго таты была ў класе новенькай), але прамоўца, член Вашага любімага Славянскага сабора, валодаў усімі якасцямі "агітатара і прапагандыста"... У выніку настаўнік пакінуў школу, бо ён таксама не захацеў цярпець гвалту. А хіба ёсць такі закон, каб у Беларусі можна было забараніць некаму размаўляць па-беларуску: ці то ў школе, ці то ў лазні? Тады, год назад, беларуская мова была яшчэ адзінай дзяржаўнай, а што ж будзе сёння?

Вось такія ў Вас зараз сябры і паплечнікі. Ну добра, той чалавек — рускі, і ён, напэўна, проста на сваім генным узроўні не можа зразумець боль і жах беларуса, які ўсведамляе, што са стратай мовы страчваецца і надзея на тое, што не загіне народ. Але ж Вы — беларус. Вы — вялікі знаўца творчасці Янкі Купалы, колішні захоплены "экскурсавод" па купалаўскіх мясцінах, які ведаў і любіў кожную крынічку, кожны камень у наваколлі славутых Акопаў. Што сёння сказаў бы Вам той жа Купала?

У Вашай даўняй кніжцы вершаў ёсць і такія радкі: "Беларускі Народзе! Ты ў вяках не загінуў і ніколі ўжо не загінеш..." А сёння Вы — разам з тымі, хто ўжо трымае напагатове асінавы кол, каб загнаць яго ў магілу гэтага самага беларускага народа.

Вы, канечне, ведаеце пра новазапаветнага Саула, які люта праследаваў першых хрысціян, а потым чароўна перамяніўся і стаў апосталам Паўлам. Мне здаецца, што Вы паўтарылі гэты шлях, але ў адваротным накірунку — з Паўла сталі Саулам...

**А.РАМАНОЎСКАЯ**

*P.S.* Не сумняваюся, што Вы мяне пазналі, хоць я і падпісалася не сапраўдным сваім прозвішчам. А раней не баялася падпісваць і куды больш рэзкія допісы. Але часы змяніліся... У гэтым, між іншым, і Ваша заслуга.

**А.Р.**

# КАЛЯНДАР ЧЭРВЕНЯ

**5 чэрвеня споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння паэта Зямы ПІВАВАРАВА (1910—1937). Першы верш апублікаваў у 1925 годзе. Друкаваўся ў ленінградскіх часопісах і беларускіх альманахах. Аўтар зборніка вершаў "Лірыка двух нараджэнняў" (1934). Выступаў у перыядычным друку як тэатральны крытык. У 1936 годзе рэпрэсаваны. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 года.**

**7 чэрвеня споўнілася 170 гадоў з дня нараджэння Эдварда ПАЎЛОВІЧА (1825—1909). Мастак, мемуарыст, які жыў на Беларусі, выкладаў у гімназіях. У 1857 годзе ў Парыжы выдаў брашуру "Колькі слоў літвіна", у якой адстойваў права беларускага сялянства на асвету. Аўтар мемуараў "Успаміны з-пад Віліі і Нёмана" (1882), "Успаміны. Наваградак—турма—выгнанне" (1887), "З падарожжа па Літве" (1890), "Мае ўспаміны з часоў настаўнічання на Літве колькі дзесяткаў год назад" (1904) і іншых.**

**12 чэрвеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, пісьменніка Леапольда РОДЗЕВІЧА (1895—1938). З першымі допісамі і вершамі выступіў у 1912 годзе на старонках "Нашай Нівы". Аўтар п'ес "Пакрыўджаныя", "Блуднікі", вадэвіляў "Збянтэжаны Саўка", "Пасланец", "Багаты і бедны", драматычных жартаў і абразкоў, якія ставіліся самадзейнымі калектывамі Заходняй Беларусі. Выйшлі зборнікі вершаў "Беларусь" (Вільня, 1922), "На паняволеных гонях" (у 1928 годзе, падпольнае выданне, хоць на вокладцы пазначаны Кракаў). Выдаў кнігі апавяданняў "Рэвалюцыйным шляхам" (1928) і "Вогнішча барацьбы" (1930). Выступаў з перыядычнымі артыкуламі. Жарт Л.Родзевіча "Збянтэжаны Саўка" ў 1964 годзе выйшаў асобным выданнем. Л.Родзевіч быў рэпрэсаваны, бясследна загінуў пасля 1938 года.**

**17 чэрвеня — 80 гадоў з дня нараджэння рускага паэта, перакладчыка беларускай літаратуры Дзмітрыя КАВАЛЁВА (1915—1977). Нарадзіўся ў горадзе Ветцы Гомельскай вобласці. Першы верш апублікаваў у 1937 годзе. Выдаў не адзін дзесятак кніг паэзіі, у асноўным у Маскве. У Маскве выйшла кніга публіцыстыкі "Наедине с жизнью" (1979). Пераклаў на рускую мову зборнікі паэзіі Н.Гілевіча "Песню бярыце з сабою" (1959), А.Лойкі "Мая планета" (1971), М.Сурначова "Адна любоў" (1971), А.Грачанікава "Зоркі і курганы" (1976), раман І.Мележа "Подых навальніцы" (1967), кнігі прозы Я.Брыля "Жменя сонечных промняў" (1968), "Акраец хлеба" (1977), дакументальную кнігу А.Адамовіча, Я.Брыля, У.Калесніка "Я з вогненнай вёскі...", паасобныя вершы беларускіх паэтаў.**

**28 чэрвеня — 90 гадоў з дня нараджэння рэжысёра і драматурга, народнага артыста Беларусі Віктара ГАЛАЎЧЫНЕРА (1905—1961). Першую п'есу "Гаўрош" напісаў па матывах рамана В.Гюго і апублікаваў у 1925 годзе. Аўтар п'ес "Велікадушнасць", "Урок жыцця", "Да вяршынь", "Прафесар гісторыі". Выступаў і як тэатральны крытык.**

# ПАДЗЯКА ПАСЛА

**Напрыканцы мінулага года ў Мінску ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі па ініцыятыве Лідскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны пры актыўным удзеле і падтрымцы Лідскіх гарвыканкама і райвыканкама, аддзела адукацыі гарвыканкама, некаторых дзяржаўных і камерцыйных прадпрыемстваў г. Ліды была арганізавана унікальная выстаўка мастацкіх твораў школьнага аб'яднання "Лідзяне". Яе ўдзельнікі — выкладчыкі і вучні сярэдняй школы N 14 г. Ліды — прапанавалі мінчанам каля трохсот твораў рознага жанру.**

**Адзін з удзельнікаў гэтай выстаўкі, выкладчык выяўленчага мастацтва школы, удзельнік і арганізатар трох абласных, шматлікіх школьных выставак, мастак Уладзімір Мельнікаў пры закрыцці выстаўкі ў студзені г. г. выказаў пажаданне перадаць адзін з яго твораў — партрэт Маргарэт Тэтчар — пасольству Вялікабрытаніі. Ім было выказана пажаданне, каб гэты падарунак быў перададзены пасольству ад імя жыхароў г. Ліды, Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ і Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. "Няхай гэты падарунак, — сказаў мастак, — паслужыць залогам далейшай дружбы паміж нашымі народамі".**

**Пажаданне і просьбу Уладзіміра Сцяпанавіча супрацоўнікі сакратарыята ТБМ выканалі напярэдадні свята Перамогі.**

**Нядаўна ж на адрас мастака Мельнікава, Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ і Рэспубліканскай рады ТБМ атрыманы ліст пасла Вялікабрытаніі Джона Эверарда. Ён піша:**

**"Для Пасольства і асабіста для мяне вялікі гонар мець магчымасць прыняць у падарунак нашаму пасольству ад беларускага мастака Уладзіміра Мельнікава, жыхароў горада Ліды і ад імя Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы партрэт баранэсы Маргарэт Тэтчар.**

**Асабліва прыемна атрымоўваць гэты знак сяброўства паміж нашымі краінамі і народамі сёння, у час святкавання 50-годдзя Вялікай перамогі саюзных краін супраць фашызму у Другой сусветнай вайне.**

**Дазвольце мне выкарыстаць гэтую магчымасць, каб павіншаваць Вас, супрацоўнікаў Таварыства беларускай мовы, жыхароў Ліды разам з усімі беларускімі грамадзянамі, з юбілеем, пажадаць ім усяго найлепшага і яшчэ раз падзякаваць за шчодры падарунак.**

**Мы спадзяёмся перадаць Ваш твор асабіста баранэсе Тэтчар: калі гэта будзе магчымым, Вы павінны атрымаць ліст са словамі падзякі і з яе офіса ў Вялікабрытаніі".**

1945-1995

# АДКУЛЬ У МЯНЕ ДАВАЕННЫЯ ФОТА?

У вершы "Даваенныя фота" незабыўны Пімен Панчанка пісаў:

**"Адкуль у цябе даваенныя фота?**
**У нас усё знішчыў фашысцкі разбой..."**
**Адкуль?**
**Адкажу вам, сябры, я ахвотна:**
**Ад маці,**
**Ад роднай матулі маёй.**

Адкуль жа ў маім хатнім архіве даваенныя фотаздымкі? Архіў свой я назваў асвейскім, і раскажу, як ён ладкаваўся. Большасць здымкаў з яго былі змешчаны ў кнігах "Бранслава", "Освейская трагедия", а таксама ў кнізе народнай памяці "Дзеці вайны", у стварэнні якой я прымаў удзел як складальнік. Асвейшчына, як вядома, была выпалена ўшчэнт. Соф'я Шутко, якая некалі жыла ў Росіцы, мне расказвала, як яна, жыхарка так званага Брацкага партызанскага краю, трапіла ў Саласпілс, прайшла Майданак, Асвенцім, Равенсбрук. За Гамбургам вязняў выратавалі саюзнікі-англічане. Быў у яе сынок, якога бацька, Кобзеў Сяргей Макаравіч, хацеў назваць Лёнікам. Але атрымалася так, што дома яго сталі клікаць Лёшкам, Ляксеем. Аляксеем ён і трапіў у Саласпілс, дзе быў адлучаны ад маці. З канцлагера яго ўзяла ў сваю сям'ю рыжанка Алена Смірнова, а ў









1945 годзе хлапчук быў узяты на выхаванне маёрам Шалыгіным Дзмітрыем Андрэевічам. Зараз жыве на Украіне. Так вось у Росіцы Шутко Соф'я Цімафееўна і передала мне даваенны здымак малодшага лейтэнанта. На адваротным баку было напісана: "На долгую и добрую память сыночку Лёнечке от отца Кобзева Сергея Макаровича. Сыночек, смотри и вспоминай своего отца". Як стала вядома пасля вайны, бацька Шутко Аляксея Дзмітрыевіча (Шалыгіна) загінуў на фронце 10 сакавіка 1943 года. Пахаваны ў Мыскопе Верхне-Баканскага раёна Краснадарскага краю.

Гісторыя другога, таксама росіцкага здымка, такая. Яшчэ адна Шутко, Тамара Мікалаеўна, передала мне яго ў Рызе на вуліцы Гробіняс. Пасля таго, як была спалена карнікамі Росіца, выбіта ўся яе радня, Тамара трапіла ў Саласпілс, дзе выпадкова сустрэла сваю цётку Алену Саўруцкую. Тая ў крысо куртачкі брата Аляксандра ўшыла фота бацькоў, а ў крысо яе палітончыка — фота бабулі і дзядулі. Каб ведалі, чые яны. Толькі ў 1962 годзе брат і сястра сустрэліся ў Латвіі і паказалі свае дарагія рэліквіі.

І яшчэ адзін, таксама росіцкі набытак — падарунак Оруб Надзеі Мікалаеўны, 1922 года нараджэння. Яна цудам уберагла фотаздымак свайго роднага брата Пятра Мясніка, якога карнікі спалілі ў Цагельніках. Сфатаграфаваны ён разам з жонкай — Марыяй Рыгораўнай Гергель. Яна была замужам за пісьменнікам Эдуардам Самуйлёнкам, мела ад яго сына, але не паехала разам з ім у горад, яны развяліся ўрэшце. Марыя Рыгораўна пасля вайны з двума сынамі жыла ў Росіцы. Памерла ў 1954 годзе.

"У Росіцы — адзін бур'ян. Ніводнага чалавека..." Так пісалі калісьці з Бігосава Шутко Соф'і Мікалаеўне, калі яна пасля вызвалення з рабства служыла ў вайсковай часці. Але, як бачым, і ў пустыні цудам могуць захавацца дакументы-сведкі, якія яшчэ паслужаць Памяці.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*На здымках: Марыя Рыгораўна Гергель і Пётр Мікалаевіч Міснік; Кобзеў Сяргей Макаравіч; Тамара і Аляксандр Шутко з бацькамі; дзед і бабуля Т. і А. Шутко.*

Пошта

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА МУЗЕЙ

Нялёгкім быў лёс Яна Баршчэўскага, аўтара вядомай сёння кожнаму паважаючаму сябе беларусу кніжкі "Шляхціц Завальня".

Ян Баршчэўскі — наш зямляк: нарадзіўся ён у вёсцы Мурагі на Полаччыне недзе ў 1796-1799 гадах. Вучыўся, займаўся выдавецкай дзейнасцю, пісаў вершы і друкаваў іх на пачатку сваёй творчасці на беларускай мове. Іх ведаў і любіў народ. Тром яго творам пашанцавала больш, чым іншым; такім, як "Зязюля", якая стала народнай песняй, "Ах, чым жа твая, дзеванька, галоўка занята" і "Гарэліца". А вось "Шляхціц Завальня" напісаны на польскай мове ў той час, калі сама назва "Беларусь" была забаронена. І тым не менш, фантастычныя апавяданні Я. Баршчэўскага неслі ў сабе магутны зарад беларускай ідэі.

Гэта крыху для таго, каб зразумець, пра што пойдзе гаворка далей.

А гаворка наша — пра выставу "Беларусь у фантастычных вобразах" па матывах творчасці Яна Баршчэўскага.

Экспанаты выставы размешчаны ў трох залах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. У першай — назавем яе ўваходзінамі — уваходзіны ў час, свет, жыццё Яна Баршчэўскага. Тут прыклады беларускага пісьменства — "Тарас на Парнасе" і "Энеіда навыварат", узноўленыя ад рукі, партрэт стваральніка "Шляхціца", яго верш "Рабункі мужыка", вядомы яшчэ і пад другой назвай "Бунт халопаў" на беларускай мове, — у ім пра вайну 1812 года на Віцебшчыне. Тут і рэпрадукцыі партрэтаў сучаснікаў нашага земляка — Гогаля, Пушкіна, Шаўчэнкі. З апошнім ён пазнаёміўся ў 1839 годзе, што стала штуршком для больш актыўнай літаратурнай і грамадскай дзейнасці Баршчэўскага.

У другой зале — таксама партрэт пісьменніка (усе яны розных гадоў, кампазіцыя па творы "Шляхціц Завальня". У цэнтры — крэсла, стол, за якім мог бы сядзець сам аўтар. А вакол — фантастычны свет: ступа, сава, арыгіналы ілюстрацый мастака Валерыя Славука да сучаснага выдання "Шляхціца Завальні", або Беларусь у фантастычных апавяданнях".

У трэцяй зале — эпоха ў рэчах, кніжках пра жыццё і творчасць пісьменніка, арыгінальная кніжка Рамуальда Зянкевіча "Ян Баршчэўскі" 1911 года выдання, копіі пісьмаў Я. Баршчэўскага да Юліі Шапялевіч-Корсак і апошні здымак пісьменніка ў 1851 годзе, калі ён жыў на Украіне, дзе і памёр.

Прыцягвае ўвагу куток з фотаздымкамі. Яго можна назваць "Лёс адной сям'і і некалькі пакаленняў вёскі Мурагі" — маленькай радзімы паэта. Тут сабраны рэчы сялянскага побыту: абрус, посцілка, малюнкі мясцін, звязаныя з жыццём Я. Баршчэўскага.

Шмат любові і сіл прыклалі да афармлення выставы аўтар экспазіцыі мастак Уладзімір Кандрацьеў і аўтар сцэнарыя загадчыка абласнога літаратурнага музея Святлана Казлова.

Здавалася, на гэтым можна было б паставіць кропку. На жаль, ранавата. І найперш таму, што няма ў Віцебску яшчэ свайго літаратурнага музея, які павінен быць абавязкова. Ёсць толькі будынак на пр. Фрунзе, 13. Ёсць цудоўны макет будучай экспазіцыі музея. Пра ўсё гэта і іншае я ўжо гаварыў у артыкуле "Макет ёсць — музея няма", ("ЛіМ", 15.7.94). Усё тыя ж праблемы, у першую чаргу матэрыяльныя, засталіся нявырашанымі і па сёння.

Дык што, можа, выставу "Беларусь у фантастычных вобразах" па творах Яна Баршчэўскага ў памяшканні абласнога краязнаўчага музея можна лічыць адкрыццём абласнога літаратурнага музея?

Не выпадае, не стасуецца, не лагічна. Бо ў літаратурнага музея ёсць свой будынак і свае супрацоўнікі, цудоўныя макеты экспазіцыі.

Не хапае толькі аднаго: сумесных намаганняў мясцовых і сталічных улад, каб матэрыяльна дапамагчы адкрыць адзіны такі музей у рэспубліцы.

**Алег САЛТУК,**
**сакратар Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# МОВА — ДАР ДУШЫ

Алесь ЛІСІЦКІ

*Быццам з малітваў узята*
*кожнае матчына слова.*
*(З верша)*

## I

Напачатку было Слова...

Сказаўшы некалі першае слова, чалавек непараўнальна ўзвысіўся над сабою ранейшым і ўсёю бязмоўнай прыродай. Мова дапамагла яму забыцца на першародныя страхі і былую нікчэмнасць на гэтым свеце.

Праз мову ён стаў падпарадкоўваць сабе ўсе інстынкты, якімі дагэтуль жыў і паслугоўваўся, пачаў самаўсведамляць свой вопыт. Тое пазнанне ўрэшце і прывяло яго да самарэалізацыі ў найвышэйшае з формадзеянняў — творчае працы...

## II

Мова — гэта святая ўласнасць душы чалавека, якою нязменна багата яна ад нараджэння да смерці...

Мова — гэта той асяродак, у якім душа чалавечая жыве не менш натуральна, чым птушка ў паветры ці ў вадзе рыба.

Калі чалавек цураецца сваёй мовы, то ён нібы трапляе ў псіхабіяполе з зусім іншай структурай светапоглядна-этычных каштоўнасцей...

Мова — гэта яшчэ і нармальны зрок, дзякуючы якому чалавек бачыць ўсё гэта ў натуральных сваіх фарбах.

А без яе ён — дальтонік...

Мова падобна таксама і на гул звона, што далёка навокал ачышчае паветра. Яна ўносіць у чалавечую свядомасць той біярытм і раўнавагу, якія не дазваляюць яму ўпасці ў маральную прастрацыю.

## III

Каб музычны інструмент гучаў суладна і чыста, яго настройваюць пэўным ладам і на пэўнай ноце.

Тое ж і з чалавечай душой. На непаўторны лад яна настройваецца няйнакш, як толькі гукамі роднай мовы.

Калі ж чалавек змушана або і па дабраволі настроіць яе пад чужую, то ўсё роўна будзе фальшывіць — выдадуць маўленне, артыкуляцыя.

Такі падобны на салдата-няўдаліцу, што дагнаў чужое падраздзяленне і ў хвасце яго стараецца патрапіць дакладна ў нагу.

Гэтага не атрымліваецца і ад празмернага схочу...

Кожны чалавек нараджаецца пад сваёй Зоркай. Той, пад якой упершыню прамаўляе яго імя на сваёй мове Маці.

Той, хто сцураецца сваёй мовы, — здраджвае сваёй Маці, сваім Продкам, свайму Небу.

Які недалёкі чалавек, хто паверыць, што іншамоўцы прымуць яго за свайго і будуць яго паважаць, калі ён сам нават імя свайго не паважае.

Ніводзін на свеце народ не шануе здрайцаў...

## IV

Для фізічна і маральна здаровага чалавека цалкам адэкватная такая рэакцыя:

Калі яго прысаромяць — пачырванее, збянтэжыцца і на момант пачуецца бездапаможным;

калі ж яго без падстаў пакрыўдзяць або абразяць, можа абурыцца, не стрымацца і ўдарыць.

Значыць, Слова — гэта свайго роду магічны гукавы знак, які здольны акумуляваць псіхічную энергію чалавека ў думкі і фізічныя высілкі, уплываць на яго настрой і ўчынкі.

Слова абяззбройвае або падужвае чалавека. Але выключна такое, якое ён разумее і ўспрымае ва ўсіх яго сэнсава-эмацыянальных адценнях.



*Вобразы мілага роднага краю.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА.*

Таму й не дзіўна, што Слова надае чалавеку веры ў сябе, у свае здольнасці, робіць яго літасцівым і справядлівым, бясстрашным і міласэрным. Яно здольна так акрыляць яго пачуцці і думкі, што некуль звыш на яго пачынае сыходзіць бессмяротная музыка або паэзія.

Адначасна Слова можа быць страшнай атрутай, калі ў ім занядбаны сэнс чалавечнасці. Тады яно адбірае ў яго зрок і слых, паралізуе свядомасць і волю, робіць яго жорсткім і баязлівым, глухім да чужога болю і несправядлівым — падобным да прашчура, які толькі яшчэ прадчуваў у сабе нараджэнне першага Слова.

## V

Самыя шчырыя ўзаемаадносіны паміж бацькамі і дзецьмі адмалку і назаўсёды "праграмуюцца" тым універсальным кодам, які выпрацаваны моваю продкаў.

Той код — ідэальны. Ён толькі тады адкрывае Сезам чалавечай душы ва ўсёй яе прыгажосці, калі набраны правільна і без высілку.

Любая памылка зрабіць таго не дазволіць. Дзверы такога Сезама застанецца пасвойму ўзламваць. Але ж пасля гвалту ў ім шмат што скранецца з месца або і паб'ецца...

Так, кожная мова — гэта універсальнейшая знакавая сістэма. Адзін гук у ёй мяняе сэнс адразу некалькіх слоў, а шматзначнае слова набывае змест толькі ў пэўным кантэксце.

Чалавек, які ўскормлены малаком сваёй Маці, адчуў найперш падпарадкаванасць менавіта яе мове — засынаў пад яе калыханкі.

Потым матчына Слова патлумачыла яму сэнс і прызначэнне навакольных з'яў і прадметаў, данесла да ягонай свядомасці інфармацыю аб тым, што, дзе, як і калі патрэбна рабіць, дапамагло самаасэнсоўваць і выказваць свае пачуцці і думкі...

Чалавек можа быць абражаны і прысаромлены і на чужой мове. Ды на гэта ніяк не зрэагуе, калі не разумее яго і не ўспрымае яго над сабой улады.

Трэба ведаць і чужыя мовы.

Але ж навошта засыпаць пяском забыцця крынічку ўласнай?..

Дзяржаўнае двухмоўе — няйнакш як выдумка хворага розуму.

Хіба ж можа быць у чалавека дзве Маці?

Усё ж нарадзіць чалавека можа толькі адна, толькі родная. То ці ж і не яе Слову з удзячнасцю свяціцца ў яго сэрцы да скону?!

Калі ў праграме ЭВМ ёсць памылка, то яна будзе гнаць іх усё з большым і з большым абвалам.

Гэткае можа здарыцца і з чалавечай душой — калі без ніякай патрэбы памяняць у ёй знакава-генную інфармацыю.

А дакладней, адбудзецца яе мутацыя...

Людцы мае, не варта ў бяздумнасці або ў даніну модзе "пераналаджваць" ЭВМ сваёй душы на канчатковы рэжым работы, які мае адрозненне ад дадзенага табе прыродай!

Не прынізіўшы сябе, не пераступіўшы ў сабе адметнага, таго ніяк жа не зробіш.

Варты жалю той, хто не шануе волю і не паважае сябе.

## VI

Непаўторнасць матчынага Слова!

Якім шматфарбным і паэтычным убачыў і пазнаў гэты зямны свет дзякуючы табе, да якіх духоўных скарбаў свайго народа змог прычасціцца ў натхненні?!

У мяне падрастае дачка.

Веташок яе першага года жыцця спакваля акругляецца ў поўню. І яна ўжо не толькі пяе па-птушынаму, а і спрабуе ў хоры далёкіх гукаў вылучыць словы, што не пазбаўлены сэнсу: ма-ма і та-та, ба-ба і дзя-дзя.

Калі ж нейкае з іх урэшце даецца, яна паўтарае яго незлічонае мноства разоў — каб запомніць і зрабіць звыклым для прамаўлення.

Гэтаксама было і са мной...

І з усімі...

То чаму ж так няўдзячна атрымліваецца, што, патраціўшы на ўсведамленне і засваенне матчынай мовы гэтулькі сіл душы, асобныя з нас потым надта ж лёгка забываюць цану той навукі?..

## VII

У апошні раз мае браты і сёстры з'ехаліся дадому тады, калі не было ўжо ў жывых нашага дзеда, а нялодная наша бабуля — другая яго жонка — каторы дзень не ўставала з ложка.

Зайшлі праведаць яе.

Бабуля была не пры сваёй памяці, а таму нічога не разумела, хто і для чаго прыйшоў да яе.

Падыходзілі да ложка па чарзе — то браты, то сёстры. Бабуля загаворвалася, не прызнавала ні старэйшых, ні малодшых.

Зніякавела пастаялі каля бабулі, сабраліся адыходзіць.

І тады нечакана муж маёй старэйшай сястры вырашыў звярнуцца да бабулі на роднай яго і яе — украінскай — мове:

— Бабуся, це я, Васіль, чоловік вашої внучкі Олені! Вы мене пізнаете?

Вы паверыце, адбылося неверагоднае! Тыя словы ўсё роўна як жывой вадой праліліся на збалелую бабуліну свядомасць і з нейкай неверагоднай хуткасцю дасталі на сподзе яе цвярозай развагі. Бабуля ажывілася з твару. Яшчэ праз момант-другі ў вачах яе калыхнуўся водбліск асэнсаванасці. Калі ж пагляд яе зусім пасвятлеў, бабуля з непрыкметнаю ўсмешкаю на вуснах выдыхнула-сказала:

—Пізнала, сынок! І всіх вас пізнала, онукі!

Адказала на роднай мове!

Я быў таму сведкам, як роднае Слова яшчэ амаль на паўгода вырвала маю бабулю з абдымкаў нябыту...

## VIII

Ісус папрасіў у Самаранкі папіць, пабяцаўшы ўзамен даць ёй жывой вады. Яна не паверыла яму. Тады ён сказаў: "...кожны, хто п'е ваду гэтую, зажадае яшчэ, а хто будзе піць ваду, якую Я дам, той не будзе жадаць павечна; але вада, якую Я дам яму, зробіцца ў ім крыніцай вады, што цячэ ў жыццё вечнае" (Ад Іаана, 4, 14).

Скажыце, хіба ж гэта і не пра Мову?

Мова ж таксама стаецца ў чалавеку невычэрпнай крыніцай духоўнасці, калі ён таго пажадае.

Не дайма ж засохнуць гэтай Крыніцы!

*г. Жыткавічы*

## ВЯРТАННЕ ДА РОДНАЙ МОВЫ

**Кажуць, што пражытыя гады звычайна схіляюць паэтаў да прозы. Яно, пэўна, так, але часам узнікае і іншае жаданне, асабліва, калі ты знаходзішся далёка ад родных мясцін і забыўся быў на родную мову, адцураўся яе. Тады, азірнуўшыся назад, хочацца прамовіць словамі, што колісь упершыню пачуў з вуснаў маці і не развітваўся з імі на працягу маленства і юнацтва. Менавіта так сталася і з Рычардам Недаводзіным. Ураджэнец вёскі Ніўнае Стаўбцоўскага раёна, ён пасля заканчэння сярэдняй школы шмат гадоў служыў на Ваенна-Марскім флоце, завочна скончыў Літаратурны інстытут імя М.Горкага ў Маскве. Любоў да паэзіі выклікала жаданне і самому паспрабаваць пісаць. У Р.Недаводзіна гэта адбылося не без поспеху. Яго вершы друкаваліся ў калектыўных зборніках "Багульник", "Молодая гвардия-83", у часопісах "Знамя", "Знаменосец", "Студенческий меридиан", іншых рускамоўных выданнях, а таксама ў альманаху "Истоки". У выдавецтве "Молодая гвардия" ў 1986 годзе выйшла кніга "Тяжелая вода". Але апошнім часам зразумеў Р.Недаводзін, як хочацца яму пісаць на сваёй роднай мове. Паспрабаваў — атрымалася. Прапанаваў вершы ў часопіс "Маладосць" — надрукавалі. А цяпер і кніжкі дачакаўся, дзякуючы той жа "Маладосці". Зборнік Р.Недаводзіна "Камяні вопыту" папоўніў "Бібліятэку часопіса "Маладосць". І ў сваіх беларускамоўных творах аўтар не абмінае марской тэматыкі, але пранікнёна піша і пра беларускую прыроду, задумваецца над няпростымі маральна-этычнымі праблемамі.**

## "ТЭАТРАЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ", № 3

**"Навагодняя п'еса-казка ў двух актах і пяці карцінах" — так вызначыў жанр сваёй п'есы "Апошні дыназаўрык" А.Якімовіч. Змешчана таксама "фацэція на адну дзею" Л.Родзевіча "П.С.Х" (публікацыя В.Яцухны). Ён жа выступае з артыкулам "Талент і жыццё, аддадзеныя людзям", прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння Л.Родзевіча.**

**"Не дагарай, свечачка..." — інтэрв'ю А.Марціновіча з дырэктарам ТЮГа І.Андрэевым, загадчыкам літаратурнай часткі А.Вольскім, мастацкім кіраўніком М.Абрамавым. Увазе чытача прапануюцца матэрыялы З.Лысенкі "Набліжэнне да класікі ці аддаленне ад яе?", Т.Гаробчанкі "Захаваць ланцужок памяці".**

**Пра творчасць мастака У.Мудрогіна разважае Л.Катранжы ("Лёс"). Друкуецца другі артыкул Г.Барышава "Батлейка", нарыс Я.Адамовіча "Беларускае Купалле на Беласточчыне", развагі М.Макарцова "Па слядах народнай драмы", артыкул М.Козенкі "Беларускі народны танцавальны этыкет", рэцэнзіі на кнігу А.Станюты "Стэфанія" і бібліяграфічны даведнік "Беларуская драматургія. 1966—1986", гумарэска І.Стадольніка "Паштоўка", гумарыстычныя "Замалёўкі з натуры" У.Якубовіча.**

**Часопіс працягвае знаёміць з матэрыяламі, якія рыхтуюцца да выдання ў "Тэатральнай энцыклапедыі Беларусі".**

## ЯК ВЫКЛАДАЦЬ ТЭОРЫЮ ЛІТАРАТУРЫ...

**На кафедры тэорыі літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта нядаўна праведзены "круглы стол", прысвечаны праблемам выкладання тэорыі літаратуры ў сярэдняй школе. Пытанне гэтае даўно наспела, бо школьнікі, якія займаюцца па новых праграмах, атрымліваюць не так і шмат звестак у гэтым кірунку, дрэнна валодаюць літаратуразнаўчай тэрміналогіяй. У пасяджэнні "стала" прынялі ўдзел вучоныя з Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі У.Гніламёдаў, А.Яскевіч, Г.Тварановіч, выкладчыкі — педагагічнага універсітэта А.Рагуля, універсітэта В.Рагойша, Т.Шамякіна, Н.Рашэтнікава, настаўніцы Т.Мушынская, В.Кушнярэвіч. Удзельнікі абмеркавання прыйшлі да высновы, што і ў сярэдняй і ў вышэйшай школе тэорыі літаратуры патрэбна надаваць больш увагі. Неабходна стварыць асобныя праграмы па ёй для школ, ліцэяў, вучылішчаў, арганізаваць літаратурны семінар па гэтай тэме.**

**М.КЕНЬКА**

***Пазалетась убачылі свет два рэпрынтныя выданні, якія ніяк не выпадае абмінуць увагай. Перавыдадзеныя кнігі паэзіі беларускіх святароў А.Астрамовіча і К.Стаповіча, больш вядомых пад літаратурнымі псеўданімамі Андрэй Зязюля і Казімір Сваяк, пабуджаюць да спасціжэння адметнай з'явы іх мастацкага пошуку.***

***Не дзіўна, што ў абодвух шлях у паэзію такі падобны: гэта цярністы шлях сцвярджэння сваёй беларускасці і свайго народа перад богам. Асноўныя перыпетыі іх лёсаў супадаюць — з невялікай розніцай у часе. Абодва паэты паходзілі з Віленшчыны (Ашмянскага і Свянцянскага паветаў), з сялянскага каталіцкага асяроддзя, абодва скончылі духоўныя семінарыі (Астрамовіч у Пецярбурзе, а Стаповіч у Вільні), сэрцам і справай адгукнуліся на ідэі беларускага адраджэння і загаварылі ў касцёле на мове свайго народа; абодва зведалі за гэта ганенні з боку каталіцкай адміністрацыі, якая стаяла на варце польскасці. Паэтычнае слова ў абодвух мелася быць не толькі самаісным як сродак і сэнс мастацтва, але і праявай Божай Волі. Ад гэтага, аднак, паэзія не рабілася клерыкальнай, нягледзячы на рэлігійныя матывы ў ёй. Пры ўсім падабенстве зыходных жыццёвых пазіцый А.Зязюля і К.Сваяк тварылі кожны сваю мастацкую імшу ў храме слова. Можна гаварыць пра два адметныя тыпы мастацкай творчасці. Пошук аналогій прыводзіць да больш вядомага: Колас — Купала.***

# БОСКАЕ І ЗЯМНОЕ

## ПАЭЗІЯ АНДРЭЯ ЗЯЗЮЛІ І КАЗІМІРА СВАЯКА

### 1. "ДА ПОЎНІ ХАРАСТВА"

Каларыт паэзіі Андрэя Зязюлі падкрэслена сялянскі. Нават назва яго першай паэтычнай кнігі, якая ўбачыла свет у 1913 годзе, нясе ў сабе код земляробчай памяці: "З роднага загону". У адпаведнасці з мастацкай логікай аўтара складзена яго "вынiковая" кніга, што выйшла ўжо да 10-х угодкаў смерці паэта ў 1931 годзе дзякуючы Адаму Станкевічу і мае тую ж назву: "З роднага загону".

Найпаўней сутнасць паэзіі А.Зязюлі выяўляецца ў натурфіласофскіх матывах. Вялікі, амаль на палову кнігі раздзел "Беларуская прырода" ўражвае вельмі адметнай, беларускай зNітаванасцю Боскага і зямнога ў светаадчуванні чалавека.

Паводле сваіх стылёвых прыкметаў пейзажная лірыка А.Зязюлі блізкая да коласаўскай: тое ж захапленне жывой рэальнасцю, зрокава-асязальнай фактурай прыроднага асяроддзя і нават звычайнага сялянскага падворку, адухаўленне з'яў навакольнай прыроды як сферы чалавечага быцця.

Як правіла, сакральнасць зямной дзеі ў паэзіі А.Зязюлі мае глыбока інтымны, да часу схаваны сэнс — як, дарэчы, і ў паэзіі Я.Коласа. Але ў пэўныя хвіліны творчасці прысутнасць Боскай Ідэі выяўляецца як дамінуючы матыў. Ідэя Тварца, вялікага Дэміурга гармапізуе ўсё існае, асвятляе праявы зямнога жыцця, чалавечай долі.

**Зоркі тысячамі вочак**
**Заблішчэлі слёзкай,**
**Міжы беленькіх аблочак**
**Месяц ўсплыў над вёскай.**

**Як бы хочучы спакою**
**Ўліць людцом у хаты,**
**Дзе уморани сахою,**
**Лёг спачыць араты.**
. . . . . . . . . .
**Над усімі Огляд Божы**
**Безупынна чуе,**
**І анёлак на старожы**
**Кожнага вартуе.**

**("Летні вечар")**

Эстэтычнае пачуццё паэта вызначаецца імкненнем да красы — "да поўні хараства, якім ёсць Бог..." ("У маі"). Так у вершах А.Зязюлі па-беларуску абжываецца неўміручая ідэя: "краса ёсць Бог", — вядомая з часоў Платона.

Творчасць паэта — гэта выяўленне светаўспрымання народа, які пачувае сябе часткай вялікай адухоўленай Прыроды, натхнёнай да жыцця ствaральным пачаткам.

У сваіх мастацкіх пошуках А.Зязюля кіруецца найперш народным поглядам на свет, народным разуменнем свайго месца ў вялікім цэлым, — што пацвярджае вельмі цікавае, тыпова беларускае спалучэнне хрысціянскіх і паганскіх уяўленняў аб навакольным свеце.

**А жаўранак хваліць**
**Стварыцеля Бога;**
**Надзею трываліць**
**Ў моц Юр'я Святога.**

**Што ў месяцы гэтым**
**Зямлю адмыкае**
**І з мілым прыветам**
**Траву выпускае.**

**("У красавіку")**

Старажытныя матывы веснавых песень (адмыканне зямлі і выпусканне травы — так міфалагічна ўяўляецца ў фальклоры прыход вясны) увасабляюць у вершы паганскую красу зямнога быцця і адначасна вітанне жыццядайнай сілы "Стварыцеля Бога". Паэт нечакана яднае ў адной мастацкай з'яве такія супярэчлівыя, здавалася б, ідэі. Але гэтая супярэчнасць складае адну з істотных рысаў народнага светаўспрымання, яго дзівосную поліфанічнасць, добра адлюстраваную ў фальклоры. Варта нагадаць каляндарна-абрадавыя валачобныя песні, дзе аграрна-магічныя матывы, узмоцненыя традыцыйнымі рэфрэнамі "Вясна красна на ўвесь свет!", "Зялёны явар кудравы" ды іншымі, часта спалучаюцца з больш позняй паводле паходжання хрысціянскай ідэяй абнаўлення свету: "Хрыстос васкрос, сын Божы!".

Відавочна, што паэт арыентуецца найперш на традыцыйны мастацкі досвед свайго народа, на асаблівасці яго духоўнай культуры.

Паэт успрымае прыроду як каштоўны дар і родны чалавеку асяродак яго жыццядзейнасці, дзе галоўнае — спаўненне хлебаробскай долі. Верш за вершам, малюнак за малюнкам з выразнымі паэтычнымі дэталямі народнага земляробчага календара ад калядаў да калядаў складаюць у выніку арыгінальную эпічную песню, у якой выяўляецца амаль архаічная родава-калектыўная эмоцыя.

**Ой, вяснічэнька міла!**
**Дай, каб новая сіла**
**У жыцці нас скрапляла,**
**Каб ў душы не згасала**
**Вера й тая надзея,**
**Што жытцо нам наспее**
**І за капельку поту**
**Дасць зярно умалоту...**

**("Вясне")**

Як паэт свайго народа А.Зязюля (дарэчы, і псеўданім надзвычай красамоўны) знаходзіць радасць і душэўны спакой у зNітаванасці з навакольным светам, які вабіць сваёй красой і неўміручай сілай абнаўлення. Эмацыянальны лад верша вызначаецца не столькі настроем і характарам лірычнага "я" паэта, колькі алгарытмам народнага светасузірання: вясна — радасць адраджэння прыроды, лета — спеласць і важкасць зямнога плёну і г.д. Важна, што чалавек адчувае натуральнасць і каштоўнасць усіх праяў зямнога быцця.

Гэтак жа натуральна, у душэўнай згодзе з сабой і светам прыходзіць ён да Бога.

**Вячорная цемра зямлю абняла,**
**Чутны звон касцельны наўкола —**
**Грамадка сялянаў маліцца прышла**
**Да блізкага ў вёсцы касцёла.**

**("Ражанец")**

Выкананне святарскай місіі паэт А.Зязюля разумее як хрысціянскі абавязак:

**Шчаслівы, хто ўчуўшы**
**гаротных стагнанне,**
**Па вузкай, цярністай дарозе**
**Пайшоў з добрай волі сваёй**
**на спатканне**
**Ім бедным — і стаўся ў спамозе.**

**("З псалму")**

Хрысціянскі ідэал служэння народу мае ў паэта выразны адбітак часу — эпохі беларускага нацыянальнага адраджэння. І святар Астрамовіч разам з вершамі-псалмамі, якіх у яго ўвогуле небагата, піша патрыятычную лірыку, дзе спалучаюцца публіцыстычнасць і малітоўнасць. Яго вершы "Пасвята", "Песня Беларусі", "Ніколі", "Беларусь" належаць да вяршынных твораў беларускай паэзіі, якія абуджалі ў народзе самапавагу і нацыянальнае ўсведамленне.

Паэт-святар сцвярджае боскасць мовы свайго народа. Яго гімнічны спеў пра Беларусь прасякнуты гэтай ідэяй:

**Божа, што калісь народы**
**На асобкі падзяліў**
**І хацеў, каб народ кожны**
**Мовай роднай гаварыў...**

Самую Беларусь паэт называе святой і звяртаецца да яе, як да Бога, з найвышэйшай пашанотай, "з вялікай літары": Табою, Табе, Тваіх...

### 2. "СПАВІЎ МНЕ СЭРЦА ЖАЛЬ..."

"Зязюля адчувае Бога проста, часта аж наіўна, па дзяцiннаму, выключна сэрцам, — Сваяк жа не толькі сэрцам, не толькі чуццём, якое ў яго бывае напята аж да крайнасці, але так жа і розумам, якім ён усцяж заглыбляецца аж у Божую істоту і зорка слядзіць за таемнымі праявамі Божай дзейнасці ў свеце", — пісаў Адам Станкевіч у прадмове да кнігі А.Зязюлі.

Вельмі цікавае назіранне.

Духоўная блізкасць да Казіміра Сваяка давала А.Станкевічу магчымасць глыбокага спасціжэння светапогляднай асновы творчасці паэта, аналізу такіх праблем, як "шуканне беларускай народнай ідэалогіі" ў жыцці і паэзіі К.Сваяка, "Сваяк — уніяніст". "...мінімальнай рэлігійнай Сваяковай праграмай для Беларусі з'яўляецца збліжэнне хрысціянства, раз'яднанага чужынёй, да беларускай душы пры пасрэдстве роднай мовы і агулам пры пасрэдстве беларускай народнай культуры". У абедзвюх кнігах А.Станкевіча пра жыццё і творчасць К.Сваяка (1931, 1936 гг.) дзейнасць паэта разглядаецца як важны этап адраджэння сапраўднай духоўнасці беларускай культуры ў навейшай гісторыі. Аднак жа аўтар, актуалізуючы ўласна-рэлігійныя аспекты паэзіі К.Сваяка, занадта раўніва ацэньвае іншыя падыходы і спробы аналізу.

Паэтычная кніга К.Сваяка "Мая ліра" (1924) выклікала зацікаўленае абмеркаванне ў тагачаснай беларускай крытыцы. Сярод іншых выступілі з рэцэнзіямі такія вядомыя крытыкі, як Суліма (Уладзімір Самойла) у "Сыне беларуса" і Ант.Навіна (Луцкевіч) у "Беларускай справе". Паэзія К.Сваяка разглядалася імі найперш у філасофска-эстэтычным (Суліма) і грамадска-сацыяльным (Навіна) аспектах, што прывяло, на думку А.Станкевіча, да скажэння рэлігійна-духоўнага зместу творчасці паэта.

Даволі рэзкая і напружаная палеміка ў крытыцы адпавядала драматычна-напружанаму характару лірычнага перажывання ў паэзіі К.Сваяка. Замест рэфлексіі і спакою светасузірання, да якога змушае, здавалася б, сам прадмет мастацкага асэнсавання, тут пакута і нават адчай, пытанне — і трагічная безвыходнасць адказу.

**Ты, Божа, разсудзі:**
**чаму народ мой бедны**
**Праз век гніе у цьме,**
**ў няволі безпатольнай,**
**Скажы — няўжо прыказ**
**Твой запаведны**
**Пакорным быць падан**
**душы бязвольнай!?**

**Бо еслі так, народ згніе ў пакоры,**
**Чужынцу дасць і матку і дачку;**
**А сам бядак, нанет прыбіты — хворы**
**Жыццё закончыць**
**на чужым шнурку...**

**("На крыллях...")**

Сапраўды — незвычайны па сіле эмацыянальнага выяўлення вобраз пакуты чалавечага духу, што б'ецца ў сіле хрысціянскіх дагматаў аб веры, пакоры, Вышэйшай Справядлівасці. Ён магутны як мастацкі вобраз, родпасны хіба славутай "Імправізацыі" з "Дзядоў" А.Міцкевіча. Але ці ёсць гэта бунт рэлігійнай свядомасці?

"Гэта — тое самае Бога-, света-, народа-, самапачуццё, якое найляпей выражана ў знамянітай формуле: "веру, Божа, але... памажы майму няверыю..." — піша Суліма, перад тым падкрэсліваючы: "Самапачуццё Сваяка — сапраўдна-хрысціянскае". Але ў цытатах, якія ён прыводзіць з "Маёй ліры", пераважае ўсё ж адзін матыў: пакуты пазнання і сумніву. Адсюль і вобраз самога паэта ва ўяўленні крытыка: "сумна-малаверны", "малаверны Сваяк", — што катэгарыч-

на аспрэчвае А.Станкевіч.

Найбольшую буру ў стане крытыкаў выклікаў выдатны патрыятычны верш К.Сваяка "Айчыны мілай...", прасякнуты трывогай за лёс Беларусі, — "каб не змалела Айчыны ідэя". У гэтым вершы пакутна і цяжка прамаўлялася нявер'е чалавека ў дзейсную сілу вышэйшай Волі, раптоўна адкрывалася "самае бяздонне няверы":

**Зор мой дарэмна шукае выбаўцы,**
**Не віджу сільных**
**між браці паганай, —**
**І не чакаю з рук Божага Даўцы**
**Ужо збаўлення з долі апляванай.**

Услед клерыкальная крытыка давала тлумачэнне: "словы *"ў самым бяздонні няверы"* трэба разумець не як няверу ў Бога, а толькі *як няверу ў помач Божую* ў справе вызвалення Беларусі"...

Абараняючы права хрысціяніна на пэўную долю сумненняў, А.Станкевіч разам з крытыкамі з "Беларускай крыніцы" бачыць у К.Сваяку найперш святара, а не паэта. Але песнярская місія, паводле рамантычнай традыцыі, якую сцвярджаў іх сучаснік Я.Купала, роўнавялікая Боскай, ва ўсякім разе сувымерная толькі з ёй. Успомнім велічную, маштабнакасмічную постаць Паэта, валадарнага над тайнамі зямнога быцця і космасу, у купалаўскім вершы "Песняй толькі...":

**Млечны шлях, што нябесны дзядзінец**
**Засцілае, я б зняў на зямлю**
**І масціў бы ім новы гасцінец**
**Цераз родную ніву сваю.**

**Сонца ўзяўшы агністае ў рукі,**
**Што гарыць над бязмерам палёў,**
**Я па млечным тым шляху без мукі**
**Чалавека да шчасця бы вёў.**

Вядома, многія вершы Я.Купалы напісаны на эмацыянальным кантрасце з гэтай сцвярджальнай ідэяй абнаўлення светабудовы, яны драматычна-канфліктныя, трагедыйныя паводле напалу страсцей, нясуць занадта горкае прароцтва. Але незалежна ад іх эмацыянальнай дамінанты яны ўвасабляюць рамантычнае місіянерства Паэта. Толькі з гэтай пазіцыі і можна зразумець "небяспечны" для хрысціянскага святара сэнс трагічных інвектыў К.Сваяка. Урэшце, чытаем у самога паэта: "Украсці я хацеў вось гэту тайну з неба..."

Для паўнаты характарыстыкі названых матываў адзначым, што ў шэрагу вершаў К.Сваяка з маральна-дыдактычным пафасам ("Шчасце", "З кнігі мудрасці") святар перамагае паэта, і гэта, безумоўна, адбіваецца на іх мастацкасці, бо задача мастака — не павучаць ці ператлумачваць хрысціянскія павучанні, а перажываць у слове нейкі маральны стан — каб урэшце пакласці душу сваю на алтар Любові.

Скразны матыў паэзіі К.Сваяка — заступніцтва перад Богам за свой народ. Індывідуальная свядомасць мастака, яго абвостранае пачуццё справядлівасці і маральнага абавязку набываюць тут надзіва простае і дакладнае паводле сэнсу ўвасабленне; драматычныя калізіі веры і неспатольнасці чалавечага духу гарманізуюцца ў малітве:

**О Божа — Божа, спашлі змілаванне**
**Над Тваім людам, што поўны нядолі,**
**Бо ўжо ж ён просіць**
**даўно змертвыхстання,**
**Каб выйсці з крыўды, з грэху і няволі.**
**("Ad te levavi...")**

К.Сваяк працягвае традыцыйнае ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя (Я.Купала, С.Палуян) пераасэнсаванне міфалогіі ўваскрашэння Хрыста як матыву адраджэння роднага краю ("На гадавіны незалежнай Беларусі"). І сам ён гатовы ісці на пакуты ўкрыжавання дзеля выратавання Айчыны ("ахвярны патрыятызм", як піша У.Калеснік).

Эпоха, якую зачапіў паэт сваім кароткім жыццём (ранняя смерць ад сухотаў), паўстала для яго як "пара смяротных журб". Ліра К.Сваяка вельмі чуйная да голасу спакутаванай душы і вельмі праўдзівая — без фальшу і надрыву — у выяўленні трагізму памкненняў да "выжшых асягнень духовых". Гэта пульсацыя жывога хвалявання душы і розуму.

**Свет чароўны-цудоўны**
**мяне ўзяў у абоймы,**
**Напаіўшы адвечнай журбой і ідэалу.**
**("Душа мая")**

Па-за характэрнымі для творчасці духоўнай асобы сюжэтамі і рэмінісцэнцыямі з Бібліі варта асобна вылучыць літаратурныя ўплывы, і сярод іх — паэзіі неарамантызму. А.Лойка адзначаў сугучнасць верленаўскай лірыцы аднаго з найбольш дасканалых, літаратурна вытанчаных твораў К.Сваяка:

**Спавіў мне сэрца жаль**
**На восень жоўтую,**
**Зор заглыбіўся ў даль**
**Жальбой гаротную:**
**Жаль па цудоўным сне,**
**Жаль па маёй вясне.**
**("Спавіў мне сэрца жаль...")**

Высокія парыванні чалавечага духу і пакута ад нязд зейсненага, трагічная антыномія жыцця і смерці складаюць змест Сваяковай лірыкі. Чалавечая агульназначнасць і непаўторнасць гэтага зместу, шчырасць і гуманістычная заглыбленасць лірычнага перажывання паэта непазбежна спазнаюць яшчэ шырокі літаратурны кантэкст.

**Люба ТАРАСЮК**

*Сярод кніг*

# ГАЛОЎНАЕ — ПРАЎДА...

Праблема творчых кантактаў і ўзаемаўплываў на матэрыяле беларуска-рускіх літаратурных стасункаў знаходзіць працяг у трэцяй кнізе "Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей", падрыхтаваных Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, выпуск якіх ажыццяўляе выдавецтва "Навука і тэхніка". Як і першыя дзве кнігі, пра выхад якіх "ЛіМ" паведамляў раней, том багаты на фактычны матэрыял, нямала дае чытачу, які не толькі з павагай ставіцца да нацыянальнай літаратуры, але і хоча лепш ведаць, як пачувае яна сябе ў свеце.

Перыяд, што разглядаецца гэтым разам, складаны. Прынамсі, для даследчыкаў ён такім стаў цяпер. Гадоў жа з дзесяць пісаць пра яго было б адно задавальненне і кожны палічыў бы за гонар, калі б яму прапанавалі асвятляць стасункі на працягу 1917—1941 гг. Зарыентавацца лёгка і твае памкненні адносна паважнага стаўлення да літаратуры "старэйшага брата" адразу заўважылі б у адпаведных партыйных установах. Але, хоць подступы для стварэння "Нарысаў..." рабіліся, як вядома, задоўга да іх з'яўлення ў свет, адразу відочна, што на старонках не знойдзеш рэцэдываў мінулага і адно, чым кіраваліся даследчыкі (а гэта літаратуразнаўцы дасведчаныя), — прынцыповасцю, аб'ектыўнасцю, сумленнасцю.

У кнізе абышлося без традыцыйных аглядных артыкулаў, калі аўтары, не могучы не ахапіць неахопнае, "уціскаюць" у іх рамкі як мага большую колькасць прозвішчаў. Каб і гэтага не пакрыўдзіць, і таго згадаць. Ёсць артыкулы толькі па жанрах, і асобна разглядаецца творчасць найбольш вядомых пісьменнікаў.

Пачынаецца кніга аналізам паэзіі, напісаным І.Шпакоўскім і М.Арочкам. З першых радкоў бачна, што аўтары не збіраюцца пець дыфірамбы: "Літаратурны працэс Беларусі, як вядома, цесна ўзаемазвязаны з рускай і польскай літаратурамі. У паслярэвалюцыйны час нарастае перавага рускага ўплыву на беларускую літаратуру.

Але, калі "пераспевы" Жукоўскага, Пушкіна, Лермантава з Гётэ, Шылера, Шэлі не лічаць эпігонствам, то міжвольныя пераклады, цытаты з рускай паэзіі ў беларускіх паэтаў успрымаюцца як праяўленне залежнасці, якую застаецца адно — пераадолець. Такое ўспрыманне абумоўлена перш за ўсё блізкасцю моў, тым, што беларускі чытач вырас і развіваецца на ўзаемадзеянні двух літаратурных працэсаў — рускага і беларускага. У свядомасці беларускага чытача поруч з Купалам і Коласам стаяць Пушкін, Някрасаў, Талстой".

І.Шпакоўскі і М.Арочка, здавалася б, нават пачынаюць выходзіць за межы прадмета гаворкі, удзяляючы ўвагу і пытанням станаўлення беларускай мовы. Але, калі лепш разабрацца, дык гэтыя аспекты не лішнія, бо ў літаратурным працэсе 20-х гадоў "замінала штучнае калькаванне, капіраванне рускіх узораў, калекі-калькі выпіралі з тэксту, прыніжалі прэстыж беларускай мовы", а гэта ў сваю чаргу, як вядома, давала падставы асобным вучоным сцвярджаць, што беларусы "разнавіднасць рускага народа".

Бадай, тут ёсць над чым задумацца тым сённяшнім "рэфарматарам", хто настойліва і напорыста спрабуе вярнуць мову акурат у тыя гады, калі ў многім адчувалася моўная неўпарадкаванасць. Ці заўсёды яны тым самым паляпшаюць мову? Хутчэй даюць падставы для крытыкі тым, хто яе не хоча прымаць.

Але гэта між іншым. Наколькі плённымі былі стасункі і якія выдаткі яны мелі, паказваецца на прыкладзе творчасці К.Крапівы, А.Куляшова, П.Глебкі, П.Броўкі і іншых паэтаў. Гаворка вядзецца ў кантэксце тагачасных падзей і, зразумела, з вышыні сённяшняга дня, нашых цяперашніх патрабаванняў да літаратуры: "Здаровым задаткам паэтычных талентаў няпроста было ў тыя гады прабівацца праз розныя напластаванні літаратурнай зададзенасці, уяўнай паэтызацыі, рэгламентаваных і ўжо прызвычаеных норм і схем. Аднак, ідучы на вымушаныя выдаткі, маладыя паэты разам са старэйшымі таварышамі, што засталіся ў жывых, унутрана назапашвалі патэнцыяльныя магчымасці і нярэдка з добрым плёнам і з абнадзеенай перспектыўнасцю настойліва працавалі ў пошуках важнага слова ў імя кардынальнага абнаўлення рэчаіснасці, дзеля жыцця".

Шмат папрацаваў для гэтага тома "Нарысаў..." М. Тычына. Ён аналізуе тагачасную беларускую прозу ў цэлым, а таксама выступае з двума артыкуламі, у якіх разглядаецца творчасць Я. Коласа і К.Чорнага. Наконт першага артыкула трэба адзначыць, што ў ім, асабліва прыцягвае ўвагу тое, як глыбока асэнсоўваецца сувязь асобных твораў М. Гарэцкага з тым, што было напісана асобнымі рускімі пісьменнікамі. Несумненна, каб "Нарысы..." рыхтаваліся цяпер, дык хутчэй за ўсё М.Гарэцкаму быў бы прысвечаны асобны артыкул. Відаць, інакш прагучалі б і падобныя меркаванні: "Беларускія і рускія пісьменнікі аднолькава ўважліва "слухалі музыку рэвалюцыі" (А.Блок) і часта прыходзілі да адных і тых жа высноў". Аўтар, відаць, удакладніў бы асобныя моманты, расставіў бы пэўныя акцэнты, разважыўшы, хто і на самай справе верыў у рэвалюцыю, а хто толькі вымушаны быў падстройвацца пад яе.

Але, калі адкінуць прыватнасці, дык цікавая і да месца такая паралель. "У "Нясвоечасовых думках" М.Горкага, "Праклятых днях" І.Буніна, рамане "Мы" Я.Замяціна, пісьмах У.Караленкі да А.Луначарскага, аповесці М.Гарэцкага "Дзве душы" даецца амаль клінічная карціна разбуральнай ломкі жыцця, сведкамі якой яны былі. Калі і ёсць адрозненні, то яны выяўляюцца ў тэмпературы кіпення аўтарскіх страсцей, а нярэдка і ў спосабе падачы матэрыялу, які звычайна зводзіўся да замалёвак з натуры". Далей М.Тычына больш падрабязна гаворыць пра блізкасць і адрознасць пазіцый таго ж М.Гарэцкага і І.Буніна... Артыкулы ж пра Я.Коласа, К.Чорнага аднолькава прыцягваюць багатым матэрыялам і ўсё ж, думаецца, куды лепей глядзіцца на фоне беларуска-рускіх стасункаў постаць К.Чорнага, якога, як вядома, яшчэ на пачатку мастакоўскага шляху назвалі "беларускім Дастаеўскім".

"Беларуска-рускія драматургічныя сувязі 30-х гадоў... вымагаліся... унутранымі патрэбамі абедзвюх літаратур і ніякія дырэктыўныя ўказанні не маглі зрабіць іх казённымі, фармальна-рытуальнымі. Узмацнелая за паслярэвалюцыйныя дзесяцігоддзі беларуская драматургія імкнулася шукаць самастойныя шляхі, але вопыт рускай літаратуры заўсёды дапамагаў ісці па іх з большай упэўненасцю", — да такой высновы прыходзіць С.Лаўшук, прыглядаючыся да тагачаснай нацыянальнай літаратуры. Бадай, няма патрэбы гаварыць, наколькі цяжка давялося даследчыку. На літаратуры тых гадоў увогуле адчуваўся ўплыў "класавага падыходу", але не ў меншай ступені (а часам у большай) гэта праяўлялася на сцэне. С.Лаўшук змог даць аб'ектыўную ацэнку твораў дваццатых-трыццатых гадоў.

Увайшлі ў кнігу і артыкулы "Янка Купала" Ц.Ліякумовіча, "Дзіцячая літаратура" Э.Гурэвіч, "Крытыка і літаратуразнаўства" М.Мушынскага. Кожны з аўтараў таксама дае прынцыповую ацэнку і творчасці асобных пісьменнікаў, і развіццю пэўнага жанру з пазіцыі дня сённяшняга, прытрымліваючыся такога прынцыпу, які той жа М.Мушынскі дакладна вызначыў назвай адной са сваіх кніг — "І нічога, апроч праўды".

Увогуле, трэцяя кніга "Нарысаў...", як і дзве папярэднія, тым і прываблівае, што ў ёй дамінуе такое патрэбнае сёння стаўленне да нашых складаных жыццёвых і літаратурных стасункаў, у тым ліку і тых, што маюць дачыненне да рускага народа, з якім нас звязваюць тысячагадовыя сувязі.

**П. Т.**

# НА СУПЯРЭЧЛІВЫХ РОСТАНЯХ ЧАСУ

"Гістарычныя лёсы мастацкай інтэлігенцыі Беларусі (1917—1941)" — так называецца кніга, што пабачыла свет у выдавецкім цэнтры "Расія маладая". З'яўленне яе ў Маскве зусім невыпадковае. Аўтар гэтай манаграфіі Эльвіра Яршова больш за дваццаць пяць гадоў пражыла на Беларусі, тут абараніла дысертацыю, а развітаўшыся з гасціннай беларускай зямлёй, па-ранейшаму не парывае з ёй сувязяў, ды і ў сваіх навуковых памкненнях у многім засталася, як кажуць, адналюбам. Таму і працягвае даследаваць асноўныя моманты беларускай нацыянальнай культуры. І гэтаксама невыпадкова звярнулася менавіта да згаданага часу, бо акурат дваццатыя—трыццатыя гады і патрабуюць сёння свайго пераасэнсавання, каб праўдзіва і аб'ектыўна ўзнавіць атмасферу, у якой даводзілася жыць і працаваць беларускай інтэлігенцыі.

Выбар менавіта такога накірунку даследчыцкіх пошукаў Э.Яршова абгрунтоўвае ў невялікім уступе: "У шматлікіх дакументах сустракаліся імёны пісьменнікаў і паэтаў, мастакоў, рэжысёраў і акцёраў, кампазітараў і музыкантаў, пра якіх афіцыйная навука не згадвала ці яны ўпаміналіся як людзі, якія выступалі супраць Савецкай улады і пайшлі ў небыццё невядома калі. Усё гэта выклікала ў аўтара пытанні, на якія не проста было знайсці адказы. Толькі ў апошнія гады стала магчымым пазнаёміцца і даследаваць сакрэтныя дакументы, даведкі-даносы на дзеячаў беларускай культуры і многія іншыя матэрыялы, што знаходзіліся доўгія гады ў спецхранах".

Не абышла Э.Яршова ўвагай і найбольш значныя публікацыі апошняга часу па гэтым пытанні, якія з'явіліся ў беларускай перыёдыцы. Як бачна з манаграфіі, дапамогу ў асэнсаванні ўзнятай праблемы аказаў ёй і наш штотыднёвік: у кнізе неаднойчы робяцца спасылкі на той ці іншы матэрыял, змешчаны ў "ЛіМе".

У манаграфіі тры раздзелы, узаемазвязаныя між сабой, — "Кастрычнік і творчая інтэлігенцыя Беларусі", "Беларуская мастацкая інтэлігенцыя ва ўмовах ліквідацыі шматукладнасці грамадскага жыцця (1921—1928 гг.)", "Дзеячы культуры Беларусі ў перыяд станаўлення каманднa-адміністрацыйнай сістэмы". Кожны з іх дае багатую спажыву для роздуму.

Аб шырыні ж ахопу матэрыялу сведчыць ужо тое, што Э.Яршова не абмінае, здавалася б, ніводнага роду мастакоўскай дзейнасці. Асабліва адчуваецца здатнасць аўтара выступаць першапраходцам. Найперш гэта тычыцца развагі пра складаныя працэсы, што на той час адбываліся ў беларускім выяўленчым мастацтве. Называюцца імёны тых, хто доўгі час замоўчваўся, гаворыцца аб вялікім уплыве, які аказалі яны на наступнікаў.

У многім па-новаму прачытвае Э.Яршова і драматургію згаданага перыяду. Праўда, аўтар не ставіла, як бачна, сабе задачы разважаць пра вартасці і недахопы твораў, пра якія гаварылі да яе іншыя даследчыкі, хоць, безумоўна, і тут шырокае поле дзейнасці, калі падыходзіць да ацэнак з вышыні сённяшняга дня. Куды важней для Э.Яршовай дапамагчы пазбавіцца так званых "белых плям". І гэтага яна дасягае. Прынамсі, калі гаворыць пра творчасць драматурга М.Ільінскага. Правільней, нават не столькі пра яго творы, колькі пра пазіцыю, якую ён займаў у той складаны і супярэчлівы час.

А менавіта пазіцыя М.Ільінскага і пасадзейнічала таму, што сёння пра яго па сутнасці ўсе забыліся. М.Ільінскі паводзіў сябе не лепшым чынам, калі, пакрыўджаны за няўвагу да сябе (а яго п'есы найчасцей з'яўляліся кан'юнктурнымі, таму і рэдка ставіліся), пачаў паклёпнічаць на таварышаў па пяры. Больш таго, у вусны некаторых адмоўных персанажаў сваіх п'ес "укладваў" вершы рэальна існуючых паэтаў. Якія пасля гэтага былі вынікі, няцяжка здагадацца, калі ўлічыць, як настойліва і мэтанакіравана ўлады шукалі чарговых "ворагаў народа". М.Ільінскага выключылі з Саюза пісьменнікаў, але гэта яшчэ больш азлобіла яго. Пасыпаліся лісты ў Саюз пісьменнікаў СССР, на імя Сталіна (з іх прыводзяцца даволі вялікія вытрымкі)...

Да гонару Э.Яршовай, яна імкнецца заставацца аб'ектыўнай і тады, калі згадвае тагачасную дзейнасць і літаратараў, пра мінулае якіх у нас лічаць цяпер за лепшае маўчаць. Пры гэтым даследчыца кіруецца, як няцяжка здагадацца, правілам, што калі дамагацца поўнай праўды, дык імкнуцца да яе ва ўсім.

Застаецца нагадаць, што гэтая цікавая (і, безумоўна, патрэбная) манаграфія прыйшла да чытача дзякуючы падтрымцы спонсараў — таварыства з абмежаванай адказнасцю "Полымя" Беларускай Асацыяцыі ветэранаў вайны ў Афганістане.

**Т. Т.**

# НАДЗЕЯ ПАМІРАЕ АПОШНЯЙ

Гэтым правілам кіруецца і калектыў выдавецтва "Мастацкая літаратура". Як ні даводзіцца цяжка, тым не менш тут робяць усё магчымае (а правільней — немагчымае!), каб своечасова выходзіла неабходная літаратура. А да ўсяго — дбаюць і аб дні заўтрашнім. Прынамсі, калі знаёмішся з тэматычным планам на 1996 год, то не можаш не радавацца яго разнастайнасці. Ды і колькасць запланаваных выданняў радуе. У плане значацца 148 пазіцый.

Багаты раздзел арыгінальнай мастацкай літаратуры. Проза прадстаўлена новымі кнігамі В. Адамчыка "Развітальная аповесць", Г. Багданавай "Куды адлятаюць ластаўкі", Т. Бондар "Імем Айца і Сына", А. Жука "Смерць Гегемона", А. Капусціна "Усяму беламу свету", М. Капыловіча "Чарнобыльскія пакутнікі", В. Куртаніч "Пакіньце яго плакаць...", Г. Марчука "Хаос", П. Пруднікава "Апала", У. Рубанава "Укус змяі", У. Саламахі "Апазнаецца асоба мужчыны", Б. Сачанкі "Пад сузор'ем сярпа і молата", Я. Сіпакова "Дні за спіною", В. Ткачова "Едзе сена на калёсах", А. Федарэнкі "Аповесці, апавяданні", І. Чыгрынава "Скаргі сярэдзіны восені" і іншымі. У серыі "Першая кніга празаіка" выходзяць зборнікі А. Давыдава, С. Дзедзіча, В. Мартыненкі, Н. Пракопчык, В. Праўдзіна.

Як быццам сёння не да паэзіі, але паэты працуюць па-ранейшаму плённа. У гэтым пераконваюць і запланаваныя кнігі Э. Агняцвет "І смутак, і святло", У. Арлова "Фауна сноў", М. Арочкі "Укрыжаванне", Р. Барадуліна "З чорным катом на плячы", А. Вялюгіна "Заклён на скрутны вір", Ю. Голуба "Брама зімы", С. Грахоўскага "Недапісаная кніга", А. Дракахруста "Мая планіда", К. Жука "Галгофа", А. Зэкава "Начное святло", К. Камейшы "Выкраданне агню", У. Марука "Кудмень", П. Місько "Ружовыя ліўні", М. Мятліцкага "Бабчын", У. Някляева "Прошча", П. Пруднікава "Пароша", Л. Рублеўскай "Экзарсіс", А. Салтука "Трывога лёсу", Я. Хвалея "Прыстань віцінаў", М. Чарняўскага "У трох соснах", І. Чыгрына "Бераг", М. Шэлехава "Шпітальны вальс", Г. Юрчанкі "Кудзелісты сняданак"... Серыя "Першая кніга паэта" папоўніцца зборнікамі А. Данільчык, В. Дэбіша, К. Мяшковай, І. Снарскай, Л. Сом, І. Хадарэнкі.

Не страчвае сваёй актыўнасці і крытыка. Запланаваны такія кнігі, як "Абуджаная памяць. Нарыс жыцця і творчасці У. Караткевіча" А. Вераб'я, "Рыцары і паэты" С. Кавалёва, "Беларуская народная культура. Міфалогія, абрады, фальклор" У. Конана, "Цукровы пеўнік" Л. Корань, "Наука всякое правды"... Псалтыр у гісторыі беларускай духоўнай культуры" Ю. Лабынцава, "Прысутнасць былога" У. Мархеля, "Сведчанні" С. Марчанкі, "Імёны чалавека" (даследаванне пра творчасць Я. Купалы) А. Разанава, "Залатая сярэдзіна. Літаратура Вялікага княства Літоўскага эпохі Адраджэння" І. Саверчанкі, "Непазбежнасць выбару" Г. Тычкі, дзённікі-ўспаміны І. Шамякіна "Роздум на апошнім перагоне"...

Мяркуецца выдаць тамы Збораў твораў Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, У. Дубоўкі, К. Крапівы, А. Кулакоўскага, Я. Купалы, Б. Мікуліча, І. Чыгрынава. Багаты раздзел "Выбраныя творы" — А. Адамовіч, В. Адамчык, С. Законнікаў, В. Зуёнак, В. Карамазаў, А. Кудравец, І. Навуменка, У. Някляеў, А. Савіцкі, Я. Сіпакоў, Г. Шупенька... Як паўторныя выданні запланаваны лепшыя творы В. Гардзея, М. Гіля, А. Дзятлава, Л. Дранько-Майсюка, А. Жалязоўскага, В. Жуковіча, М. Кацюшэнкі, І. Пташнікава...

Чакаецца папаўненне ў серыях: "Спадчына" ("Песня пра зубра" М. Гусоўскага, "Лабірынты" В. Ластоўскага, "Сцежкамі жыцця" П. Мядзёлкі, зборнік "Першыя крокі. Беларускамоўная літаратура XIX ст".) "Бібліятэка беларускай паэзіі" ("Водсвет маладзіка" А. Ставера), "Бібліятэка беларускай прозы" ("Шчыраю ноччу" У. Ягоўдзіка), "Скарбы сусветнай літаратуры" ("Прысуд" Ф. Кафкі, "Выбранае" Б. Нушыча, "Quo vadis" Г. Сянкевіча), "Галасы беларускага замежжа" ("Святая Еўфрасіння-Прадслава" Л. Гарошкі), "Белорусская проза" ("Родныя карані" М. Гарэцкага, "Шчыглы. Паводка сярод зімы" Л. Левановіча) і іншых.

Згаданы, безумоўна, не ўсе кнігі. Калі хочаце зрабіць папярэднія заказы, завітайце, калі ласка, у кнігарні. Там можна з тэматычным планам "Мастацкай літаратуры" пазнаёміцца больш падрабязна. Самому ж выдавецтву хочацца пажадаць, каб яго спадзяванні ажыццявіліся і ўсе мы, аматары беларускай літаратуры, своечасова змаглі атрымаць запланаваныя кнігі.

Дэбют

*Сёння штотыднёвік знаёміць сваіх чытачоў з вершамі Ірыны Дарафяйчук. Яна нарадзілася ў 1969 годзе ў вёсцы Чудзін Ганцавіцкага раёна. З дванаццаці гадоў жыве ў Полацку. Закончыла Віцебскі педагагічны інстытут. Зараз працуе выкладчыцай інфарматыкі ў Полацкай нацыянальнай гімназіі. Першыя вершы маладой паэткі друкаваліся ў газетах "Віцебскі рабочы" і "Полацкі веснік".*

Ірына ДАРАФЯЙЧУК



# "УДАЧА ПОЗІРКАМ АДДЗЯЧЫЦЬ..."

•

Намалюй мяне, Мастак —
Каралеву, а не пешку.
Намалюй мяне — "за так",
За прыгожую усмешку,
За дажджынку на шчацэ,
За растрачаныя сілы,
За пярсцёнак на руцэ,
За маё былое "мілы..."
На тваёй палітры ноч —
Сіні згустак акварэлі.
Ты адзін у цемру кроч,
Бо ўдваіх мы не сумелі,
Бо на шэрым палатне
Не імклівыя вясёлкі, —
Змрочны вечар у акне,
Вецер, прывідны і золкі.
Бо ў вачах — пытання знак
Без надзеі на удачу...
Намалюй мяне, Мастак...
Я ніколі не аддзячу.

•

Вецер над рэчкаю
крылы стамлёныя студзіць,
Восень халоднаю знічкай
мне цэліць у скронь...
Дзе ж вы падзеліся,
смелыя гордыя людзі,
Што за каханне ішлі у ваду і ў агонь?

О, як жа цяжка мне бачыць вас —
ціхіх, памерших,
Сонных, знямелых — атручаных
сённяшнім днём...
Дзе ж вашы вусны,
пякучыя сонечным вершам,
І пацалункам, і восеньскім
сумным агнём?

Дзе ж вы падзеліся —
з вечнаю марай аб цудзе,
З верным сяброўствам,
з уменнем адводзіць бяду?..
Вецер над рэчкаю
крылы стамлёныя студзіць,
Восень халоднаю знічкай
ляціць у ваду...

•

Плакаў горад дажджом начным...
Горка вецер яшчэ ўздыхае,
Але зоркі ўжо мігцяць.
Сяду, як ля калыскі, на ганку.
Над табою кружляюць сны,
Твая крыўда сціхае, сціхае...
Спі, мой горад, маё дзіця,
Я спяваю табе калыханку.

Калі мне столькі год было,
Колькі сёння табе стагоддзяў,
Я круцілася, бы у вірах,
У надзеях, чаканнях і марах.
А цябе задушыла шкло.
Адлюструешся, хоць і не згодзен
У балконах і ліхтарах,
У бетонна-неонавых хмарах.

Мы знішчаем сваю зямлю,
Мы знішчаем цябе, сляпыя...
Бачу твар твой сярод вясны
І адчай у вачах бязвінных...
Я ўсё роўна цябе люблю,
Бо душы тваёй боль — Сафія,
Бо прыцішаны гул начны,
Як дыханне заснуўшага сына...

•

Крыжаванка душы
ў лабірынце нябёс —
Без пустога размоўнага смецця —
Нібы вецер усмешкі ці полымя слёз
На чужой неабжытай планеце.

Я сатру непатрэбную
чырвань са шчок.
З-за чаго узгарэлася спрэчка:
Чалавек чалавеку — не вораг, не воўк,
Чалавек чалавеку — пустэча.

Чалавек чалавеку — не кропля
на шкле,
Не дрыготкае полымя свечак,
Чалавек чалавеку — зачынены склеп,
Чалавек чалавеку — пустэча.

Вы не згодны?
Маўчыце?
Не ваша віна?
Зазірніце у сумныя вочы,
Зазірніце ў калодзеж да самага дна,
Да слязы, да збавення, да ночы.

Ноч заплача, пастукаўшы ціха у шкло.
Я прашу, адчыніце ёй дзверы...
Чалавек чалавеку — каханне,
святло!..
Мы няшчасныя, бо не верым...

•

Да маёй віны — сузор'е іншых він,
Бо заўжды мы ад жыцця
залішне просім.
Я ўсё аддам за рык аленя ўвосень,
За пралеску і прыгоршчы журавін.

Да маёй слязы —
не кропелька на шкле,
А заінелы шлях змарнелай ночы.
Кожны сам сабе
няшчасце напрарочыць,
Кожны сам сабе збудуе
шчыльны склеп.

Да маёй бяды — чырвонае віно,
Бо нікому не баліць бяда чужая...
Я ўсё прыму ад зайздрасці да жалю,
Я ўсё прыму, бо мне усё адно.

Ах, суцішце хцівы бляск
сухіх вачэй —
Вас і так удача позіркам адзначыць,
Бо заўсёды хтосьці ёсць,
хто болей плача.
Ён, часцей за ўсё, не той,
каму гарчэй.

•

Мёртваму гораду — мёртвыя птушкі,
Мёртваму дрэву — змярцвелае вецце.
Гойсае чорны вятрыска па свеце,
Каб у далонях дзяцей нашых гушкаць.
Мёртвым вачам — нерухомыя веі,
Мёртвым ільнам —
абгарэлыя кросны...
Плач!.. Толькі плакаць
ніколі не позна,
Слёзы — адзінае, што не счарнее.
Плач, толькі плакаць не позна ніколі,
Усё, што памерці магло, —
ўжо памерла.
Мёртваму галасу — мёртвае горла,
Мёртваму коласу — мёртвае поле,
Серп затуплёны і мёртвыя жорны,
Мёртваму звону — пустыя званіцы.
Хочаш жывою вадою напіцца, —
Выпі з крыніцы,
змярцвелай і чорнай.
Выпі. Няхай нерухомыя вусны
Бога не бэсцяць
і д'ябла не славяць.
Мёртваму розуму — вечная вусціш,
Мёртваму гораду — горкая памяць.

Проза

# ТРОЕ НА АДЗІН ПІРАЖОК

Дзед Мірон жыве ў цэнтры горада. З усіх бакоў яго дамок абляпілі старыя і новыя будынкі, а ён жыў у сваім гняздзе з даваеннага часу, так і жыве. Цагляны дом — дык што яго возьме, якая хвароба? Адно што дах памяняў. Нават вайна не кранула. Паабапал усё згарэла, а ягоны дом ацалеў, быццам як усё роўна ведаў: вернецца з вайны гаспадар, то куды ён пойдзе, хто прытуліць-абагрэе? Хопіць, што ён там пад голым небам нацярпеўся і ў снезе, і ў гразі, і пад дажджом. Было. Пяхота ж! Галоўнае — неяк во пашэнціла — жыве. Гэта ўсё таму, што кулі шкадавалі Мірона: усё міма і міма свісталі, дзве толькі з ліхага дзесятка трапіліся, не захацелі міма яго праляцець — укусілі. Каб дужа балюча, дык не, малады тады быў, хутка ўсё зарубцавалася-загаілася. А мо яшчэ і таму хутка, што іншым горш даставалася, на тваіх вачах і забівала, і ад ран паміралі. На вайне толькі першыя дні асцерагаешся, а тады жывеш звычайным жыццём — што будзе, тое і будзе. А як вярнуўся з вайны, дзяцей падгадаваў Мірон, цяпер свае сем'і маюць, жывуць паблізу, у сваіх кватэрах і сваім жыццём, амаль не заходзяць. Каб дочкі, думае дзед, то забягалі б, а сыноў, відаць, жонкі не пускаюць. Ну дык няхай. Яму і з Жулікам някепска. Мірон увесь час трымае сабаку, іх ці не шэсць у яго памянялася, а вось імя адно застаецца, як па ланцужку ідзе, — Жулік. Гэты, апошні Жулік, таксама добры сабака, разумны: цапнуць можа толькі на сваім падворку, ды і тое, калі змікіціць, што з нядобрым прыйшоў чалавек. А так не. Ён і па горадзе гуляе. Пашкадаваў Мірон, адшпіліў ад ланцуга. "Пабегай, пабегай, Жулік, і табе, мусіць, сумна аднаму. Тэлевізара ж няма, як і ў мяне. Пабегай". І Жулік бегаў. А нагуляецца, доўга лашчыцца тады да гаспадара, стараецца лізнуць у твар — дзякуе, бач ты яго, што ў 'звальненне пусціў.

Апошнім часам дзед Мірон пачаў заўважаць за Жулікам такую штукенцыю. Хітраваць пачаў сабака. Вынесе яму што-небудзь стары, калі не ў посудзе варыва, а костачка якая ці хлеба акрайчык, то Жулік не стараецца раскашаваць — больш робіць выгляд, што збіраецца сілкавацца, а сам вачмі водзіць за гаспадаром, хвосцікам круціць. Варта дзеду Мірону адвярнуцца — глядзь, ні Жуліка, ні костачкі той. "Некага корміць, — здагадаўся стары, і светлая ўсмешка набегла на твар. — Дык чаго ж ты, дурненькі, гаспадара свайго ашукваеш, га? Што за недавер такі? Не харашо, не харашо, Жулік. Але малайчына..."

І ў той дзень Жулік шугануў з двара з дранікам. Спярша паглядзеў на дзверы, на вокны — ці няма гаспадара? — і драпануў. Але дзед Мірон сачыў за ім — стаяў крышачку далей ад вакна, за празрыстай фіранкай, і як толькі Жулік пабег, лёгенька падштурхнуў суседскага хлапца Міцьку:

— Бяжы, прасачы, каго ён там частуе.

— Ага! — І Міцька, шчаслівы, што дзед даверыў яму такое адказнае заданне, борздзенька пасігаваў за Жулікам.

А дзед Мірон сядзіць на табурэціку перад акном, чакае. Міцька вярнуўся хутка — на аднойназе.

— Там, каля газетнага кіёска, Жулік аддаў блін мурзатаму сабаку. Той адразу яго — хап! — і з'еў. Галодны, мабыць. Ён бомж. Чэсна, дзед, бомж. Ага-а! Кудлаты, брудны.

— Прывёў бы...

— Вы ж не гаварылі...

— Не падумаў. Прывядзі, Міцька, іх абодвух.

Міцька сабраўся ўжо бегчы, але яго затрымаў дзед Мірон:

— Пачакай, хлапец. Каб табе лішні раз не бегаць, — перастрахуемся. Пачакай. — Стары ўзяў пад прыстрэшкам на цвіку ашыйнік, падаў малому. — Цяпер бяжы.

— Ага!

Наперадзе ішоў Жулік, а крыху ззаду Міцька вёў на вяровачцы бомжа. Сапраўды: задрыпаны дужа, недагледжаны шчанюк, цяжка вызначыць, якой і пароды. Жулік прытуліўся да нагі гаспадара, хочацца яму лізнуць старога, ды не асмельваецца — чакае, хітрун, як той паглядзіць, што не адзін, а з другам.

— А ён адразу і пайшоў, нават не супраціўляўся, — паведаміў Міцька.

— Супраціўляцца навошта яму? — з лёгкай вясёлай усмешкай на заклапоча-

# ДВА АПАВЯДАННІ

*Васіль ТКАЧОЎ*



ным твары дзед Мірон зняў ашыйнік. — Разумее, брат, што горш яму не будзе. Хай во жыве тут, на двары, з Жулікам на пару. Каб яму блінцы не красці.

А Жулік хвосцікам мяцеліць, вочкі блішчаць — рады, што гаспадар не праганяе ягонага друга.

— Ну, і як мы цябе назавём? — паглядзеў дзед Мірон на шчанюка. — Прыдумаем, прыдумаем нешта. А табе, Мітух, дзякуй. Як пенсію палучу, дам на марожанае.

— Не трэба, дзед, — засаромеўся

— А гэта, Жулік, табе... Во, бачыце, і мне засталося... Вечарам я ў чай яго памакаю і з'ем. Ну як, смачны піражок? Смачны, бачу. За кампанію во і з'ядзім. А як жа — з'ядзім. Бомж, бачу, ужо адужаў сваю порцыю. А ты што, Жулік? А-а, ты сыты. То глядзі сам,не малы. Ці хочаш бомжу ўдружыць сваю долю? Твая справа. Удружай. — Дзед Мірон бачыў, як шчанюк, бытта пачуўшы яго, лёг на пярэднія лапкі перад Жулікавай доляй і глядзіць на спакусу. — Еш, еш, раз табе ахвяраваў

Міцька.

— Не трэба, дык не трэба. Заходзь калі.

— Ага! — І Міцька пабег на шумную гарадскую вуліцу, дзе гудуць на ўсе лады машыны, шнуруюць узад-уперад людзі...

Дзед Мірон пачапіў на цвік ашыйнік, патупаў у хату. Трэба ж нечым прывеціць новага члена сваёй маленькай сямейкі. Дранікаў не засталося. Хлеба зусім мала — чацвярцінка, а гэта ж на тры дні, да пенсіі. Калі ж так склалася нявыкрутна — прывезлі нарэшце брыкет, зімаваць жа яшчэ думае дзед Мірон, усю пенсію на яго ўгэкаў, яшчэ і не хапіла трох тысяч рублёў, пазычыў заадно і пяць на хлеб. Цяпер во ашчаджае на ўсім, хоць тыя брыкеціны еш. Ды — такой бяды, перажылі не такое. Так думае дзед Мірон і шукае чаго-небудзь з ежы, каб пачаставаць шчанюка. Апароў нешта ў газеціну загорнутае. Піражок. Гэта ж піражок, праўда! Забыўся зусім на яго. Думаў, што ўсе паеў з Жулікам, а, бач ты, застаўся адзін у газеціне. Як знайшоўся. "То во ім і пачастую".

— Ну, сябры мае, жывём! — насупіў бровы дзед Мірон. — Піражок! Во, паглядзіце які. З павідлам. На тым тыдні ў кулінарыі браў. Смачны. Зараз мы яго... зараз... — стары наважыўся разламаць піражок, але ён не паддаваўся, ссох. — Пачакайце, браткі... Чым бы мне яго ўзяць? А во, нож... Давай яго сюды... Нож возьме. Павінен узяць. Не возьме, дык мы тады малаточкам пастукаем зверху...

Жулік і шчанюк уважліва сачылі за піражком, стаялі яны побач, цікавалі, матлялі хвосцікамі. Дзед Мірон усё ж дамогся свайго — разрэзаў піражок на тры роўныя часткі. Ажно абрадаваўся, што атрымалася.

— На, бомж, еш, — падаў першую, большую, частку кудлатаму шчанюку. — Гэта табе.

Шчанюк ухапіў сваю долю, юркнуў падалей ад Жуліка і дзеда Мірона, узяўся частавацца, раз-пораз зіркаючы на добрага дзеда.

Жулік. Жулік добры ў нас. Еш, а тады мы з табой пагамонім. Раскажаш нам, хто цябе прагнаў, па свеце пусціў, бедалагу... Які чалавек такі знайшоўся... Э-хе-хе-хе... Што ж, жыві ў нас. Месца хопіць. Багаты стол, праўда, я табе не абяцаю, але падзелімся. Ды і дах у цябе цяпер будзе над галавой. Жыві. А можа, ты там, на вуліцы, і спраўней еў? Там жа, можа, было што падабраць? Глядзі сам. Выбірай, дзе табе лепш. Няволіць не буду. Не, кажаш, тут лепш будзе?.. Дом — ён, канешне, і ёсць дом. Свой вугал. Гэта багата што значыць. Ну, добра... Адпачывайце. Я таксама пайду прылягу.

Дзед Мірон задрамаў, і прысніўся яму сон, што ў газеціне быў не адзін піражок, а два...

## ПРА ГАННІНА ЖЫЦЦЁ І МАЎЗАЛЕЙ

Цётка Ганна жанчына была прыгожая. Высокая, з доўгай чорнай касой, твар смуглявы, быццам увесь час на ім трымаўся загар, і стройная была, рухавая. І вельмі ўжо на слова вострая. Іншы раз так апярэжа каго слоўкам, што хоць скрозь зямлю ад сораму. А яна адно пасміхаецца: што, шалапут, праўда вочы рэжа?.. Мужык, кажуць, таму і драпануў ад яе, праз слова гэтае. Даўно было, у твар нават не помняць людзі таго першага і апошняга Ганнінага мужыка. Дзеці засталіся ад яго, адна іх падымала. А пасля вайны цяжка, клопатна было. А ў вайну хіба мала набедавалася? Сэрца вышэй пятак не падымалася. Як рак пад корч, хаваліся ў той бліндаж, дрыжэлі-трымцелі там, бо наверсе і кулі лёталі-свісцелі, і снарады разрываліся як не на самым агародзе, і з неба кідалі на пасёлак бомбы. Выжыла неяк. І сама, і дзеці. А што толку? Ганна не раз думала роспачна, як жыццё сваё перагортвала, узважвала, быццам на далоні трымаючы: ну і скажыце вы мне, людцы, якая карысць мне ад сваіх дзяцей, каб ім затлуміла?.. Няма чаго добрага ўспомніць. Пустое месца. Дачка яшчэ так-сяк, а што пра сына казаць? Чужы чалавек, бывае, лепшы стрэнецца, чым свая крывінка... Ганна ўмоўчвала багата чаго пра Кольку, не прызнавалася людзям, што ён вырабляў. Аднаго разу, праўда, у доме для састарэлых, незадоўга да смерці, паскардзілася бабулькам, такім жа бядотным, як і сама, што кавалка хлеба шкадаваў. Прап'е грошы, есці няма чаго, адно паўбохана хлеба ляжыць на стале, звычайна чэрствага, бо калі п'е, то есць мала. А п'е кожны дзень. Ганна не кранaлася, Божа барані, таго хлеба: кармілася асобна, так сын пастанавіў. Асобна дык асобна, невядома, каму горш. Але, выходзячы з хаты апахмяляцца, злы на матку, што грошай не прыберагла палячыць яму галаву, Колька паказваў на той хлеб і шыпеў: "Каб да хлеба, б... старая, і пальцам не бралася, к-курва! Мой!"

А як памерла яна, то людзі пахавалі. Колька не прасыхаў, нават на могілкі не раскатурхалі яго. Цяпер во зарос грудок бадыллём, ні помніка на ім, ні надпісу ніякага на пачарнелым ад дажджоў і вятроў драўляным крыжы. Дачка няблізка жыве, недзе ў Сярэдняй Азіі, пад Ташкентам, і прыехаць ёй на радаўніцу не выпадае цяпер. Яна і раней не рвалася да маткі, а сёння хоць і захочаш, не прыедзеш — грошай вялікіх каштуе паездка, а яна не мільянерка. А Колька зусім апусціўся, на чалавека мала падобны: зарослы, нямыты, смярдзіць ад яго гэтак, што не падыходзь. Раней дзевак з сінякамі пад вачыма — і дзе толькі ён іх адкопваў, у якіх краях? — вадзіў да сябе ў хату, а цяпер булькае толькі з мужыкамі — такімі, як і сам, мурзамі. А разумным жа чалавекам быў, у школе вучыўся добра, нават паступіў быў у інстытут, хоць там ужо не затрымаўся доўга: на бульбе напіўся і пакалашмаціў выкладчыка, які зрабіў яму заўвагу, каб не мацюкаўся. Скончылася выключэннем. Ну, а потым пайшло-паехала... Кажуць, быццам нават да маткі чапляўся: "Давай, к-курва, кладзіся... спаць будзем!"

Ганна і ўцякла тады ў дом для састарэлых. Пенсія ў яе па тым часе была добрая, узялі і не пыталіся асабліва, што ды як...

Вось, бадай, і ўсё, што я ведаў пра цётку Ганну. Асобная ж старонка ў яе жыцці — гэта паездка ў Маскву і наведванне маўзалея. Пра гэта ўвесь пасёлак ведае, нават тыя, хто ніводнага разу не бачыў цётку Ганну. Кажуць, бывае: "Адна ў нас у маўзалей хадзіла... Паслухайце — абхахочацеся, г-гы!"

А я сам чуў, як расказвала Ганна і пра Маскву, і пра маўзалей. Не мне — старэйшым людзям, а я, смаркач, прыладкаваўся побач і слухаў. Як цяпер бачу цётку Ганну і як цяпер чую яе крыху грубаватый, падобны на мужчынскі, голас. Было гэта ў сярэдзіне шасцідзесятых гадоў. Рабіла тады Ганна на ферме даяркай, і добра, мабыць, рабіла, калі яе партрэты часта скакалі з газеты ў газету. За добрую працу і ўзнагародзілі цётку Ганну паездкай у Маскву. З раёна тады набілася у грузавік перадавікоў багата. На сене ехалі — мякка. Гэта пазней аўтобусы ў модзе сталі, тады — не, тады было так. Цар-гармату і цар-звон паглядзела яна разам з усімі, у музей рэвалюцыі схадзіла, выступіў перад імі стары бальшавік, які хваліўся, што бачыў Леніна. Па крамах пашасталі. Трэба ж было — заказаў набрала Ганна ў суседзяў і знаёмых, што рук не хопіць, каб усё панесці. Добра яшчэ, што ў школе, дзе начавалі, мужчыны па чарзе сцераглі транты, што паміж экскурсіямі паспявалі купляць жанчыны. Мужчыны, хоць і перадавікі, больш пілі і ў карты гулялі.

Чаргу ў маўзалей занялі раненька — нехта падказаў так зрабіць, а то можна не трапіць да Уладзіміра Ільіча. Натапталіся ў скверыку, пакуль не адчынілі маўзалей. Але нічога — і людзей пагляздзелі-паслухалі, і марожанага наеліся. Пакуль стаялі, Ганна паспела ў ЦУМ адскочыць з нейкай кабетай. Прыбегла задаволеная, з вялікім пакункам, шчасліва ўсміхалася.

А чарга ледзьве рухалася, хоць і не стаяла на месцы: людзі ідуць, ідуць, ідуць...

Перад самым маўзалеем Ганну надзяліў увагай міліцыянер, пагляздзеў на яе патрабавальна і строга, што прымусіла жанчыну ўспомніць пра клунак, куды яна ўпакавала колькі часу назад пакупкі, і яна схавала клунак за спіну.

— Жанчына, — не дужа строга, але гучна і афіцыйна сказаў міліцыянер. — З рэчамі нельга заходзіць у маўзалей.

— А што ж? А куды ж?.. — зачырванелася Ганна, затапталася на месцы, зіркаючы на землякоў. Столькі ж прастаяла — і нельга? Што вы гэта гаворыце? Што маім рэчам там зробіцца, у маўзалеі?

Міліцыянер усміхнуўся, борздзенька падышоў да Ганны.

— З вашымі рэчамі, можа, нічога і не зробіцца, я не ведаю, — залыпаў ён вачыма. — Я за іх не адказваю. А ў маўзалей нельга. У камеру здаць належыць. Чытаць трэба...

— І праўда ж! А я і забылася. Даруйце, таварыш участковы, — сустрэлася вачмі з міліцыянерам Ганна. Яна сцяміла, што з ім размаўляць трэба больш далікатна, тактоўна, паспрабавала нават усміхнуцца. — Больш не буду. Яй-бо, не буду. Каб я праваліласа, дзе стаю!

— Тут, цётка, не трэба, — задаволена рагатнуў міліцыянер. — Тут святое месца — Красная плошча.

— Цьфу ты, я і забылася! — асцярожна паплявала Ганна.

— Менш размоў, цётка! Ты не ў калгасе! Выйдзі з чаргі з рэчамі! — паспяшаўся на выручку калегу яшчэ адзін міліцыянер, вырас перад Ганнай.

Ганна замітусілася, разгублена заміргала вачамі, шукаючы падтрымкі ў землякоў, аднак яны маўчалі, бы вады набралі ў рот, а той дзядзька з райкома, што быў за старшага, скасіўшы вочы на грознага міліцыянера, спалохана шапнуў ёй, бы спадцішка ўшчыкнуў: "Рабіце, што гавораць..."

— Не, я таксама ў маўзалей хачу! — выпяла грудзі Ганна перад райкомаўскім начальнікам, ссунула бровы. — Я што — пабягу камеру тую шукаць? Хай яна гарам гарыць! Мужыкі, адвярніцеся! Адвярніцеся, кажу, мужыкі! Бабы, захініце мяне ад іх, ненажэрных! Во, во так. — І яна, нібы блазнуючы, загаварыла паўшэптам да жанчын. — На ўвесь пасёлак калі ж трусоў накупляла, каб яны задубелі, трусы тыя. Во, во, я зараз іх усе, трусы, на сябе надзену. Ці налезуць толькі? Павінны. І не будзе рэчаў. Хоць раз у жыцці мінісцерскім азадкам патрасу. Што пад спадніцай, тое ўсё маё. А то, бач ты іх, у маўзалей не пускаюць. Можна падумаць, што трусы там узарвуць маўзалей. За кім, можа, і вока трэба, толькі не за Ганнай. Ну, жанкі, дзе там міліцыянер? Расступіцеся, бабы! Усё, галубчык, няма рэчаў! Здала, здала ў камеру. Ага! Дык што, можна праходзіць?

Міліцыянер усё, вядома ж, бачыў, таму адно ўсміхнуўся і нічога не сказаў.

Вось так, Ганна, шырока, крыху як бы раскірэчыўшыся, і зайшла ў маўзалей, паглядзела на Леніна. Потым у той маскоўскай школе ледзьве не на самай ускраіне яна дужа доўга распраналася, сапла, крэхкала, а трусы складвала акуратна ў стосік і жартавала:

— Пакамечыліся, як усё роўна паўгода насіла, але ацікеткі не пазрываліся. Добрыя ацікеткі. А то паспрабуй дакажы сваім бабам, што новыя трусы купляла. Скажуць, на сметніку дзе падграбла.

— Ты, дзеўка, павінна ўзяць са сваіх баб удвая, а то і ўтрая даражэй, — ці то сур'ёзна, ці то жартам сказала даярка з суседняй вёскі. — Не здагадваешся, чаму?

— Не, яй-бо не! — шчыра прызналася Ганна.

— Таму даражэй, што яны ў маўзалеі пабывалі!

— Ай во, праўдацькі! — успляснула рукамі Ганна, а потым схамянулася. — Цішэй, цішэй, бабы. Рукавадзіцель наш ідзе. Хавайце трусы.

... Калі Ганна памірала, у той час пра Леніна людзі гаварылі толькі добрыя словы. А, можа, каб жыла цётка цяпер, то і яна б расказала ўсё крышачку інакш. Пэўна ж бы інакш...



## У АКАДЭМІЮ — БЕЗ ЭКЗАМЕНАЎ

**Такую прывілею маюць абітурыенты Беларускай акадэміі музыкі, ганараваныя лаўрамі міжнародных конкурсаў. Зусім нядаўна ў лік "прывілеяваных" выйшаў баяніст Аляксандр Севасцьян, які сёлета заканчвае Мінскае музычнае вучылішча. Аляксандр бліскуча выступіў на прэстыжным міжнародным конкурсе ў германскім горадзе Клінгенталі, паводле вынікаў двух тураў спаборніцтва ён быў безумоўным лідэрам, і толькі прыкрыя непаразумеласці з дырыжорам падчас трэцяга тура не дазволілі яму стаць першым. Але і тое, што беларускі музыкант А.Севасцьян заняў у выніку другое месца, — ёсць факт сапраўднай перамогі, бо ўдзельнікамі конкурсу былі 32 прадстаўнікі баянных школ найвышэйшага ўзроўню: з Расіі, Іспаніі, Францыі...**

**Высокую ацэнку атрымала ў сувязі з гэтым і праца, і — будзем ацэньваць шырэй — школа педагога, у якога займаецца Аляксандр. Гэта прафесар, прарэктар Беларускага інстытута праблем культуры Мірон Була. Высокі педагагічны і творчы плён Мірона Іванавіча не застаўся без увагі нямецкіх спецыялістаў, якія адразу ж запрапанавалі беларускаму калегу шэраг працоўных кантрактаў. Цікава, ці будзе ўшанавана перамога настаўніка і вучня "дома"? Ці зноў, як гэта часцяком бывае, міжнародны поспех застанецца "асабістай справай" тых, хто яго дасягнуў і прынёс тым самым славу сваёй краіне? У Акадэмію музыкі Аляксандр, пэўна ж, будзе прыняты. А ці будзе ў яго магчымасць выступіць з сольным канцэртам, напрыклад, у Камернай зале сталічнай філармоніі? (Дагэтуль баяніста-віртуоза зрэдчас можна было пачуць толькі ў праграмах аркестра "Менск", дзе ён "выдаваў" ашаламляльныя сола — згадайма славутую "Рассыпуху"!) А ці будуць нейкім чынам адзначаны заслугі ягонага настаўніка — М.Булы? Пытанні... Між тым, не знаходзячы адказы на гэткія пытанні, нашы музыканты ўсё часцей здавольваюцца іншым: працай паводле кантрактаў — невысокааплатных, адносна заходніх стандартаў, ды з павагай да мастацтва і да асобы музыканта — за мяжой...**

**С. Б.**

## У СЛОНІМЕ ЁСЦЬ "ГАНЧАР"



**Здаўна славіўся сваім ганчарным майстэрствам Слонім. У мясцовым музеі захоўваюцца вырабы, якім некалькі стагоддзяў. Радуе, што і цяпер ёсць майстры гэтага рамяства. Цікавую прадукцыю выпускаюць, у прыватнасці, на малым прадпрыемстве "Ганчар", дзе працуюць улюбёныя ў сваю справу людзі. Самы паважаны сярод іх — 72-гадовы Уладзімір Сяргеевіч Судоўскі, 56 гадоў ён працуе з глінай. Любоўна перадае ён свой вопыт самым маладым — Аксане Ацута і Тані Купрас. Дзяўчаты зусім нядаўна закончылі Мірскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча і атрымалі прафесію — ганчар.**

***На здымку: такое пано робяць Аксана Ацута і Таццяна Купрас.***
***Фота Эдуарда КАБЯКА,***
**БЕЛІНФАРМ**



***Парадаксальна і дзіўна, але факт застаецца фактам: пры сённяшнім бядотным становішчы грамадства сацыёлагі адзначаюць актывізацыю канцэртнага жыцця. Нараджаецца значна больш творчых калектываў, чым у "застольна-застойныя" часы. Здавалася б, не да мастацтва, калі развальваецца эканоміка краіны, а тым не менш людзі цягнуцца да прыгожага. Штосьці аналагічнае, як помніцца, адбывалася і ў самыя цяжкія ваенныя гады: 1942—1943, калі, здавалася б, у самы спрыяльны час быў створаны шэраг мастацкіх калектываў.***

***Так, мастацтва здольнае абараніць чалавека ад негатыўнай, надакучлівай інфармацыі, ад цяжкіх думак і перажыванняў, таму людзі цягнуцца да мастацтва, знаходзячы ў ім суцяшэнне і маральную падтрымку. І не можа не выклікаць захаплення імкненне кіраўнікоў вялікіх творчых калектываў ладзіць сувязь са слухачом не толькі "in corporo" (поўным складам), але і паасобнымі групамі — зразумела, не на шкоду дзейнасці ўсяго калектыву.***

# СОНЦА Ў САБЕ

## РЫСЫ ДА ПАРТРЭТА АНСАМБЛЯ САЛІСТАЎ ДЗЯРЖАЎНАГА КАНЦЭРТНАГА АРКЕСТРА БЕЛАРУСІ

Год таму мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Міхал Фінберг і прафесар Беларускай акадэміі музыкі Барыс Нічкоў вырашылі стварыць актэт драўляных духавых інструментаў — арыгінальны і мабільны ансамбль для прапаганды выканальніцкага мастацтва гэтай старадаўняй формы музіцыравання. Кіраўніком ансамбля стаў вельмі спрактыкаваны таленавіты музыкант, саліст, ансамбліст, заслужаны артыст і педагог Барыс Уладзіміравіч Нічкоў.

Ансамбль — гэта мастацтва поўнага ўзаемаразумення і адзінага дыхання, калектыў аднадумцаў, якія імкнуцца аб'яднаць свае творчыя намаганні і лепшыя прафесійныя дасягненні дзеля агульнай мастацка-эстэтычнай ідэі. Ансамбль — гэта і вышэйшая школа развіцця творчай выканальніцкай дзейнасці, бо калектыўныя формы музіцыравання заўсёды, гаворачы навуковай мовай, крэатыўныя, г.зн. ствaральныя паводле сваёй сутнасці. На жаль, сярод нас не так многа, як хацелася б, музыкантаў, якія разумеюць і высока цэняць ансамблевае гранне. А менавіта ж у ансамблі артыст-выканаўца пастаянна ўзбагачаецца на веды, уменні, вопыт. Адцяняючы лепшыя якасці сваіх партнёраў, кожны ўдзельнік ансамбля тым самым найлепш праяўляе і сваю індывідуальнасць.

Ансамблевае выканальніцтва прад'яўляе пэўны комплекс спецыфічных прафесійных патрабаванняў да кожнага артыста-выканаўцы. Гэта ўменне чуць, разумець і аналізаваць не толькі сваю партыю ("я"), але і партнёра ("ты") як арганічную частку цэлага, і гучанне ўсёй партытуры ("мы"), г.зн. ствараць гармалічна збалансаванае ансамблевае гучанне, ладзіць творчы сінтэз на аснове тонкай дыферэнцыяцыі ўсяго гукавога матэрыялу на адносна самастойныя інтанацыі, матывы, фразы, сказы, асобныя часткі музычнай мовы.

Усе гэтыя найбольш важныя якасці ансамблевага выканальніцтва яскрава і пераканаўча дэманструе на сваіх канцэртах малады ансамбль салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. Яно і не дзіўна, бо граюць тут музыканты высокага класа: лаўрэат рэспубліканскага і міжрэспубліканскага конкурсаў Яўген Віданаў і лаўрэат міжнародных конкурсаў Сяргей Картэс; габаісты — лаўрэат міжнароднага і міжрэспубліканскага конкурсаў Алег Алясюк і лаўрэат міжнароднага і рэспубліканскага конкурсаў Дзмітрый Кавалёў, кларнетысты — лаўрэат міжрэспубліканскага конкурсу дацэнт Беларускай акадэміі музыкі Іван Брычыкаў і ягоны вучань лаўрэат міжнароднага і ўсесаюзнага конкурсаў Вадзім Іваноў, фагатысты — заслужаны артыст Беларусі прафесар Акадэміі музыкі Уладзімір Будкевіч і лаўрэат міжрэспубліканскага і рэспубліканскага конкурсаў Алег Мазурын.

Усе яны розныя і па ўзросце, і па выканальніцкім вопыце, але іх аб'ядноўваюць высокі прафесіяналізм ды агульнасць інтарэсаў, імкненне прапагандаваць класічную музыку, у прыватнасці, яе лепшыя ўзоры мінулых стагоддзяў. У гэтым — рухаючая сіла мастацкатворчай дзейнасці ансамбля, яго звышзадача.

А што ж такое класіка? Класіка — гэта ўсё лепшае, што створана тытанамі духу; гэта — незаменная школа выканальніцкага майстэрства; гэта — бясконцая разнастайнасць глыбокіх і цудоўных музычных вобразаў, невычэрпнасць зместу; гэта — прымат жыццялюбства над трагічнымі калізіямі; гэта — стойкі аптымізм і гарачая вера ў перамогу дабра над злом; гэта — чароўнае хараство мелодый, гармоніі. І таму гэта — нялёгкі экзамен для выканаўцаў на творчую сталасць.

Вялікую і разнастайную праграму ансамбль салістаў звычайна адкрывае творам нашага суайчынніка Мацея Радзівіла — Дывертысментам у 3-х частках, дзе яскрава выявіліся многія рысы стылю барока. Выканаўцам удаецца "ажывіць дух" твора, раскрыць багатую тэмбравую палітру і з глыбокім разуменнем расшыфраваць "інтанацыйны слоўнік" эпохі.

Прываблівае слухача і твор невядомага аўтара XVIII ст. — Канцэрт "Паляванне". У ім 5 частак, і кожная частка мае назву, своеасаблівую праграму: 1) стварэнне вобраза раніцы; 2) марш, або выезд на паляванне; 3) пераход з выспы на выспу; 4) песня паляўнічых; 5) паказ, як з коней злазяць. Сама па сабе тэма палявання даволі часта прыцягвала кампазітараў, бо тут аўтар мае магчымасць выкарыстоўваць не толькі выразныя, але і выяўленчыя сродкі музыкі. У адрозненне ад іншых твораў, у якіх раскрываюцца сцэны паляўнічага рытуалу, у канцэрце "Паляванне" яны не толькі памайстэрску "намаляваны", але і пададзены з элементамі тонкага гумару.

Дзве часткі (II і III) з Канцэрта Антоніа Вівальдзі для флейты, габоя і фагота (сольныя партыі выконваюць С.Картэс, А.Алясюк і А.Мазурын) робяць на слухачоў вялікае ўражанне. Чароўныя мелодыі, вытанчаныя гармоніі, рамантычнае чарадзейства ігры салістаў нікога не пакідаюць абыякавымі.

Звяртаю асаблівую ўвагу на выкананне твора А.Тарыяні — Канцэрт на тэмы оперы Г.Даніцэці "Лючыя дэ Ламермур", у якім саліруе прафесар Уладзімір Будкевіч. Адкрытасць без залішняй патэтыкі, непадробная шчырасць перажывання, выключная музычнасць, яскравае віртуознае майстэрства літаральна зачароўваюць аўдыторыю. Вось прыклад, варты пераймання, — і для студэнтаў, і для педагогаў.

Канцэрціна Іягана Георгса Альбрэхтсбергера ў 4-х частках — гэта ўжо вястун рамантызму. Тут вялікая роля належыць вытанчанай каларыстыцы, якая робіцца асноўным сродкам раскрыцця рухаў душы і палымянага натхнення ў эпоху росквіту рамантызму. Не меншую цікавасць у слухачоў выклікае Канцэрціна чэшскага кампазітара Яна Вацлава Каліводы. Славянскі тэматызм, блізкі нам па духу, часам асацыіруецца з інтанацыямі беларускага фальклору. Цудоўныя салісты — флейтыст Я.Віданаў і габаіст Д.Кавалёў — у сваёй выканальніцкай канцэпцыі раскрываюць паэтыку і вобразны свет таленавітага мастака гукаў.

Папулярная п'еса Іягана Штрауса "Вечны рух" усімі слухачамі — ад простага аматара музыкі да акадэміка — успрымаецца, як кажуць, "на ўра". Яна нясе неабходную нават для вельмі добра "загартаванага" слухача эмацыянальную разрадку. Увесь склад ансамбля выконвае яе як бы жартам, калі не бачна высілкаў, але адчуваецца вялікая сіла мастацкай выразнасці. Звычайна пасля выканання гэтага твора ў публіцы адкрываецца "другое дыханне" для таго, каб і надалей успрымаць глыбокую і сур'ёзную Музыку.

Канцэрціна яшчэ аднаго чэшскага кампазітара Франішака Кромера — вельмі складаны па фактуры, па сродках мастацкай выразнасці віртуозны твор, які вымагае да таго ж насычанага аркестравага гучання. Гэта "няпросты арэшак" для ансамблевага выканання. І хаця ў канцэрце, на якім я быў, выконвалася толькі 1-я частка, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ансамблю салістаў "арэшак" гэты "па зубах". Артысты з лёгкасцю адолелі як тэхнічныя, так і мастацкія цяжкасці і прынеслі слухачам вялікае эстэтычнае задавальненне.

Прынята лічыць — і зусім справядліва, — што ўраджэнец Украіны кампазітар Дзмітрый Бартнянскі з'яўляецца вялікім майстрам харавых твораў, якія вызначылі росквіт мастацтва Расіі эпохі Асветы. Аднак кампазітар напісаў нямала інструментальных, ансамблевых і аркестравых твораў. Дзякуючы віртуознаму валоданню парадным стылем і прыўнясенню ў яго лірычнай шчырасці, Бартнянскі надаў сваім творам тую прывабнасць, што паспрыяла іх шырокаму распаўсюджванню як пры жыцці кампазітара, так і ў наш час.

У апошнія дзесяцігоддзі творчасць Бартнянскага прыцягвае ўсё больш як правіла неардынарных выканаўцаў, якія знаходзяць у ім духоўнае багацце, душэўнае сугучча, сур'ёзнасць і глыбіню, прыгажосць і захапленне жыццём, веліч дабра. Адным словам, усё тое, што дорага і блізка нашым сучаснікам. Відаць, таму ансамбль звычайна заканчвае сваё выступленне Канцэртнай сімфоніяй Дз.Бартнянскага. Яе інтэрпрэтацыя цудоўным творчым калектывам выклікае пачуццё ўпэўненасці ў будучыні, аптымістычны настрой.

Слухачы першага канцэртнага ансамбля вельмі цёпла сустрэлі нараджэнне новага самабытнага творчага калектыву. Самае галоўнае, самае важнае, што ёсць у яго, — гэта натхнёныя, паэтычныя адносіны да інтэпрэтацыі старадаўняй музыкі. А натхненне, як вядома, абавязковая ўмова паспяховай творчасці. Той канцэрт адбыўся ў Камернай зале філармоніі з яго цудоўнай акустыкай і ўдзячнымі слухачамі. Слухач тут асаблівы, калі можна так сказаць, — "адрасны", які прыходзіць не проста на канцэрт, а на канцэртнага выканаўцу. Таму ў Камернай зале заўсёды пануе атмасфера высокай духоўнасці.

Хацелася б спадзявацца, што новая творчая супольнасць вытрымае ўсе выпрабаванні і нягоды нашага часу, каб і надалей захавалі музыканты свежасць пачуццяў, працавалі з максімальнай аддачай сіл. І яшчэ. Такі склад ансамбля здатны выконваць не толькі старадаўнюю музыку. Для яго не існуюць віртуознатэхнічныя бар'еры, яго мастацка-эстэтычная палітра неабмежаваная. Таму вельмі хацелася б, каб ансамбль салістаў прыкмецілі беларускія кампазітары. Бо вось нядаўна калектыў з вялікім поспехам выступаў у Дамініканскім саборы ў Львове. Украінскія музыканты з захапленнем успрынялі канцэрт старадаўняй музыкі, а пасля выканання п'есы А.Паскулі "Пчолка" заўважылі: "Гэта на мяжы магчымага". Але разам з тым тактоўна падкрэслілі, што было б вельмі добра наступным разам пачуць творы кампазітараў братняй Беларусі. Пакуль жа арыгінальнага рэпертуару для такога складу ансамбля вельмі мала. Увогуле сёння ў яго праграмах — пералажэнні беларускіх майстроў аранжыроўкі Л.Муранава і Г.Гедыльтэра.

"Каб азараць святлом іншых, трэба насіць сонца ў сабе", — пісаў Рамэн Ралан. Ансамбль салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра выклікае ў слухача самыя светлыя пачуцці і добры спадзеў. Будзем чакаць рэпертуарнага папаўнення. А майстэрства і натхненне гэтых музыкантаў, якія "носяць сонца ў сабе", абавязкова прывядуць малады калектыў на вышэйшую прыступку музычнага Алімпа.

**Міхась СОЛАПАЎ,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі**

# АДКРЫЙЦЕ ДЛЯ СЯБЕ ІМЯ...

Дасведчаны слухач успрымае выканаўцу з трох бакоў: якую энергію ён нясе ў залу, які стыль ягонай ігры і як асэнсоўваецца ім форма твора. Менавіта па гэтых трох параметрах я ацэньваў выступленне гродзенскага піяніста Ігара Брускіна на адным з яго сольных канцэртаў.

Брускін уражвае мяккім, прыгожым гукам. Ён напаўняе залу станоўчымі эмоцыямі. Перад намі — удумлівы субяседнік, які хутчэй суперажывае, чым навязвае свае пачуцці слухачу. Гэты піяніст мае адметнае творчае аблічча: ён не прымае трафарэтаў (свежыя тэмбры ў п'есах Рамо), адкрывае ў агульнапрынятым нікім яшчэ не заўважанае (меладычнасць у "Такаце" Хачатурана), адносіцца да класікі (Гайдна, Моцарта) не як да засушаных кветак, а пераламляе яе праз свой унутраны свет. Аднак пры яўна выяўленым індывідуалізме артыст цудоўна адчувае стыль выконваемай музыкі. Брускіну чужая перабольшаная патэтыка. Ён не бравіруе бліскучымі пасажамі. Яго тэхніка не ашаламляе, хоць яна бездакорная.

На мой погляд, Ігар Брускін — гэта тонкі музыкант і моцны прафесіянал. Я назваў бы яго ў ліку лепшых піяністаў рэспублікі. Шкада толькі, што ягонае імя рэдка з'яўляецца на афішах і што яго талент пакуль не запатрабаваны канцэртным жыццём Беларусі.

**В. РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

# ПАСЛЯ КАТАЛІЦКАЙ МАЛІТВЫ...

**У Чырвоным касцёле, што на плошчы Незалежнасці сталіцы, завяршалася вячэрняе набажэнства. На пявучай беларускай мове прамаўляў кс. Уладзімір Завальнюк, гучалі ў выкананні па-святочнаму апранутых дзетак сучасныя хрысціянскія песні, пад гітарны акампанемент манашкі... Песні пераважна беларускія. Потым ксёндз нагадаў расклад набажэнстваў у бліжэйшыя дні, зрабіў абвестку пра пілігрымку дзяцей з бацькамі да Маці Боскай Будслаўскай... А тым часам да касцёла падыходзілі, падыходзілі людзі. Яны займалі вызваленыя месцы на касцельных лавах; але ж далёка не ўсе вернікі паспяшаліся пакінуць храм, хаця імпрэза, якая чакалася тут пасля набажэнства, мела больш агульнага з праваслаўем, чым з каталіцтвам. Мінскі абласны камерны хор "Санорус" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута, які ў адзін з лютаўскіх вечароў прадставіў тут праграму невядомай беларускай праваслаўнай музыкі, зноў даваў канцэрт у Чырвоным касцёле. На гэты раз гучалі творы сучасных нашых кампазітараў — фрагменты з "Усяночнай" Сяргея Бельцюкова ды "Літургія св. Іяанна Златавуста" Алега Залётнева. З асаблівым захапленнем слухалі прыхаджане — а як тут яшчэ скажаш? — "Літургію...", у выкананні якой А. Шут скарыстаў цікавыя прыёмы перастаноўкі харыстаў, што дало яркі акустычны вынік. Пад гучную авацыю выйшлі ў канцы канцэрта і аўтары — С. Бельцюкоў ды А. Залётнеў, і, стоячы твар у твар перад публікай, на фоне цудоўнага хору, выслухалі яны магутны песняспеў, пэўна, у свой гонар: "Многая лета!".**

**С. Б.**

# ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ



**Добрыя тэатральныя традыцыі існуюць у Слоніме. Яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя тут даваў спектаклі оперны тэатр Казіміра Сапегі, які быў вядомы і за межамі Беларусі. Доўгія гады радаваў гараджанаў сваімі пастаноўкамі народны драматычны тэатр. А ў 1990 годзе тут арганізаваны Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр. Кіруе ім заслужаны дзеяч культуры Мікалай Варвашэвіч, які прысвяціў тэатральнаму мастацтву больш за 30 гадоў свайго жыцця.**

**У рэпертуары слонімскага тэатра — п'есы беларускіх драматургаў, спектаклі для дзяцей, класіка. Цяпер трупа рыхтуе да пастаноўкі камедыю Клода Манье "Блэз".**

***На здымку: на рэпетыцыі камедыі "Блэз" акцёры тэатра Віктар Шчарбакоў, Уладзімір Наумік, Васіль Сівец і малады рэжысёр Таццяна Дубік.***

***Фота Рамана КАБЯКА***

**БЕЛІНФАРМ**

# ПАЭЗІЯ НЕ ВЕДАЕ МЕЖАЎ

**У гэтым яшчэ раз пераканала свята паэзіі, што прайшло ў Віцебску і прысвячалася дню нараджэння вялікага рускага паэта А.С.Пушкіна. Прыхільнікі таленту Аляксандра Сяргеевіча і ўвогуле аматары паэзіі змаглі сустрэцца з Яўгенам Еўтушэнкам, Рыгорам Барадуліным, Сяргеем Законнікавым, Уладзімірам Някляевым, Радзіславам Лапушыным. І, вядома ж, з паэтамі Віцебшчыны. А яшчэ — з Галінай Дзягілевай, якая апошнім часам так шмат робіць па прапагандзе паэзіі, літаратуры. Адметнасць святу надало і тое, што адбылася прэзентацыя чарговай кнігі з серыі "Строфы веку". Яна складзена Я.Еўтушэнкам, у яе ўвайшлі творы дзесяткаў лепшых творцаў розных эпох.**

**Маркуецца, што пушкінскае свята ў Віцебску стане традыцыйным.**

# ЗАХАВАЦЬ ПАРТРЭТ ЭПОХІ...

***Мы не часта задумваемся, якую ролю адыгрываюць у жыцці нашага грамадства архівы. Асабліва тыя, што павінны захаваць для нашчадкаў дакументы, якія тычацца культурнага жыцця грамадства — фактычна партрэт эпохі. Якімі ўбачаць нас далёкія нашчадкі, якую гістарычную праўду пра нас адкрыюць — у многім гэта вызначае сённяшні стан і далейшы лёс нашых архіваў. У прыватнасці — Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.***

***У чэрвені гэтай установе спаўняецца 35 год. Чым жыве сёння архіў-музей, якія адкрыцці робяцца ў яго досыць замкнутай — ад увагі грамадства — прасторы? Вечныя праблемы з памяшканнем — знаходзіліся ў будынку Кацярынінскай царквы, вярнулі яе вернікам — месяцца ў былым кляштары бернардзінцаў, на які зноў жа прэтэндуюць вернікі... Няма дзе разгарнуць музейную экспазіцыю — званне архіва-музея абавязвае, а адсутнасць патрэбнай плошчы — не дае... А сабрана нямала — 395 фондаў, 25 тысяч кніг, 16,5 тысячы газет і часопісаў... І з усім гэтым працуе невялічкі калектыў энтузіястаў, сапраўдных знаўцаў і руплўцаў. Дык — ці робяцца адкрыцці ў гэтых старажытных змрочных мурах, у цяперашні, цьмяны, час?***

Ганна Вячаславаўна ЗАПАРТЫКА, дырэктар БДАМЛІМ:

— Адкрыцці здараюцца... Дарэчы, пра гэтыя муры, у якіх зараз мы працуем. Існавала паданне, што падчас паўстання Каліноўскага тут была апошняя цытадэль інсургентаў — паўстанцы абаранялі гэтыя сцены і тады, калі па ўсёй краіне паўстанне было разгромлена. У маіх руках — старэнькі нататнік. Гэта самы старажытны дакумент нашага архіва — ад 1813 года. Трапіла сюды гэтая кніжачка дзякуючы гісторыку В. Скалабану. А належала яна бацьку Каруся Каганца. У нататніку — гаспадарчыя запісы, ёсць аркушык з замалёўкамі алоўкам — хутчэй за ўсё, самога Каруся Каганца, які, як вядома, быў і мастаком. А зусім нядаўна мы заўважылі, што ў кніжачцы ёсць лісты з іншага нататніка — бачыце, папера не такой якасці... І на адным з гэтых укладзеных лістоў — надпіс: "1874 г., у Мінскім кляштары бернардзінцаў". А пад гэтым надпісам — прозвішчы з паметкамі. Прозвішчы ўдзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага з запісам іх лёсу — хто, дзе і калі арыштаваны, каго выслалі ў Сібір, хто забіты... Многае зашыфраванае. Самі надпісы падобна, рабіліся рознымі асобамі і ў розны час. Ёсць аркушык, на якім напісана "Малітва за вязняў" на польскай мове... Каму належаў нататнік, з якога гэтыя лісткі, як трапілі яны ў нататнік бацькі Каруся Каганца? Добра было б знайсці спецыяліста, які зможа расшыфраваць польскамоўныя запісы. Ва ўсялякім выпадку, тое, што запісы, зробленыя ў гэтых мурах, зноў трапілі сюды, падаецца мне невыпадковым.

Магу расказаць і яшчэ адно адкрыццё. Публікацыя пра яго яшчэ толькі рыхтуецца. А належыць гэтае адкрыццё не нашаму супрацоўніку, а мастацтвазнаўцу Нацыянальнага мастацкага музея Надзеі Вусавай. Надзея разбірае нашы дакументы на грамадскіх пачатках. Яна з тых руплiцаў, што спрыяюць захаванню культурнай спадчыны народа. Дзякуючы ёй трапіў да нас асабісты архіў мастака Астаповіча. Нядаўна мы папрасілі Надзею, каб яна прачытала для нас картатэку Палееса Сэндэра, які ў свой час, як і яна, працаваў мастацтвазнаўцам у мастацкім музеі. Чалавек гэта быў дзіўны, загадкавы, картатэка яго знаходзілася ў страшэнным стане — неахайныя шматкі паперы, неразборлівы почырк... Карацей, з 1966 года, ад часу паступлення, ляжаў архіў некрануты. Надзея згадзілася прачытаць яго для нас, расшыфраваць згаданыя там прозвішчы... Калі я праходзіла праз чытальную залу, дзе працавала Надзея, заўважыла: даследчыца глядзіць на мяне неяк незвычайна і дрыготкімі рукамі працягвае мне паперку... Аказалася, гэта знойдзены Надзеяй сярод дакументаў Сэндэра аўтограф Марка Шагала — адзіны ў нашай рэспбуліцы! Канешне, знаходка сенсацыйная. Але Н. Вусава — сапраўдны даследчык. Яна не стала адразу абнародаваць сваё адкрыццё, выраšыўшы высветліць лёс знойдзенага ліста. Як ён трапіў да Палееса? Надзея знайшла ў Амерыцы родзічаў П. Сэндэра, напісала туды. Адрасаваны ліст Шагала Сыркіну. Высветлілася, што гэты Сыркін быў рэпрэсаваны. Тады быў пасланы запыт у КДБ. Так што, магчыма, недзе ў архівах гэтай установы знойдуцца і яшчэ аўтографы Шагала...

Адкрыцці былі і будуць. Нядаўна, дзякуючы Максіму Танку і Сяргею Законнікаву у БДАМЛІМ паступіў асабісты архіў Паўліны Мядзёлкі. Незвычайна цікавы і вялікі архіў Лукі Бэндэ — 1506 спраў. Відавочна, гэты чалавек папаўняў сваю калекцыю рэчамі і дакументамі рэпрэсаваных пісьменнікаў... Многія з жывучых зараз дзеячаў культуры аддаюць сюды на захаванне свае дакументы. А хіба можа абысціся даследчык гісторыі беларускай літаратуры, гісторыі беларускага адраджэння без унікальных дакументаў рэдакцыі першай беларускай газеты "Наша Ніва", без дакументаў пра дзейнасць беларускіх арганізацый пачатку стагоддзя ў Вільні, Пецярбурзе, Латвіі, Празе. Усё гэта знаходзілася ў фондах ліквідаванага ў 1946 годзе Віленскага беларускага музея імя І. Луцкевіча. Вылучаюцца сярод фондаў арыгінальныя рукапісы Уладзіміра Караткевіча, асабістыя архівы Івана Мележа, Міхася Лынькова, Васіля Быкава... Схаваны тут да пары да часу гісторыі беларускіх тэатраў, творчых саюзаў, выдавецтваў, рэдакцый... Напэўна, калі-небудзь, як жартуе Ганна Вячаславаўна, якісь асабліва адважны даследчык возьмецца апісаць і заблытаную гісторыю айчыннага Міністэрства культуры...

У архіва-музея юбілей. 31 траўня ў Доме літаратара адбылася вечарына, прысвечаная гэтай падзеі. Пасля вечарыны адбылося адкрыццё выставы, на якой былі прадстаўлены самыя каштоўныя дакументы, адлюстравана гісторыя архіва.

**Г. ЧЭСЛАЎСКАЯ**

## Пераклады

***Санеты Адама Міцкевіча — гэта грані сутыкальнасці асобы са светам і грані высвечвання гэтай сутыкальнасці, псіхалагічна багатай і нечакана разнастайнай, шчодрай паводле свае прыроды і тонкай паводле культуры. Аднак Міцкевічава светаўспрыманне і спазнанне сябе ў свеце пакуль не стала здабыткам культуры землякоў вялікага паэта, не пераплавілася ў гістарычна-мастацкі і псіхалагічны вопыт яго беларускіх спадкаемцаў. Таму чытачам "ЛіМа" я прапаную колькі з тых санетаў Міцкевіча, якія па-беларуску яшчэ не гучалі.***

**Уладзімір МАРХЕЛЬ**

Адам МІЦКЕВІЧ

### ПАЭЗІЯ ! ТВОЙ ПЭНДЗАЛЬ НЕ ДАЕЦЦА Ў РУКІ

Паэзія! Твой пэндзаль
не даецца ў рукі?
Чаму, калі малюю,
думка не натхніцца,
Глядзіць з-пад слоў,
нібы з-за کратаў тых вязніцы,
Што хараство псуюць,
яго схаваўшы рухі?

Паэзія! Твае здалёк не чутны гукі?
Пяю — яна не чуе,
што хачу адкрыцца,
Як салавей не чуе ўжо тае крыніцы,
Што падае з глыбінь зямных
свой голас мукі.

Не толькі гук і колер,
думка мо святая,
Але й пяро, падданы
працаўнік паэта,
Не знае на чужыне
праў старога пана,

Таму не песню, а значкі
якіясь прадстаўляе.
Значкі для спеву песні...
ды вось песня гэта
Не будзе мілым голасам яе спявана.

### ДЗЕ ЎСВЯЧАНЫ КАЛІСЬ

Дзе ўсвячаны каліс
тваіх воч цеплынёю
Рос квет, што варты быў
архангельскае скроні,
Я рваў пазней табе букет
на тым улонні,
Быў з палыном ён змешан,
з ніцаю вярбою.

Калі мясціна зарасце пустой травою,
Ці ўзыйдзе чысты квет на ёй
у тым палоне?
Вазьмі ж букет — не варты
ён твае далоні,
Ды ўзрос, асвячаны
прысутнасцю тваёю.

Маё падобна сэрца да тае мясціны:
Каля грудзей тваіх
не ведала карысці,
Табе шляхетна несла
пачуццё і чыны.

Выходзіць, грэшнае,
ўжо са свае правіны,
Ты ім не пагарджай.
Яно шукала выйсці,
Яно было табе прысвечана калісьці.

### МЫ РАЗЫШЛІСЯ ЎЧОРА

Мы разышліся ўчора —
рады і здаровы;
Маёй ты ўчора стала;
сёння ж закахана
І з новым жарам у вачах
неспадзявана
Я да таго бег шчасця, да яго адновы.

Ты вочы паказаць не хочаш,
не гатова?
І грудзі рэхам адазваліся ўздыхана
На голас цноты,
што грахом перапужана,
І я вачмі табе сказаў пашаны слова.

І сорам для цябе стаў новаю аздобай.
Калі ж пад ім дакор
хаваецца маўкліва
І хоча радасць вечнай
зацямніць жалобай,

Каханка, гэта будзе для мяне
жахліва!
Ты не ўздыхай, не чуйся
ўжо як пад хваробай,
Будзь дасканалай менш,
а болей будзь шчаслівай.

### ПРАБАЧЭННЕ

Спяваў пра любасць
між сяброў сваіх, не дзе я —
Адны мяне хвалілі, іншыя шапталі:
Кахаецца ён толькі,
мучыцца у жалі —
Ці большага не знае,
ці спяваць не ўмее.

У сталасць уступіў,
а розум не сталее,
Чаму ж у сэрцы шчэ агні
не адшугалі,
Ці ж голас вешчы з тым
багі падаравалі,
Каб кожная яго была апета дзея?

Ну й засцярога! —
У высокім тут натхненні
Узяў Алкея лютню
і накшталт Урсына
Я найграваць пачаў,
ды ўся мая сябрына

Разбеглася, панёсшы чуткі
у здзіўленні.
Рву струны, пхаю ў Лету
лютню заняменя.
Вяшчун такі, які слухач.

# ТАК І НЕ ПАБАЧУ БЕЛАРУСЬ...

***Паэт Міхась Кавыль, які жыве цяпер у ЗША, нават у апошні час у Беларусі друкуецца рэдка — ад выпадку да выпадку. Мала вядома і пра самога паэта. Таму пры сустрэчы я папрасіў яго расказаць перш за ўсё пра сваю паэтычную і чалавечую долю...***

**— Спадар Міхась, як жывецца беларускаму паэту на чужыне?**

— Па-ўсякаму. У Амерыцы я пагледзеў, як людзі жывуць, і сам трохі пажыў. Бо да Амерыкі жыццё маё было блуканнем па пакутах. Бацька загінуў у першую сусветную вайну на фронце. Яго разарвала снарадам. Чацвёра дзяцей засталіся сіротамі... Мелі мы тры дзесяціны зямлі. Маці не магла ўпраўляцца з хатняй гаспадаркай, і ў нашу сям'ю прыйшоў Язэп Бягунскі. Ён прыстаў да сястры ў прымы. Тры гады я пасвіў у іх свіней і авечак. А я ўжо быў падлеткам, да дзяўчат прыглядаўся і саромеўся пасвіць свіней... А вось у начлег ездзіў з задавальненнем. Усю ноч з хлопцамі палілі агонь, казкі расказвалі, песні спявалі... У Покрышаве я скончыў чатырохгадовую школу, паступіў у сямігодку ў Грэск. Быў камсамольцам. Пасля сямігодкі нават працаваў у райкоме камсамола. Праўда, нядоўга, бо паступіў у Белпедтэхнікум.

Пачалося новае для мяне жыццё. Я пазнаёміўся з паэтамі Сяргеем Астрэйкам, Уладзімірам Гуцькам, Францам Гінтаўтам, Уладзімірам Сядурам, Паўлам Бураўеем... Мы стварылі ў тэхнікуме літаратурны гурток. Увосень нас паслалі, як тады казалі, — на прарыў: у саўгас "Сляпянка" капаць бульбу. Трактар разарэ, а мы выбіраем... А на полі холад-холад... І мы з Уладзімірам Гуцькам уцяклі з таго прарыву. А за намі іншыя хлопцы. Праз тыдзень у тэхнікуме адбыўся сход, дзе разглядалі нашы паводзіны. Нас назвалі "кулацкімі падпявалами" і вынеслі розныя спагнанні. Некаторых выключылі з тэхнікума. Мне далі строгую вымову. Пратакол сходу накіравалі ў ГПУ.

Я тады друкаваўся ў "Піянеры Беларусі", бабруйскім "Камуністце", часопісе "Маладняк". 23 лютага да свята Чырвонай Арміі студэнты тэхнікума паставілі п'есу "Граніца на замку". Я там іграў пагранічніка. Пасля спектакля пачаліся танцы. І тут да мяне падыходзіць хлопец у скураной куртцы і кажа: "Давай выйдзем, мне з табой пагаварыць трэба". Мы выйшлі на вуліцу, а там стаяць два ГПУшнікі ў шэрых шынялях. Мне прад'явілі ордэр на арышт і павялі ў інтэрнат рабіць вобыск. Забралі рукапісы вершаў і адвялі на Савецкую вуліцу ў ГПУ. Адтуль у турму. Праз некалькі дзён выклікалі на допыт і прад'явілі абвінавачванне ў контррэвалюцыйнай агітацыі і ўдзеле ў арганізацыі "Саюз вызвалення Беларусі".

Вяла следства Надзея Навіцкая. На кожным допыце паўтарала: прызнавайся, прызнавайся... А ў чым прызнавацца? У "амерыканцы" я спрабаваў парашыць з сабою: перарэзаў вены на руцэ... Не атрымалася. Мяне кінулі ў карцэр. Судзілі завочна. А пасля суда выклікалі на калідор і аб'явілі прысуд Маскоўскай выязной калегіі: тры гады лагераў. Пагрузілі нас у вагоны і павезлі. У дарозе з яды давалі толькі камсу салёную. Паясі і піць хочацца, а вады няма... У адным са мной вагоне ехалі таксама Максім Лужанін, Уладзімір Сядура, Уладзімір Гуцька...

У Новасібірску нас пераганялі па лагерах. Я будаваў станцыю Сяданка, водную сістэму ля Уладзівастока. У лагеры я амаль не пісаў. Часцей думаў пра хлеб, чым пра вершы. Неспадзявана для сябе пачаў маляваць. Браў удзел у выставе зэкаў. Аднойчы, калі мелася прыехаць высокая камісія з Хабараўска, мне даручылі намаляваць наркома Ягоду. Далі фотакартку і з яе я намаляваў 13 партрэтаў, якія развесілі па бараках. Начальству партрэт спадабаўся і мне далі прэмію: дадатковы талон на суп.

За ўдарную працу мяне выпусцілі на чатыры месяцы раней. Прыехаў дадому... Мне кажуць: тыдзень пабудзь і зматвайся адсюль. Не маеш права жыць у прыгранічнай зоне. Я падумаў, падумаў і рашыў ехаць у Варонеж да свайго лагернага сябра Віцькі Краснавудскага. Працаваў там на заводзе "Камінтэрн", паступіў на рабфак, пасля ў педінстытут. Пры запаўненні дакументаў у анкеце на пытанне: ці быў судзімы, я не адказаў, паставіў прочырк. У інстытуце зноў стаў пісаць вершы. Страчыў па-расейску. Напісаў паэму пра Сталіна і паслаў у абласную газету, але не надрукавалі.

**— Няўжо Сталін быў вашым куміram?**

— Ды не! Але гэта ж быў 1938 год і, пішучы пра Сталіна, я страхаваў сам сябе ад арышту. Так мне думалася. Але гэта не дапамагло. Маю судзімасць раскрылі і мяне выслалі з Варонежа. Працаваў настаўнікам. У вёсцы Давыдаўка, куды я пераехаў неўзабаве, мяне застала вайна. У лістападзе 1941 года быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Паслалі ў вучэбны лагер на Далёкі Усход. Амаль у тыя самыя мясціны, дзе я праходзіў зняволенне... Вось як жыццё можа павярнуцца. А праз паўгода я ўжо быў на фронце. Давезлі нас да станцыі Купінск. Далей была перадавая. У вёсцы Вялікая Шабалінка размеркавалі па ротах. Я апынуўся ў разведцы. Але доўга не павяяваў. Трапіў у акружэнне, а пасля ў палон... Трымалі нас немцы ў калгасным двары. Не кармілі. Дык елі чалавечыну... Ноччу мы з сябрам спалі па чарзе, бо баяліся, каб не прырэзалі і не з'елі свае ж таварышы... Ад голаду людзі вар'яцелі... У траўні 1942 года ў лагер прыехала нейкае начальства. Нямецкі афіцэр пастроіў нас і пытае на ломанай рускай мове: "Товарищи, кто желает бороться со Сталиным, — три шага вперед!" І я выйшаў. Цярпець невыносны голад болей не было сіл.

З тых, хто зрабіў тры крокі наперад, асобна вылучылі беларусаў. Накармілі, пагрузілі ў машыны і павезлі ў Польшчу. Там нас прадставілі Фабіяну Акінчыцу. Ён дапытаў усіх. Пасля гэтага пачаліся заняткі ў лагеры ў Кельцах. Мы вывучалі беларускую гісторыю, нямецкі новы парадак, асновы прапаганды... Займаліся цэлую зіму. Ахоўваў нас бязрукі немец. Часта ганялі разгружаць вугаль. Немцы, якія ахоўвалі станцыю, прасілі, каб мы спявалі ім "Кацюшу". Чамусьці вельмі любілі гэтую рускую песню... Па сканчэнні навучання нас прывезлі ў Мінск, пасялілі ў падвале разбітага дома. Назаўтра мы атрымалі прызначэнні на працу. Я стаў працаваць у аддзеле прапаганды Генеральнага камісарыята, які размяшчаўся ў былым будынку ЦК КПБ. Там працавалі беларускія журналісты, мастакі, паэты. Начальнікам быў немец Шрэтар. Асаблівай працы не было. Працуючы ў аддзеле, я напісаў паэму "Пад небам Случчыны каханай". Яна была надрукавана ў часопісе "Новы шлях". Калі арганізаваўся Саюз беларускай моладзі, я вітаў яго нараджэнне такім вершам:

**Арляняты маладыя —**
**Маладыя, смелыя, —**
**Падымайце у сонца сцягі**
**Бел-чырвона-белыя.**

**Падымайце і нясіце,**
**Дзе маланкі бліскаюць,**
**Каб у сонечнае заўтра**
**Крочыць сцежкай блізкаю.**

**Каб у сонечнае заўтра,**
**У сям'ю вялікую**
**З песняй гучнаю з'явіцца**
**Сілай мнагалікаю.**

**Каб звінела наша песня**
**Над старонкай роднаю,**
**Каб гарэла наша сэрца**
**Радасцю народнаю.**

Гэты верш прачытаў кампазітар Мікола Куліковіч і напісаў на яго музыку. Атрымалася добрая песня, якую спявалі сябры СБМ.

Зрэдку я выступаў на Мінскім радыё, якое вёў паэт Уладзімір Дудзіцкі. З ім мы вучыліся ў тэхнікуме, а пасля разам сядзелі ў турме. У мае абавязкі ўваходзіла таксама падрыхтоўка артыкулаў у "Беларускую газету". Незадоўга перад адступленнем мне даручылі абслугоўваць прапагандысцкую машыну. Я ездзіў у ёй на Камароўскі і Чэрвеньскі рынкі і чытаў зводкі з фронту.

**— Чыталі па-беларуску?**

— Так. Зводкі былі ў асноўным з "Беларускай газеты". Пасля інфармацыі я круціў пласцінкі з нямецкай музыкай. Часта бываў у гарадскім тэатры. Іншы раз перад спектаклямі выступаў з лекцыямі. Немцаў не любіў, бо ведаў, што яны вытваралі. Але яны дазвалялі нам, беларусам, займацца беларускай справай, развіваць сваю культуру і выхоўваць дзяцей у беларускім духу. Ад бальшавікоў мы і гэтага не мелі.

**— А ці было хоць нейкае літаратурнае жыццё ў Мінску?**

— Ну якое там жыццё?! Пісалі вершы і друкавалі іх.

**— Немцы не прымушалі паэтаў услаўляць іх новы парадак?**

— Не, прымусу не было. Хоць вядома: кожны акупант любіць, каб яго хвалілі. Але я і не прыпомню, каб іх услаўляў хтонебудзь...

**— Працуючы ў Генеральным камісарыяце, сустракаліся з Кубэ?**

— Адзін раз. Кажуць, што ён пабеларуску размаўляў і пісаў вершы. Я пра гэта не ведаю. Але ведаю дакладна, што Кубэ — добрае паскудства!

**— Прапагандысты хадзілі ў нямецкай форме?**

— Не, у цывільным.

**— Ці адчувалася ў Мінску прысутнасць падпольшчыкаў?**

— Так. Іх акцый было шмат. Ад таго гінулі часцяком мірныя людзі. Бо калі забівалі нямецкага салдата, немцы расстрэльвалі на месцы злачынства ўсіх, хто трапляў пад руку. Шмат цывільных нявінных людзей загінула, калі партызаны ўзарвалі гарадскі тэатр.

**— Раскажыце, як вы пакідалі Мінск?**

— Я ўцякаў на апошнім цягніку. Чырвоная Армія ўжо ўвайшла ў Мінск. Ледзь паспеў. Дабраўся ў Берлін. Нейкі час быў кіраўніком СБМ на нямецкім заводзе, дзе працавалі беларускія дзеці. Калі нас занялі амерыканцы, я пераехаў у беларускі лагер Бакнан. Рэдагаваў газету "Беларуская трыбуна", выдаў зборнік вершаў "Ростань". Украінскі мастак намаляваў для яе вокладку.

**— А якім накладам выйшаў зборнік?**

— Не ведаю, мне далі цэлы рукзак і я насіў яго ўсюды за сабой. У Нямеччыне я завербаваўся на тры гады здабываць вугаль у Бельгіі. Там працавалі палонныя немцы. Я прабыў там шэсць і ўцёк назад у Нямеччыну. У той час беларусы праз Сусветную раду цэркваў атрымалі ліміты на ўезд у Амерыку. Так я дабраўся да Саут-Рывера. Працаваў на фабрыцы Форда. Закручваў гайкі. Мне было цяжка і я перайшоў на ткацкую фабрыку. Дапрацаваў да пенсіі...

**— Амерыка не адбіла ў вас жаданне пісаць?**

— Не, пісаць то пісаў. Цяжка было нешта выдрукаваць. Дапамагалі мне і Ян Пятроўскі, і Уладзімір Пялеса, і Вітаўт Кіпель... Нейкі даследчык з Польшчы напісаў у сваёй працы, што ён не ўяўляе беларускай паэзіі без санетаў Кавыля...

**— Чым вас прывабіла гэтая складаная паэтычная форма вершаскладання?**

— Сам не ведаю. Мне параіў паспрабаваць напісаць санет Антон Адамовіч. Ён выклаў мне тэорыю. Я ўвасобіў яе ў два вянкі санетаў. Ёсць яшчэ такая форма, як вянок вянкоў санетаў. Не кожная нацыянальная літаратура можа пахваліцца вянком вянкоў. Няма пакуль і ў нас...

**— Спадар Міхась, — ёсць!**

— А хто напісаў?

**— Зміцер Марозаў, "Апакаліпсіс душы".**

— Я віншую яго. Вялікай паэзіі ў вянку вянкоў можа і не быць. Але тэхнічна гэта пад сілу толькі вельмі працалюбіваму, упартаму і таленавітаму чалавеку.

**— Спадар Міхась, як вы лічыце, ці ёсць у вас свой мастацкі паэтычны стыль?**

— Няма. Доўгі час мая паэзія была грамадзянскай. Бо мы, беларускія эмігранты, былі змагарамі з бальшавізмам. Паэзія дзеля паэзіі — гэта не для эміграцыйнага паэта. Разам з тым я шмат бяру ад народнай творчасці. Мой верш напеўны, яго можна спяваць. Кампазітары Мікола Куліковіч, Мікола Равенскі, Ксаверый Барысавец паклалі мае вершы на музыку. Песню "Васілёчкі" на эміграцыі спяваюць ужо гадоў пяцьдзесят...

**— Вы пішаце таксама прозу...**

— Крыху... Закончыў аўтабіяграфічны раман "З агню ды ў полымя". Раней былі напісаны мае драматычныя творы: "Недаспяваная песня" — драма ў трох дзеях, прысвечаная Слуцкаму паўстанню, "Марынка" — вершаваная п'еса для дзяцей. Займаўся журналістыкай. Рэдагаваў "Беларускую думку", дасылаў допісы ў "Новое русское слово" ў Нью-Йорку...

**— Спадар Міхась, ці хацелі б вы друкавацца ў Беларусі?**

— Тут такая справа. Калісьці першым пра гэта напісаў, здаецца, Сяргей Хмара: не існуе дзвюх беларускіх літаратур — савецкай і эміграцыйнай. Беларуская літаратура адзіная, дзе б яна ні была створана. Я марыў калісьці, што вярнуся на Бацькаўшчыну. Думаў, расстанне маё часовае. Але цяпер я разумею, што гэта была мара. На самай справе гэта немагчыма. Я не вярнуся на Беларусь, пакуль мяне не рэабілітуюць. Пакуль я баюся туды ехаць... Там жа ва ўладзе засталіся ўчарашнія камуністы. Як я магу ім верыць? Я ж з імі змагаўся... Мабыць, памру, так і не пабачыўшы Беларусь...

**Гутарыў Леанід ПРАНЧАК**

# НА ДЗЯРЖАВУ СПАДЗЯВАЙСЯ, А ДАПАМОЖА... СОРАС

Беларускі фонд Сораса абвясціў вынікі конкурсаў тэатральных праектаў і часопісаў культурнага накірунку. Рашэннем экспертнага журы і Назіральнай рады БФС падтрыманы наступныя тэатральныя праекты: пастаноўка спектакля "Тэарэма" паводле кінасцэнарыя П. Пазаліні (кіраўнік В. Катавіцкі) у Дзяржаўным маладзёжным тэатры (грант — 3000 долараў ЗША); пастаноўка спектакля "Купала" А. Дударава (кіраўнік В. Раеўскі) у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы (грант — 4000 долараў ЗША); пастаноўка спектакля "Сродак Макропулуса" К. Чапека (кіраўнік М. Пінігін) у Беларускім акадэмічным тэатры імя Я. Коласа (грант — 2000 долараў ЗША); пастаноўка спектакля паводле п'есы "Круці не круці — трэба памярці" і кнігі ўспамінаў Ф. Аляхновіча "У кіпцюрах ГПУ" (кіраўнік М. Трухан) у тэатры "Дзе-Я?" (грант — 3000 долараў ЗША); пастаноўка спектакля "Дрэва багоў" І. Сідарука (кіраўнік М. Шавель) у Брэсцкім абласным тэатры лялек (грант — 3000 долараў ЗША); пастаноўка спектакля "Брат мой Сымон" У. Рудава (кіраўнік У. Рудаў) у Тэатры-лабараторыі беларускай драматургіі "Вольная сцэна" (грант — 3000 долараў ЗША).

У конкурсе для часопісаў культурнага накірунку перамаглі: "Мастацтва" (грант для набыцця камп'ютэра і прынтэра), "Роднае слова" (грант для набыцця камп'ютэра і прынтэра), "Крыніца" (грант для набыцця лазернага прынтэра), "Калоссе", г. Наваполацк (грант для набыцця наборнага камп'ютэра і грант у памеры 500 долараў ЗША на выдавецкія выдаткі), "Свіцязь", г. Гродна (грант для набыцця наборнага камп'ютэра і грант у памеры 500 долараў ЗША на выдавецкія выдаткі), журналісцкая арганізацыя часопіса "Спадчына" і часопіс "Годнасць" (грант для набыцця камп'ютэра і прынтэра ў супольнае карыстанне), часопісы "Полымя" і "Першацвет" (гранты для набыцця наборных камп'ютэраў), часопіс "Маладосць" (грант для набыцця ксеракса). Пералічанае абсталяванне набываецца для супольнага карыстання супрацоўнікамі чатырох вышэйназваных часопісаў).

**Н. К.**

## ПА ЎСІХ ГАЛІНАХ КУЛЬТУРЫ МОЖНА ЎДАСКАНАЛІЦЬ СВАЕ ВЕДЫ Ў БЕЛІПК

**З верасня 1991 года Беларускі інстытут праблем культуры займаецца павышэннем кваліфікацыі і перападрыхтоўкай работнікаў і спецыялістаў у галіне культуры (замест ліквідаванага Рэспубліканскага інстытута павышэння кваліфікацыі). Факультэт павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў БелІПК складаецца з наступных асноўных структурных адзінак: кафедра псіхолага-педагагічных дысцыплін і культуралогіі, кафедра кіравання і сектар арганізацыі вучэбна-метадычнай работы.**

**Слухачамі факультэта з'яўляюцца работнікі культуры з усіх абласцей рэспублікі і горада Мінска. Гэта выкладчыкі ДМШ, ССНУ, школ мастацтваў, кіраўнікі калектываў, студый, гурткоў, метадысты і сацыёлагі, культарганізатары, рэжысёры і кіраўнікі народных тэатраў, бібліятэкары, супрацоўнікі музеяў, дырэктары і намеснікі дырэктараў клубных установ і гэтак далей. Трэба адзначыць, што калі адбылося аб'яднанне культуры і друку ў адно Міністэрства, на факультэце БелІПК пачалі павышаць сваю кваліфікацыю карэспандэнты і супрацоўнікі рэдакцый газет.**

**Слухачам факультэта даюцца веды не толькі вузкаспецыяльныя, але і па пытаннях творчых форм работы, арганізацыі вучэбнага працэсу, лекцыі па педагогіцы, псіхалогіі, кіраванні, заканадаўстве, па эканамічных праблемах, разглядаюцца пытанні арганізацыі работы ў новых умовах гаспадарання, маркетынг, рэклама, тэмы, звязаныя з адраджэннем і развіццём нацыянальнай культуры. Такім чынам, мы бачым, што супрацоўнікі інстытута ставяць сваёй мэтай падрыхтаваць агульнаадукаванага спецыяліста з пашыраным светапоглядам, садзейнічаць фарміраванню і развіццю яго здольнасцей у творчай дзейнасці.**

**Стацыянарныя заняткі для слухачоў працягваюцца ў сярэднім 2-4 тыдні і праходзяць у форме лекцый, семінараў, практычных заняткаў, дзелавых і "ролевых" гульняў, "круглых сталоў"; спецыялісты знаёмяцца з перадавым вопытам устаноў культуры. Кіраўнікі ў працэсе навучання праходзяць стажыроўку на базе ўстаноў культуры. Таксама павышаюць сваю кваліфікацыю некаторыя спецыялісты без адрыву ад асноўнай працы.**

**Сектар арганізацыі вучэбна-метадычнай работы займаецца арганізацыяй вольнага часу слухачоў. У гасцёўні інстытута арганізоўваюцца творчыя сустрэчы з рэжысёрамі, пісьменнікамі, акцёрамі, кампазітарамі, спевакамі; адбываюцца цікавыя канцэрты; слухачы наведваюць тэатры, музеі, выстаўкі.**

**Па заканчэнні навучання пасля заліку ці экзамена слухачы атрымліваюць пасведчанне ўстаноўленага ўзору. Зразумела, што якасць падрыхтоўкі кадраў на факультэце залежыць ад узроўню выкладчыкаў. Таму для чытання лекцый і правядзення практычных заняткаў інстытут запрашае вядучых спецыялістаў і практыкаў з вышэйшых навучальных устаноў, Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў, спецыялісты з Міністэрства культуры і друку, з Міністэрства фінансаў, Нацыянальнай бібліятэкі і з іншых устаноў культуры.**

**Адна з асноўных праблем сёння — неўкамплектаванасць груп слухачоў. На гэта ёсць аб'ектыўная прычына — фінансавыя цяжкасці ў галіне культуры і сацыяльная нестабільнасць з'яўляюцца прычынай таго, што памяншаецца колькасць устаноў культуры, скарачаюцца штаты, і часта самі работнікі галіны не зацікаўлены ў павышэнні сваёй кваліфікацыі з-за адсутнасці матэрыяльнага стымулявання.**

**Ад якасці падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спецыялістаў усіх узроўняў залежыць будучы стан нашай культуры. Думаецца, што Беларускі інстытут праблем культуры робіць усё магчымае, каб усе катэгорыі работнікаў культуры набывалі неабходны высокі ўзровень сучасных ведаў. Усіх, хто хацеў бы пашырыць, удасканаліць свае веды, — запрашаем да нас на заняткі.**

І. СМАРГОВІЧ,
метадыст інфармацыйна-аналітычнага аддзела Бел. ін-та праблем культуры

## У НОВЫМ БУДЫНКУ МУЗЕЯ



**У адрэстаўраваным прыгожым і старадаўнім будынку па вуліцы Будзёнага размясціўся цяпер у Брэсце абласны краязнаўчы музей. Яго першая экспазіцыя прысвечана знамянальнай даце — 50-годдзю Перамогі. Залы музея расказваюць пра старажытную гісторыю Брэста і вобласці, побыт і традыцыі краю.**

***На здымку: новы будынак Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.***

***Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ***

# ДОЎГАЯ ДАРОГА ДА ДОМУ

Адной з самых малавядомых старонак другой Сусветнай вайны з'яўляецца такая народжаная ёю з'ява, як рэпатрыянты.

Колькі іх усё-такі было? На канец вайны за межамі СССР іх аказалася 4 755 942 (грамадзянскіх асоб і ваеннапалонных). Да 1 сакавіка 1946 года ў Савецкі Саюз было рэпатрыявана амаль 4,2 мільёна, а з 1 сакавіка 1946 года па 1 студзеня 1952 года яшчэ каля 105 тысяч чалавек.

Паводле афіцыйных дадзеных, каля 10 працэнтаў савецкіх грамадзян, якія апынуліся за мяжой (451 561 чалавек), перамешчаных асоб, іншых людзей, занесеных ураганам вайны ў чужыя краі. Людзі пераважна цягнуліся дадому.

У канцы вайны ў заходняй частцы Германіі, напрыклад, знаходзілася каля двух мільёнаў савецкіх грамадзян. Працэс іх рэпатрыяцыі праходзіў інтэнсіўна, за два месяцы савецкім прадстаўнікам было перададзена 1 393 902 чалавекі. Звесткі пра гэты перыяд адрывістыя, і цяжка сказаць, колькі было тых, хто супраціўляўся вяртанню.

Праўда, далёка не ўсе з гэтых двух мільёнаў змаглі б даказаць сваё поўнае недачыненне да якога б там ні было былыя ваеннапалонныя, выпушчаныя з лагераў саюзнікаў, — як правіла, па абвінавачанні ў шпіянажы. Увогуле з пачаткам "халоднай вайны" людзей, арыштаваных за шпіянаж і асуджаных па 58-м артыкуле КК РСФСР, рабілася ўсё больш. Сярод іх — і ўдзельнікі антыфашысцкага Супраціўлення. Вядомы выпадкі, напрыклад, калі да 1945 года людзі сядзелі ў нацысцкім Бухенвальдзе, а пасля разгрому фашызму апынуліся тут зноў у якасці вязняў, але ўжо іншага гатунку.

У асноўным гэта былі сацыял-дэмакраты, незадаволеныя зліццём іх партыі склалі "другую эміграцыю". Аднак у гэтую колькасць не ўключаны былыя савецкія немцы, жыхары заходніх абласцей Беларусі і Украіны і некаторыя іншыя. З улікам гэтых "іншаземцаў" колькасць "другой эміграцыі" перавышае 600 тысяч чалавек.

Прыблізна 75 працэнтаў савецкіх грамадзян, якія па розных прычынах не вярнуліся ў СССР і склалі "другую эміграцыю", складалі так званыя "заходнікі", г.зн. жыхары рэспублік і абласцей, што ўвайшлі ў склад СССР у 1939—1940 гадах (Літва, Латвія, Эстонія, Заходняя Беларусь, Правабярэжная Малдавія і Паўночная Букавіна). Астатнія — жыхары СССР у межах да 17 верасня 1939 года. Можна меркаваць, што ў "другой эміграцыі" апынулася не менш за 110 тысяч беларусаў.

З агульнай колькасці савецкіх грамадзян, якія склалі "другую эміграцыю", 103 716 чалавек (па дадзеных на І студзеня 1952 года) знаходзіліся ў заходніх зонах Германіі і Аўстрыі, 100 036 — у Англіі, 50 307 — Аўстраліі, 38 251 — ЗША, 27 570 — Швецыі, 19 675 — Францыі, 14 729 — Бельгіі, 7085 — Аргенціне, 6961 — Фінляндыі і інш.

Рэпатрыяцыя савецкіх грамадзян ажыццяўлялася на падставе сакрэтных пагадненняў Ялцінскай канферэнцыі. Вось адна з дырэктыў, падпісаных Сталіным:

**"Командующим войсками 1 и 2 Белорусских, 1, 2, 3 и 4 Украинских фронтов. Тов.Берия, тов.Меркулову, тов.Абакумову, тов.Голикову, тов.Хрулеву, тов.Голубеву.**

**Военным Советам фронтов сформировать в тыловых районах лагери для размещения и содержания бывших военнопленных и репатриируемых советских граждан на 10.000 человек каждый лагерь. Всего сформировать: во 2 Белорусском фронте 15, в 1 Белорусском фронте — 30, в 1 Украинском — 30, в 4 Украинском фронте — 5, во 2 Украинском фронте — 10, в 3 Украинском фронте — 10 лагерей...**

**Проверку возложить: бывших военнослужащих Красной Армии — на органы контрразведки "СМЕРШ", гражданских лиц — на комиссии НКВД, НКГБ, "СМЕРШ"...**

**И.Сталин»**

Сто лагераў! Далёка не ўсім пашчасціць прайсці гэтыя "праверкі". Акрамя паліцаяў, іншых здраднікаў, у гэтай масе — большасць тых, хто ў трагічныя першыя месяцы вайны апынуўся ў акружэнні, другія — вывезены на рабскія работы ў Германію. Для многіх Перамога азначала працяг пакут. Напрыклад, генерал Павел Рыгоравіч Панядзелін, які ў жніўні 1941 года на тэрыторыі Беларусі быў цяжка паранены і ў непрытомным стане трапіў у палон, у тым жа годзе па лжывым дакладзе быў завочна ў нас асуджаны да расстрэлу. Доўгія чатыры гады гітлераўскіх лагераў не зламалі генерала: падтрымліваў апалых духам, рашуча адмаўляўся ад супрацоўніцтва з немцамі. Пасля вызвалення ў маі 1945 года Панядзеліна арыштавалі, ён зноў трапіў у лагер, цяпер ужо савецкі. Панядзелін піша хадайніцтва Сталіну аб памілаванні. Але яго зноў судзяць 25 жніўня 1950 года і яшчэ раз прыгаворваюць да расстрэлу...

Перамога над гітлераўскай Германіяй прывяла ў рух сотні тысяч вязняў, перасупрацоўніцтва з ворагам. Толькі нямногія змаглі вытрымаць выпрабаванні ў нямецкіх лагерах, і таму былі такія, хто хоць ускосна, але ўсё ж памагаў варожай ваеннай машыне. Для большасці ж супрацоўніцтва абмяжоўвалася тым, што яны выконвалі брудную ці небяспечную работу ў абмен на крыху лепшыя, чым у лагерах, харчы і ўтрыманне.

Але праўда і тое, што тысячы савецкіх грамадзян добраахвотна змагаліся на баку немцаў. У хаосе майскіх і чэрвеньскіх дзён 1945 года многія з іх спрабавалі змяшацца з групамі перамешчаных асоб. Пры некаторых шанцах яны маглі б вярнуцца дадому і ніхто не даведаўся б пра іх дзейнасць. Але грамадская думка краін антыгітлераўскай кааліцыі была адназначна настроена супраць фашысцкіх памагатых у гады вайны. Паведамленне ў газеце "Нью-Йорк таймс" паказвае, як мала, мякка кажучы, спачування адчувалі людзі на Захадзе да рускіх, якія перайшлі на бок ворага. У ёй паведамлялася, што "рускія здраднікі ў колькасці ад 100 да 150 тысяч, якія ўтрымліваюцца як ваеннапалонныя, верагодна, прадстануць перад савецкім судом". На прэс-канферэнцыі 8 чэрвеня генерала Амара Брэдлі спыталі пра савецкія заявы з прычыны кепскага абыходжання з іх грамадзянамі ў амерыканскіх лагерах. Яго адказ быў загадкавы: "У нас ёсць рускія, але я не думаю, што Расія можа паскардзіцца на наша абыходжанне з імі. Мы захапілі ад 100 да 150 тысяч рускіх, якія змагаліся на баку немцаў. Я ўпэўнены, што гэтых людзей нічога добрага не чакае".

Яшчэ зусім нядаўна ніхто паняцця не меў пра тое, што лагеры Бухенвальд і Засксенхаўзен — гэтыя, можна сказаць, сімвалы, што ўвасаблялі ў свядомасці савецкага чалавека нацысцкую сістэму, аказваецца, не спынілі свайго існавання ў 1945-м, а "прапрацавалі" ажно да 1950-га.

У гэтым працэсе немалаважную ролю адыгралі так званыя спецлагеры, арганізаваныя ў 1945-м сіламі НКУС адразу ж пасля ўступлення ў Германію Чырвонай Арміі і размешчаныя ў асноўным проста ў былых нацысцкіх лагерах і канцлагерах (усяго 9 плюс дзве турмы). Падпарадкоўваліся яны аддзелу спецлагераў на тэрыторыі Германіі, які быў створаны загадам НКУС N 00315 ад 15 красавіка 1945 года. Ажно да 1948 года, калі аддзел быў перападпарадкаваны ГУЛАГу, непасрэднае кіраўніцтва ажыццяўляў намеснік міністра ўнутраных спраў СССР генерал-палкоўнік Іван Сяроў — легенда савецкіх карных органаў, без якога не праходзіла, здаецца, ніводная буйная карная акцыя.

У спецлагеры інтэрніраваўся так званы спецкантынгент — галоўным чынам немцы, якія актыўна падтрымлівалі нацысцкі рэжым, або займаліся шпіёнска-дыверсійнай і тэрарыстычнай дзейнасцю, супрацоўнікі гестапа і СД. Натуральна, не былі забыты і нашы суграмадзяне.

Статыстыка сведчыць, што працэнт людзей, так альбо іначай вінаватых, быў у гэтых лагерах сапраўды вялікі. Але відных нацыстаў сярод іх было мала, а па-сапраўднаму буйныя фігуры і зусім не значыліся — яны або хаваліся на Захадзе, або атрымалі прысуд ваеннага трыбунала і былі дэпартаваны ў СССР. У асноўным трапляла сюды сярэдняя і дробная рыбка. Сюды ж траплялі зноў і з камуністычнай, праследаваліся і члены іншых партый, у тым ліку і камуністы, нязгодныя з новым рэжымам.

Асаблівую групу сярод арыштаваных складала моладзь, фактычна падлеткі. Іх, як правіла, садзілі па падазрэнні ў прыналежнасці да так званага "вервольфу". Гэта арганізацыя была створана нацыстамі ў апошнія месяцы вайны для падрыўных партызанскіх дзеянняў, але яна не мела ні таго распаўсюджання, ні таго значэння, якое прыпісвалася ёй НКУС. Міф пра "вервольф" быў настолькі моцны, што па першым жа даносе арыштоўваліся цэлыя школьныя класы. Тысячы падлеткаў ад 12 да 18 гадоў былі кінуты ў лагеры — не ў спецыяльныя калоніі, а менавіта ў спецлагеры разам з сапраўднымі ваеннымі злачынцамі, дзе многія з іх загінулі ад голаду і хвароб.

Акрамя таго, праз спецлагеры прайшлі і тысячы іншаземцаў, перамешчаных асоб, нашых суайчыннікаў — былых усходніх рабочых, рускіх эмігрантаў. Для іх гэта былі перавалачныя пункты на шляху да маючай адбыцца дэпартацыі ў СССР.

Толькі на тэрыторыі Германіі было створана каля ста праверачна-фільтрацыйных лагераў. Усе савецкія грамадзяне, якія знаходзіліся ў лагерах для ваеннапалонных, вывозіліся або ехалі добраахвотна на работу ў Германію, пры вяртанні ў СССР праходзілі праверку ў гэтых лагерах. На іх заводзіліся анкеты, а потым, у многіх выпадках, да гэтых анкет дадаваліся нейкія матэрыялы, і так утвараліся праверачна-фільтрацыйныя справы. На жыхароў Беларусі яны ў цяперашні час знаходзяцца на захаванні ў КДБ Беларусі.

Акрамя таго, тут знаходзяцца картачкі і іншыя ўліковыя матэрыялы, узятыя Савецкай Арміяй з нямецкіх лагераў. Гэтыя картачкі былі раскасіраваны і разасланы ў тыя вобласці рэспублікі, адкуль чалавек прызываўся ў армію, або туды, дзе ён нарадзіўся.

Арышты праводзіліся спачатку групамі "СМЕРШа", а потым опергрупамі НКУС, якія дзейнічалі ў Германіі паўсюдна. Арыштоўвалі проста ў былых нямецкіх лагерах, на вуліцы, на працы, у магістраце, куды выклікалі нібыта для рэгістрацыі. Як правіла, ніякага расследавання не праводзілася, ды ў ім не было асаблівай патрэбы, паколькі асобы, якія накіроўваліся ў спецлагеры па загадзе N 00315, забіраліся ў асаблівым парадку. Ім не прад'яўлялася абвінавачванне, а таму не было неабходнасці ні ў санкцыі ваеннага пракурора, ні ў следчых матэрыялах.

У КПЗ ператвараліся не толькі былыя паліцэйскія ўчасткі, але і гаражы, падвалы, хлявы. Сродкі выкарыстоўваліся звычайныя: пабоі, кругласутачныя допыты, пагрозы расстрэлу.

Спецлагеры ўтрымліваліся ў рэжыме найстрогай сакрэтнасці — нават нашай роднай савецкай авіяцыі забаранялася ажыццяўляць над імі палёты: маглі ж сфатаграфаваць з паветра...

Катэгарычна забаранялася перапіска з родзічамі. Да 1948 года, калі на свабоду пачалі выпускаць першыя групы зняволеных, іх сем'і практычна нічога пра іх не ведалі.

Інтэрніраваным не дазвалялася слухаць радыё, ажно да 1947 года — чытаць газеты і, у залежнасці ад характару лагера, пісаць, чытаць, маляваць, дыскута-

ваць на палітычныя тэмы і г.д.

Знешнюю ахову забяспечвалі часці НКУС, аднак унутрылагерны парадак падтрымліваўся лагернымі фарміраваннямі са зняволеных, пераважна крымінальнікамі.

Хоць у спецлагерах у Германіі, як правіла, не было ні катаванняў, ні масавых забойстваў, але смяротнасць была надзвычай высокая: голад і холад выкошваў людзей. Толькі нямногія шчаслівчыкі мелі цёплыя рэчы. У Бухенвальдзе і Засксенхаўзене зняволеныя насілі паласатую вопратку, якая засталася ад вязняў нацысцкіх канцлагераў.

Асабліва цяжкімі для іх былі 1946 і 1947 гады. З лістапада 1946-га нормы харчавання рэзка зменшыліся: 300 грамаў хлеба і міска пустой баланды — такім быў штодзённы рацыён у лагеры. З-за голаду, антысанітарыі і цесняты пачаліся эпідэміі тыфу, туберкулёзу. Нават лагерная медыцына была вымушана канстатаваць: "...становішча ў лагеры з захворваемасцю на туберкулёз лёгкіх і аліментарную дыстрафію катастрафічнае. Паражонасць туберкулёзам — 30% усяго спецкантынгенту, 11,3% аліментарнай дыстрафіяй... усяго хворага спецкантынгенту 46,3%".

З канца 1948 года пачынаецца паступовая ліквідацыя спецлагераў. У 1950 годзе закрываюцца апошнія — Бухенвальд, Заксенхаўзен. Выпушчаныя з савецкіх канцлагераў, калі толькі яны не перайшлі на Захад, павінны былі маўчаць пра тое, што з імі было. Усяго ў спецлагерах на тэрыторыі Германіі па папярэдніх дадзеных утрымлівалася каля 200 тысяч вязняў, памерла з іх прыблізна 50 тысяч, 756 былі асуджаны ваенным трыбуналам да смяротнага пакарання. Больш за 130 тысяч з агульнай колькасці былі савецкімі грамадзянамі.

Сярод іх было нямала і ўраджэнцаў Беларусі, але ўстанавіць нават прыблізна іх колькасць не ўяўляецца магчымым. Праўда, на гэтае і іншыя пытанні могуць адказаць архівы КДБ РБ. Мы ж можам аднавіць у памяці трагічныя лёсы толькі асобных з іх.

Вось адзін з вязняў. Нарадзіўся Антон Каласоўскі ў пачатку стагоддзя ў Мінску ў сям'і чыгуначніка. Прызваны ў 39-м у Чырвоную Армію, стаў артылерыстам, камузвода, а затым разведчыкам. Нямецкая мова, разрады па боксе і плаванні, валоданне стралковай зброяй, аўтамабілем, уменне ўжывацца ў іншы вобраз сталі перадумовамі класнага разведчыка. Вайна застала яго, радавога, на мяжы, у Гродне. Потым было раненне, шпіталі, эвакуацыя, бамбёжкі, зноў фронт; удзельнічаў у "Аперацыі па поўным і канчатковым вызваленні Украіны ад гітлераўскіх захопнікаў" — так афіцыйна называліся бессэнсоўныя дзеянні, падтрыманыя Сталіным, якія адкрылі праціўніку шлях на Волгу. Зноў быў паранены, трапіў у палон; уцёк, зноў быў схоплены, уцёк з-пад расстрэлу; у канцлагеры ў Эсэне перажыў пекла — бамбардзіроўку саюзнікамі Крупаўскіх заводаў; актыўна дзейнічаў у аўстрыйскім Супраціўленні.

Працаваў А.Каласоўскі, натуральна, не адзін. Ён уваходзіў у антыфашысцкі ланцужок, які збіраў дадзеныя аб нямецкім узбраенні, у тым ліку і аб "Фау-1" і "Фау-2".

Адразу ж пасля вызвалення Вены ён трапіў у лапы "СМЕРШа", там жа апынулася нямала яго ўчарашніх паплечнікаў па антыфашысцкай барацьбе. Спачатку ім паведамілі, што іх накіруюць у Маскву. Можна ўявіць, пра што думаў малады разведчык. Калі не пра ўзнагароду, то ўжо пра падзяку напэўна.

Масква была сапраўды, толькі — Лефортаўская турма, затым — дзесяць гадоў лагераў. Такі быў прысуд Асобай нарады ў складзе Абакумава, Алфёрава, Меркулава — за здачу нібыта ў палон і за ўсё астатняе. Потым доўгія гады знаходжання ў Сіблагу, вызваленне, рэабілітацыя... Апошні раз мне давялося гутарыць з гэтым цудоўным чалавекам у Новасібірску ў 1989 годзе. У снежні 1990 года ён раптоўна памёр...

Гэта — толькі адзін лёс на агульным фоне тысяч трагедый.

У рэшце рэшт гісторыя на ўсім расстаўляе акцэнты, устанаўлівае імёны сапраўдных герояў, вяртае памяць пра іх.

**І.КУЗНЯЦОЎ,**

**кандыдат гістарычных навук**

# АД ПРАДЗЕДАЎ СПАКОН ВЯКОЎ...

## З ДЗЯРЖАЎНАГА СПІСА ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ

### ПА НЕРУХОМЫХ КАШТОЎНАСЦЯХ

***Да 3-й катэгорыі (адметныя рысы гісторыка-культурнай спадчыны асобных рэгіёнаў рэспублікі)***

адносены:

| | |
|---|---|
| I. Сядзібна-паркавы комплекс "Антонава"<br>а) фрагменты парку<br>б) алея<br>в) гаспадарчыя пабудовы | Мінская вобл.<br>Капыльскі р-н<br>В. Сінячова |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Пукала"<br>а) сад<br>б) сядзібны дом<br>в) паркавы павільён<br>г) будынкі гаспадарчага двара | Мінская вобл.<br>Капыльскі р-н<br>В. Сунаі |
| Парк "Бабоўня"<br>а) парк<br>б) водная сістэма<br>в) бровар | Мінская вобл.<br>Капыльскі р-н<br>В. Бабоўня |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Таўкацэвічы"<br>а) парк<br>б) сажалкі<br>в) свіран<br>г) стайня | Мінская вобл.<br>Уздзенскі р-н<br>В. Таўкацэвічы |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Завушша"<br>а) парк<br>б) руіны капліцы<br>в) леднік<br>г) свіран<br>д) млын | Мінская вобл.<br>Нясвіжскі р-н<br>в. Завушша |
| I. Парк Наруцэвічы<br>а) парк<br>б) стайня | Мінская вобл.<br>Нясвіжскі р-н<br>В. Наруцэвічы |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Сула"<br>а) фрагменты парку<br>б) вадаём<br>в) капліца<br>г) гаспадарчыя пабудовы<br>д) афіцына<br>е) лядоўня | Мінская вобл.<br>Стаўбцоўскі р-н<br>в. Сула<br>Літвінаўскі с/с |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Вялікі Двор"<br>а) парк<br>б) вадаём<br>в) сядзібны дом<br>г) руіны свірна | Мінская вобл.<br>Стаўбцоўскі р-н<br>в. Вялікі Двор |
| Парк "Трусавічы"<br>а) парк<br>б) вадаёмы<br>в) лядоўня | Мінская вобл.<br>Лагойскі р-н<br>в. Трусавічы |
| Парк "Малыя Бясяды"<br>а) парк<br>б) вадаём<br>в) алея лістоўніцы | Мінская вобл.<br>Лагойскі р-н<br>в. Малыя Бясяды |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Ляцешын"<br>а) фрагменты парку<br>б) сады<br>в) вадаёмы<br>г) свіран<br>д) руіны аранжарэі | Мінская вобл.<br>Клецкі р-н<br>в. Ляцешын |
| Фрагменты сядзібна-паркавага комплексу "Галынка"<br>а) флігель-галубятня<br>б) руіны капліцы<br>в) фрагменты пасадкі былога парку<br>г) руіны фундаментаў былых збудаванняў | Мінская вобл.<br>Клецкі р-н<br>в. Галынка |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Цясноўка"<br>а) сядзібны дом<br>б) афіцына<br>в) сад<br>г) гаспадарчыя пабудовы | Мінская вобл.<br>Клецкі р-н<br>в. Цясноўка |
| Фрагменты сядзібы "Двор"<br>а) фрагмент парку<br>б) вадаём<br>в) дзве стайні | Мінская вобл.<br>Барысаўскі р-н<br>в. Вараўское |
| Брама | Мінская вобл.<br>Барысаўскі р-н<br>в. Мсціж |
| Парк "Нарач"<br>а) парк на тэрасах<br>б) свіран | Мінская вобл.<br>Мядзельскі р-н<br>пкт Нарач |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Капыліншчына"<br>а) фрагменты парку<br>б) сад<br>в) водная сістэма<br>г) сядзібны дом | Мінская вобл.<br>Дзяржынскі р-н<br>в. Волма |
| Парк в. Лешна<br>а) рэгулярны парк<br>б) вадаём | Мінская вобл.<br>Маладзечанскі р-н<br>в. Лешна |
| Сядзіба вялікіх князёў Раманавых<br>а) парк (фрагмент)<br>б) ліпавая алея<br>в) вадаёмы<br>г) парадны двор з каменным флігелем<br>д) новы сядзібны дом<br>е) памятны валун | Мінская вобл.<br>Барысаўскі р-н<br>в. Стары Барысаў |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Макраны". Руіны:<br>а) малочнага завода<br>б) капліцы<br>в) царквы<br>г) вадаём<br>д) рэшткі алеі і пасадак парку | Мінская вобл.<br>Капыльскі р-н<br>в. Красная Дубрава |
| Сядзіба Эдварда Вайніловіча<br>а) рэшткі пасадак парку, саду<br>б) алея<br>в) свіран | Мінская вобл.<br>Капыльскі р-н<br>в. Дунаева |
| Сядзіба Даманскіх<br>а) парк<br>б) рэшткі млына | Мінская вобл.<br>Слуцкі р-н<br>в. Заляддзе |
| Сядзіба Караля Сулітроўскага<br>а) тэрыторыя былога парку<br>б) алея<br>в) водная сістэма<br>г) касцёл<br>д) гаспадарчы двор<br>е) руіны бровара | Мінская вобл.<br>Мядзельскі р-н |
| Сядзіба Агінскіх<br>а) фрагменты парку<br>б) вадаём<br>в) дзве капліцы<br>г) царква | Мінская вобл.<br>Вілейскі р-н<br>в. Ганута |
| Сядзіба кампазітара С. Манюшкі<br>а) фрагмент алеі | Мінская вобл.<br>Чэрвеньскі р-н |
| б) рэгулярны парк (фрагмент)<br>в) тэрыторыя ўздоўж р. Волма былой сядзібы | в. Убэль |
| Сядзіба беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш.<br>а) парк<br>б) рэшткі саду<br>в) крыніца<br>г) водная сістэма | Мінская вобл.<br>Лагойскі р-н<br>в. Карпілаўка |
| Сядзіба Станіслава Прушынскага<br>а) тэрыторыя былога парку<br>б) тэрыторыя параднага двара<br>в) будынак свірна | Мінская вобл.<br>Мінскі р-н<br>в. Каралішчавічы |
| Сядзіба Томаша Зана і А. Тышынскага<br>а) сядзібны дом<br>б) тэрыторыя былога парку<br>в) водная сістэма (фрагмент) | Мінская вобл.<br>Маладзечанскі р-н<br>в. Мясота |
| Сядзіба мастака Ф. Рушчыца<br>а) фрагменты парку<br>б) месца пахавання Рушчыца<br>в) тэрыторыя былога касцёла<br>г) кароўнік | Мінская вобл.<br>Валожынскі р-н<br>в. Багданава |
| Сядзіба акадэміка В. В. Пашкевіча<br>а) фрагменты пасадак парку | Мінская вобл.<br>Дзяржынскі р-н<br>в. Гарутнікі |
| Сядзіба Ельскіх<br>а) тэрыторыя двара<br>б) водная сістэма | Мінская вобл.<br>Пухавіцкі р-н<br>в. Дудзічы |
| Сядзіба графаў Тышкевічаў<br>а) будынак палатнянай ф-кі<br>б) будынак стайні<br>в) вартоўня<br>г) лядоўня<br>д) цвінтар ля касцёла | Мінская вобл.<br>г. п. Лагойск |
| Сядзіба ў Шыпянах<br>а) жылы дом<br>б) стайня | Мінская вобл.<br>в. Шыпяны<br>Смалявіцкага р-на |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Туча"<br>а) сядзібны дом<br>б) вадаёмы<br>в) фрагменты парку<br>г) гаспадарчыя пабудовы<br>(свіран, кузня, рэшткі бровара) | Мінская вобл.<br>Клецкі р-н<br>в. Туча |
| Сядзібна-паркавы комплекс "Стайкі"<br>а) парк<br>б) водная сістэма<br>в) гаспадарчыя пабудовы | Мінская вобл.<br>Вілейскі р-н<br>в. Стайкі |
| Сядзіба графа Пуслоўскага ва ўрочышчы "Гутка"<br>а) драўляны двухпавярховы дом<br>б) лядоўня<br>в) вадакачка<br>г) дом для дворні | Гродзенская вобл.<br>Слонімскі р-н |
| Сядзіба Андрэя Тадэвуша Касцюшкі | Брэсцкая вобл.<br>Івацэвіцкі р-н<br>Косаўскі с/с<br>м. Марачоўшчына |
| 2. Будынак на вул. Ленінскай, 2<br>г. Нясвіж | Мінская вобл.<br>г. Нясвіж |
| Будынак на вул. Савецкай, 34<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Савецкай, 36<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Савецкай, 47<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Савецкай, 45<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Савецкай, 49<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Вялікай, 25<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Вялікай, 10<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Паштовай, 14<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Паштовай, 12<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Вакзальнай, 5<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Вакзальнай, 6<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Вакзальнай, 7<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Склад гаспадарчай крамы | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Рабочай, 18<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Вялікай, 21<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Бялова, 18<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Бялова, 22<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Будынак на вул. Паштовая, 11<br>у г. Заслаўі | Мінская вобл.<br>г. Заслаўе |
| Вадацяжная вежа | Віцебская вобл.<br>г. Полацк |
| 3. Канспіратыўная кватэра ўдзельнікаў Мінскага падполля | г. Мінск<br>в. Маякоўскага, 35 |
| Помнік ахвярам фашызму на беразе Прыпяці | Гомельская вобл.<br>г. Петрыкаў |
| Тры брацкія магілы | Брэсцкая вобл.<br>Пінскі р-н;<br>Пагост-Загародскі с/с |
| 4. Цэнтральная частка в. Жыровічы (уключаючы тэрыторыю Свята-Успенскага манастыра) | Гродзенская вобл.<br>Слонімскі р-н<br>в. Жыровічы |
| Будынкі стайняў на гаспадарчым двары с-са "Лошыца" | г. Мінск<br>вул. Чыжэўскіх |

*Працяг. Пачатак спіса — у нумары за 24 лютага г. г.*

*(Спіс будзе доўжыцца)*

**Сёлета спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння Абая (Ібрагіма) Кунанбаева, вялікага сына казахскай зямлі, выдатнага мысліцеля, паэта, філосафа, класіка літаратуры і родапачынальніка сучаснай казахскай літаратурнай мовы. Па рашэнні ЮНЕСКА, святкаванне 150-годдзя Абая ўключана ў Каляндар памятных і юбілейных дат. Юбілей будзе шырока адзначацца ў штаб-кватэры ЮНЕСКА, Пекіне, Лондане. Прайшлі Дні Абая ў Маскве і Санкт-Пецярбурзе. На свята на радзіме паэта запрошаны госці з многіх краін свету, у тым ліку і з Беларусі.**

**Пасольства Казахстана прапанавала ўвазе чытачоў газеты "Літаратура і мастацтва" артыкул вядомага казахстанскага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Казахстан Морыса Сімашкі.**

# АБАЙ — РЭХА СТАГОДДЗЯЎ

Свет здзіўляецца ўстойлівай стабільнасці ў Казахстане. Гэта нягледзячы на тое, што менавіта тут, здавалася, вецер гісторыі павінен раздзьмуць ледзь прыкрытае ідэалагічным шалупіннем вуголле. Усё тут было схільна да гэтага — шматнацыянальная церазпалосіца, рэзкае парушэнне векавых устояў жыцця, нарэшце, шматлікія раёны былога ГУЛАГа. І не толькі ў наш час. ГУЛАГ пачынаўся яшчэ два з паловай стагоддзі назад са знакамітай царскай катаргі ў вытоках Іртыша, з "Мёртвага дома", з якога свае нататкі пакінуў нам Дастаеўскі і сведкавыя акварэлі — Шаўчэнка. "Ты вялізнаю катаргай плаваў на карце!" — пісаў юны Олжас Сулейменаў пра сваю бацькаўшчыну. Сёння тут прадстаўлены ўсе цяжкасці і бязглуздасць постсавецкага перыяду ў поўнай меры. Жывуць тут былыя ссыльныя чачэнцы і інгушы, туркі-месхецінцы, уйгуры, немцы, карэйцы, рускія, беларускія і ўкраінскія перасяленцы часоў Пабеданосцава і Сталыпіна, нядаўнія "пакаральнікі цаліны" і будаўнікі гігантаў сацыялістычнай індустрыі; нарэшце, тры казачыя войскі здавён лічацца па ўскраінах стэпу.

Студэнцкія хваляванні ў Алмааце ў снежні 1986 г. былі выкліканы зусім не міжнацыянальнымі або сацыяльнымі праблемамі, а толькі неразумнай палітыкай тагачаснага кіраўніцтва. Як бы там ні было, кроў у Казахстане не льецца, наяўныя супярэчнасці вырашаюцца мірным шляхам. Усе недаўмяваюць з гэтай прычыны, акрамя саміх казахаў. І каб пранікнуць у гэты феномен, трэба чытаць Абая.

Абай — гэта люстэрка і душа аўтахтоннага народа, які спакон веку насяляе велізарнае стэпавае сэрца Еўразіі. Многія іншыя народы праходзілі тут з Усходу на Захад і з Захаду на Усход, пакідаючы гістарычныя сляды. Але аснова заставалася ўсё той жа. У апошнім тысячагоддзі гэты народ пачаў звацца казахамі...

Устойлівы еўрацэнтрызм у сусветнай навуцы сцвярджае некаторую фатальную адсталасць гэтай часткі вялікага кантынента, што перыядычна і нараджае пагрозу міру, якая адсюль ідзе. Легендарныя гогі і магогі, досыць рэальныя гуны, готы, манголы, туркі-сельджукі і іншая небяспека для Еўропы зыходзілі з гэтага боку свету. У рускай гістарычнай традыцыі гэтая велізарная прастора звалася Дзікім Полем. Стаўленне да яго выказвалася паэтычнай формулай "отмстить неразумным хазарам".

Але што і калі лічыць адсталасцю? Ужо ў наш адукаваны час зусім не тут нарадзілася ідэя, якая ўвасобілася ў стварэнні газу "цыклон" для знішчэння цэлых народаў. І не з гэтага боку з'явілася на свет утопія, якая патрабуе ліквідацыі цэлых класаў у народах. Пара ўжо разумець гісторыю не як адзін толькі рух у прасторы і часе матэрыяльных рэсурсаў і чалавечых мас. Сам дух чалавечы робіцца прадметам гісторыі і ўсё часцей праяўляецца менавіта там, дзе гучыць на розных мовах вечнае: "Мір вам!"

Пры гэтым неяк бязглузда выглядаюць хітрыя тэорыі пра тое, што качавое грамадства не можа валодаць высокай духоўнасцю, бо у бяскрайнім стэпе бачыць свет толькі ў гарызантальным напрамку, у той час як земляроб разам з раслінай цягнецца уверх, да Неба. Жыхары лясоў у такім выпадку абавязаны былі першымі ўгледзець Бога. Ды атрымалася так, што менавіта ў паўкачэўным народзе ўпершыню Анёл Божы адвеў руку з нажом патрыярха, занесеную над сынам. І гэта земляроб Каін забіў свайго брата — пастуха Авеля. Відаць, дух абуджаецца не ад таго, якой справай займаецца чалавек. Было б гэта даспадобы Богу.

А ў гэты самы час, калі на Захадзе друіды каля стойма пастаўленых камянёў яшчэ прыносілі чалавечыя ахвяры, адзінабоскасць ужо з'явілася ў сэрцы кантынента разам з каленамі ізраілевымі, якія ўцякалі або былі сасланы сюды пасля асірававілонскага пагрому. Некаторыя народы, у прыватнасці, пуштуны, адрозніваюць сябе на імені гэтых кален, лічаць Стары Запавет сваім нацыянальным эпасам, а дзяржаўнае імя сваё бяруць ад Афгана — сына цара Саула.

Потым сюды прыйшло хрысціянства, на першым часе — нестарыянскага толку, і я сам бачыў на раскопках старажытнага Мерва ў Каракумах руіны манастыра III стагоддзя з крыжам каля ўваходу. Канчаткова ўстанавіў тут адзінабоскасць з яго агульным адмаўленнем ахвяры чалавечай Іслам.

Часта забываюць, што не адны кагорты Аляксандра Македонскага, орды Аціла або тумены Чынгіс-хана праходзілі тут. Яны, як біч Божы, з'яўляліся час ад часу. Затое з дня ў дзень, з веку ў век, з тысячагоддзя ў тысячагоддзе жыў і абнаўляўся Вялікі Шаўковы шлях. Тыя ж вялікія імперыі садзейнічалі гэтаму стваральнаму руху, будуючы ваенна-паштовыя тракты з караван-сараямі, масты праз бездані, сардобы і заўзы для захоўвання вады, якія дзейнічаюць да гэтага часу. Менавіта тут, на Вялікім Шаўковым шляху, станцыямі якога адзначаны імёны Фарабі, Ясаві, Фірдуосі, Авіцэны, Хайяма, Харэзмі, Біруні, нарадзіліся алгебра і паэзія дары. Тут, на гэтых дарогах, чалавецтва захавала для сябе Платона і Арыстоцеля. І гэтым шляхам ад акіяна да акіяна сцвярджаўся дух адзінабоства.

І, магчыма, самай важнай станцыяй на гэтым шляху была Вялікая Хазарыя. Наследуючы Стэп ад Заходнецюркскага каганата, яна распасцірала свае інтарэсы ад нізоўя Дона і Прыаралля. І народ, які жыў тут і далей на Усход, жыве і цяпер, як жыў і тысячагоддзі да гэтага. А стаяла Хазарыя не толькі на шляху з Захаду на Усход, але і з варагаў на Поўдзень, праз Хазарскае мора, і ў Індыю. Натуральна і заканамерна, што раней, чым дзе-небудзь наўкола, сцвярджаўся тут дух адзінабоства. На Нёмане і Дняпры яшчэ пакланяліся ідалам, а тут, побач з афіцыйнымі іудзейскімі храмамі, ішлі ўжо службы ў першай на Волзе хрысціянскай царкве і першай тут мячэці. Не гогі і магогі, а тагачасныя еўрапейскія язычнікі разрабавалі гэтыя храмы, перадаўшы сваю гістарычную нецярпімасць да Хазарыі імперыі, што потым нарадзілася, — "Трэцяму Рыму". У выніку свядома скажона і амаль зусім не вывучана роля Хазарскага каганата ў духоўным станаўленні Еўразіі. І сёння некаторыя дамарошчаныя гісторыкі высакамерна лічаць Хазарскае царства, як і іншыя казахскія і прыказахскія дзяржаўныя ўтварэнні, нейкай гістарычнай "хімерай"...

І вось — Абай!... Трагічны, біблейскі смутак аб недасканаласці, грахоўнай сутнасці чалавецтва, і перш за ўсё — уласнага народа. Ён нібыта аб'яднаў усё мудрае і высокае, што змяшчаецца ў адзінай духоўнай плыні вялікіх рлігій. У ягоных словах — адкрыццях, гістарычных паэмах, вершах адчуваецца моц і прасвятленне старазапаветных прарокаў, ён успрымае ахвярную міласэрнасць Бога, што атрымала найвысокі сэнс у прароку Ісе (Ісусе Хрысце), бо ўсе яны шануюцца чыстым, незамутнёным Ісламам. Абай — мусульманін, выхаваны на тысячагадовай стэпавай традыцыі цэнтральна-азіяцкай галіны суфізма, якая бачыць пантэістычнае растварэнне Бога ва ўсім існым і пазбаўленай якіх бы там ні было прыкмет фундаменталізму. У гэтым яна абсалютна адкрыта ўсім іншым рэлігіям адзінабоства. Невыпадкова на новапабудаваных мячэцях тут часцяком разам з паўмесяцам прысутнічаюць крыж прарока Ісы і зорка Давіда.

У Абая сюды дадаюцца элементы будызму і канфуцыянства, якія мелі пэўны ўплыў у Стэпе. Глыбокія гістарычныя карані гэтай высокай духоўнасці, якая нібы ў люстэрку адбівае духоўную сутнасць казахаў. Не лішне сказаць, што нават паводле сведчанняў рускіх каланіяльных адміністратараў, пры ўсіх іншых чалавечых грахах, забойства чалавека ў Казахскім Стэпе выклікала жах і было надзвычайным здарэннем, пра якое перадавалі з пакалення ў пакаленне. Усіх сваіх суседзяў казахі так або іначай лічаць родзічамі. Ідэя еўразійскага міру і згоды, што зыходзіць з Казахстана, нарадзілася не на пустым месцы.

Але ні ў якім выпадку нельга лічыць Абая толькі прадуктам папярэдняй гісторыі. Як высокі і складаны духоўны інструмент, адлюстроўвае ён сучаснасць, адкрыты свету, імкнецца разгледзець будучыню чалавецтва і разам з ім свайго народа. І тут бачыцца самае непасрэднае пераламленне ў яго творчасці ідэй нацыянальнай самакрытыкі, характэрнай для ўсёй еўрапейскай і ў вышэйшай ступені рускай культурнай традыцыі. Чалавекападобная малпа гучна стукае сябе ў грудзі, сцвярджаючы свой расавы прыярытэт і пагражаючы астатняму свету. У народах, якія дасягнулі вышэйшай ступені цывілізацыі, нараджаюцца Свіфт, Мальер, Гогаль і Салтыкоў-Шчадрын. У казахаў — гэта Абай, які бязлітасна адмятае ўсё цёмнае, заскарузлае, недастойнае вялікага народа, што назапасілася ў ім тысячагоддзямі нялёгкага жыцця на шляхах гісторыі. І, як пшаніцу сярод пустазелля, знаходзіць і вылучае ён тыя светлыя традыцыі, якія вядуць да Бога.

**Морыс СІМАШКА**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Мытны пост перакрыў мост. "Што цяпер будзе?" — пытаюцца "чаўнакі". — "Ну вы і саўкі, — адказваюць старыя людзі, — што было, то і будзе — за праезд у Польшчу хабар большы". Насупілася акруга: "А там, за Бугам?"

•

Энерганосьбіты ў нас ствараюць гэту абстаноўку: як толькі даражэе газ, так даражэе газіроўка. Былі і іншыя гады, газ валадарыў іншым чынам: газіраванае вады вышэй быў кошт за кошт бензіну.

•

Пра дысертацыю адзін сказаў "Кампіляцыя", другі — "Прафанацыя", трэці — "Даследчык не мае рацыі". "Бачыце, — апеляваў дысертант да вучонай рады, — у апанентаў няма адзінства пагляду". Захісталася рада, дала "кандыдата"...

•

Выбіралі з двух адно: Чэслава ці Нікана. Мы абралі Нікана, а што ён заўтра выкіне?

•

Пра што там шэпчацца чарот? Пра тое ж, пра эротыку: за што кахае бегемот пачвару бегемоціху.

•

"Раздзявайцеся, адзявайцеся, можаце ісці"... Медыкі не трацяць часу на хворых, як ім да кожнага дайсці, калі такія чэргі ў калідорах? Многага не стае нашай медыцыне, найперш, абсталявання і лекаў, але галоўная прычына заняпаду медыцыны — няўвага да душы чалавека.

•

Чаму вераць снам? Бо тое, што сняць, бачаць.

•

Нармальныя плюхаюцца ў ванне, а ненармальныя падлічваюць, колькі пры гэтым выціскаецца вады. Нармальныя моршчацца, калі на галаву падае яблык, а ненармальныя тлумачаць усё прыцягненнем зямлі. Нармальныя абыякава пазіраюць, як варона снедае на дрэве, ненармальныя бачаць пад дрэвам лісіцу, якая выманіць у птушкі сыр. "Гэй, ненармальны, ідзі вячэраць", — кліча жонка мужа. "Разумееш, пагражальна пашыраецца дзірка ў азонавым слоі зямлі", — заклапочана кажа жонцы муж.


ЛіМ — ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Саюз беларускіх пісьменнікаў і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

*Х.Дунец (1932-35)*
*І.Гурскі (1935-41)*
*А.Куляшоў (1945-46)*
*М.Горцаў (1947-49)*
*П.Кавалёў (1949-50)*
*В.Вітка (1951-57)*
*М.Ткачоў (1957-59)*
*Я.Шарахоўскі (1959-61)*
*Н.Пашкевіч (1961-69)*
*Л.Прокша (1969-72)*
*Х.Жычка (1972-76)*
*А.Асіпенка (1976-80)*
*А.Жук (1980-86)*
*А.Вярцінскі (1986-90)*

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 10979.
Нумар падпісаны 29. 6.1995 г.
ЗАКАЗ 2240
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12